# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 118 September 2004 Верасень Год выд: 12.


## Мы — беларусы ці “квасныя патрыёты”?

Свае нататкі мне хацелася б пачаць з такой сцэнкі з нашага нацыянальнага жыцця. Маці на гарадской вуліцы пытаецца ў сына:

— Ігар, ты ўсе літары вывучыў?

Хлопчык уздыхаючы:

— Усе літары не вывучыш! З-за мяжы прывозяць у Беларусь усё новыя і новыя. Паглядзі, мама, колькі незразумелых літар на шыльдах.

...Яшчэ ў даваенныя гады Максім Гарэцкі пісаў пра настаўніка, які ў старой дарэвалюцыйнай школе за кожнае слова, сказанае школьнікам па-беларуску, біў лінейкай. Сёння, у пачатку XXI стагоддзя, вучняў не б'юць, але тыя ўпарта не жадаюць размаўляць на роднай мове. Ды і самі настаўнікі карыстаюцца матчыным словам хіба што толькі на ўроках. Што ж з намі як з нацыяй адбываецца? Чаму ж мы сталі людзьмі перакаці-поле, нейкімі “квасными патрыётамі”?

Адразу заўважу, што ва ўсім цывілізаваным свеце сёння мы назіраем цягу да славянскіх моў. Шматлікія замежныя лінгвісты з даўніх часоў цікавяцца беларускай моваю. У краінах СНД ёсць суполкі нашай мовы. А ў нас родная мова ледзьве існуе ў грамадстве; у школах лічыцца другарадным прадметам, нягледзячы на тое, што гэта дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь. Праўда, тэсты можна па выбары здаваць па-беларуску, але ж на вывучэнне беларускай мовы ў 10-11 класах адводзіцца толькі адна гадзіна на тыдзень. Ніхто так ва ўсім цывілізаваным свеце здзекліва і абразліва не ставіцца да роднай мовы!..

Роднае слова амаль поўнасцю выкінута і з сямейнага ўжытку. Назіраю аднойчы сцэнку ў кнігарні. Дачушка просіць маму купіць ёй кніжку. Паўза — і раптам чую:

— Гэтыя ж казкі па-беларуску!..

Прагучала з вуснаў маці так, як быццам па-беларуску — гэта па-нялюдску. Чаму часцей за ўсё ў нас беларуская мова патрэбна толькі пісьменнікам?.. Ідучы такім шляхам, у нас хутка і мастацкая літаратура, створаная імі, пачне выконваць толькі спецыфічна эстэтычную функцыю, айчынныя кніжкі не будуць прыносіць пачуцця асалоды чытачам. Мне як беларусу балюча і горка на сэрцы, што роднае слова ператварылася ў латынь... Гэта пры тым, калі ў бібліятэках безліч розных цікавых беларускіх кніг.

Без матчынага слова народ губляе сваё духоўнае аблічча: гінуць гістарычная спадчына, нацыянальная культура, зарастаюць дзірваном вытокі этнагенезу. “Дазвольце падзякаваць вас...” — гэтую фразу можна пачуць даволі часта і па радыё, і па тэлебачанні. Яна, зразумела, рэжа вуха. Атрымліваецца: нават тыя, хто гаворыць у нас па-беларуску, часта думаюць па-руску (правільна: падзякаваць вам!).

... А я ж запомніў на ўсё жыццё смачны пах куцці ў старэнькай бацькоўскай хаце. І ўрачыстыя поклічы бацькі: “Каляда! Каляда! Ідзі да нас куццю есці!” Сказана было на роднай мове, на той самай, якую чуў з самых першых год жыцця на роднай зямлі. А як хораша і непаўторна спявалі маці і бабуля народныя песні, ды і сама іх гаворка была трапна аздоблена шматлікімі беларускімі прыказкамі і прымаўкамі, параўнаннямі і афарыстычнымі злучэннямі слоўцаў роднай гаворкі. Гаварыў бацька па-беларуску — і нейкай боскай, шчодрай станавілася мая душа. Хацелася адразу любіць родную прыроду, тых людзей, што акружалі з маленства. Любіць свой род Карнелюкоў, даследаваць яго карані і вытокі, складаць генеалагічнае дрэва.

Сёння мы ўсе разам павінны змагацца за рэальны ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, за тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка — беларускага народа. За тое, каб усе мы, жыхары



Беларусі, усвядомілі: нацыя зможа выжыць, толькі адчуўшы сябе еднасцю: культурнай і эканамічнай. Адчуўшы Народам з вялікай літары. Я як грамадзянін выразна ўсведамляю, што з мэтай кансалідацыі грамадства і больш эфектыўнага стваральнага выкарыстання магутнай нацыянальнай энергіі менавіта адраджэнне беларускай мовы з'яўляецца адной з першачарговых культурных задач Рэспублікі Беларусь у пачатку XXI ст. Заўважу, што як еднасць, асабліва дзяржаўную, любы народ зберагае сябе толькі тады, калі не губляе сваёй мовы, рэлігійнай веры (а мы і верым у Бога то па-руску, то па-польску), праверaных шматлікімі выпрабаваннямі часу; звычаяў і самабытнасці, што яскрава занатаваны ў айчынным фальклоры. Якога, дарэчы яшчэ ў 70—80-я гады XX ст. было выдадзена ажно 30 тоўстых тамоў. А дзеля гэтага навукоўцы, выкладчыкі са студэнтамі аб'ехалі ўсе куточкі нашай Бацькаўшчыны, каб пачуць з вуснаў старажылаў тыя бессмяротныя дыяменты народнай мудрасці. Хочацца пажадаць сённяшняй моладзі такіх жа заўзятых вандровак — у народ, па фальклор.

Гісторыя беларускай духоўнасці нас вучыць многаму. Многаму можа навучыць і гісторыя беларускай эміграцыі, дасягненні якой у многіх галінах мовы, айчыннай духоўнай культуры часта перавышаюць айчынныя. Чаго не можа зрабіць увесь наш народ, з задавальненнем робяць свядомыя беларусы за мяжой. Беларусы свету імкнуцца шчыра і бескарысліва дапамагаць шматлікім ахвярам чарнобыльскай катастрофы. І мы на роднай зямлі павінны пашыраць і мацаваць кантакты з замежнымі суродзічамі, спрыяць развіццю і захаванню нацыянальных асяродкаў беларусаў ва ўсіх краінах свету, сябраваць з іншымі нацыямі.

Цікава ж, напрыклад, што наша слова “бульба” ведаюць далёка па-за межамі Беларусі. Сэнс яго мала каму трэба тлумачыць. То як жа не даражыць такім скарбам, як наша мова, як не шанаваць яе? Як не даражыць беларускай гасціннасцю з нашымі традыцыйнымі дранікамі і іншымі вырабамі з бульбы?

Я вельмі не хачу, каб гэтая мая размова пра незайздросны стан беларускай мовы і беларусізацыі зноў стала, як і многія падобныя ранейшыя ў друку, нейкім агульным месцам ці звычайным патрыятычна-пафасным пісьмом. Канечне, прасцей за ўсё заявіць, што мова наша — непрэстыжная. Ды і папрацаваць трэба, каб добра навучыцца размаўляць на ёй.

Не радуе мяне наша рускамоўнае і трасянкавае Першае Нацыянальнае тэлебачанне. Я ўжо не кажу пра якасць яго перадач. Якое ж яно Першае Нацыянальнае, калі там роднае слова на задворках? Ці, мо, шаноўныя вядучыя забылі, што ў нас, акрамя рускай, дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская? Хто працуе ў нас на тэлебачанні? Нейкія хлопчыкі і дзяўчынкі? А каб мова станавілася на тэлебачанні прэстыжнай, яна павінна гучаць з вуснаў настаўніц роднай мовы, пісьменнікаў, артыстаў; з вуснаў разумных, шаноўных і інтэлігентных людзей грамадства.

Веру, што з цягам часу за словамі беларуса “мой народ”, “мая нацыя”, “мая дзяржава” паўстане рэальны змест. Я заўсёды вучням нагадваю словы неўміручай паэтэсы Цёткі: “На вас, моладзі, ляжыць вялікая адказнасць: развіваць далей родную мову, узбагачаць свой народ ведамі і культурай”. І мы, найперш інтэлігенты, павінны несці ў народ свой найвялікшы скарб — родную мову, фальклор, культуру, духоўнасць.

Вельмі хачу, каб кожны беларус XXI ст. вывучыў на памяць словы слыннага паэта бацькаўшчыны Алеся Гаруна:



Ты, мой брат, каго зваць
беларусам,
Роднай мовы сваёй
не цурайся;
Як не зрокся
яе пад прымусам,
Так і вольным цяпер
не зракайся...

Канстанцін КАРНЯЛЮК.

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# З верай у Беларусь

Язэп Палубятка

**Тое, што адбылося напачатку гэтага месяца і аб чым сарамліва маўчыць не толькі афіцыйны друк, але не даводзяць да чытача незалежныя выданні, можна ўмясціць у некалькі радкоў.**

**5 чэрвеня сышоў з пасады дырэктара Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея заслужаны работнік культуры РБ, адзін з пачынальнікаў апошняй хвалі беларускага нацыянальнага, культурнага і дзяржаўнага адраджэння Алесь Мікалаевіч Белакоз.**

Прычына таму — не ўзрост і стан здароўя. Сышоў ды пакінуў на раздарожжы плён сваёй шматгадовай працы ён не па сваёй волі, прымусілі яго да гэтага адчайнага кроку мясцовыя кіраўнікі ад культуры. І таму, як пратэст прыгнёту беларускасці і творчай працы чалавека, з'явілася заява аб звальненне па ўласным жаданні. Яго не спыніла нават тое, што гэтай заявай ён пазбаўляе сябе элементарных грашовых выплатаў. Імёны тых людзей, як і іншыя акалічнасці гэтай падзеі, мае права называць толькі сам Алесь Мікалаевіч. Імя Алеся Белакоза сёння стала сінонімам нацыянальнай адметнасці для кожнага беларуса не толькі на абшарах пражывання беларускага этнасу, але і па ўсім зямным шары, куды толькі не закінуў лёс гаротнага беларуса ў пошуках лепшае долі: ад Аўстраліі да Аргенціны, ад Чылі да Канады. Гэта не простыя словы. Аб папулярнасці створанага ім музея сведчаць словы падзякі яго наведвальнікаў і іх лісты не толькі з вышэй згаданых краінаў, але і дзесятка іншых. Сапраўды, славу гэтаму чалавеку прынёс на першы погляд звычайны музей пра гісторыю Гудзевіцкага краю, але ў ім адлюстравана веліч зямлі беларускай, што па багаццю гісторыі не саступае іншым краінам. Алесь Белакоз не толькі знакаміты краязнавец, але і выдатны педагог. Яшчэ ў 1964 годзе становіцца выдатнікам народнай асветы, але гэтае ганаровае званне не ўратавала яго ў свой час ад пераследу з боку чыноўнікаў ад асветы, якія ва ўсім шукалі матывы шкодніцтва. Напрыклад, у 1970 годзе Алесь Белакоз за свае сродкі заказвае ў скульптара Станіслава Быка з Квасоўкі (прыгарад Гродна) бюст мясцовага паэта, аднаго з актывістаў Беларускай рабоча-сялянскай Грамады, прыхільніка КПЗБ Міхася Явара і без дазволу дырэкцыі школы ўстанаўлівае ў школе. З гэтае нагоды склікаецца рада РАНА, якая прымае пастанову з указаннем самавольных дзеянняў настаўніка, а дырэктару выносіцца строгая вымова. Каб стварыць у школе канфліктную сітуацыю, вымовамі караюць яшчэ завучаў.

Яшчэ праз год гэтая ж рада выносіць ужо самому Белакозу вымову за нацыяналістычны змест музея. У 1973 годзе зноў па настаўніку Гудзевіцкай СШ збіраецца рада Мастоўскага РАНА. У гэты раз за стэнд *«Ларыса Геніюш»* у Гудзевіцкім школьным літаратурна-краязнаўчым музеі і прапаганду дзейнасці іншых антысавецкіх дзеячаў яму абвешчана строгая вымова з апошнім папярэджаннем.

У гэтым нялёгкім змаганні за памяць бацькаўшчыны, памяць народа ў яго былі паплечнікі не толькі сярод вучняў. Надзейнай апорай у гэтай справе быў старшыня мясцовага калгаса Міхаіл Пронька ды старшыня Мастоўскага райсавета Уладзімір Вашко. Сваёй упартасцю на ніве беларускага адраджэння праз краязнаўства Белакоз набывае прыхільнікаў у Гродна, Мінску і іншых рэгіёнах Беларусі, а колькасць экспазіцыі няўмольна пашыраецца і неўзабаве пад яго адводзяць будынак былой школы, а побач устанаўліваюць хатку з адноўленым побытам 18 стагоддзя. Зараз фонды музею налічваюць больш за 10 тысячаў экспанатаў.

Час ідзе, і пачэсная слава ўрэшце прыходзіць да Алеся Мікалаевіча Белакоза. Ён становіцца заслужаным работнікам культуры (1987) і ўзнагароджваецца медалём Францыска Скарыны (1990). У 1994 годзе за асаблівыя заслугі перад РБ яму ўстанаўліваецца персанальная пенсія. Абіраецца дэпутатам раённага і абласнога савета. Працуе для іншых, а яшчэ болей на Беларусь ды асабліва не дбае пра сябе. Нават калі яму ў свой час прапанавалі аўтамабіль, адмовіўся і да апошняга дня ездзіў на веласіпедзе на працу. Але не ўзнагароды і пасады цешылі гэтага чалавека. Ніколі не лічыўся з часам і мог у выходны дзень вечарам пагадзіцца правесці незнаёмага чалавека па залах музея.

Сюды ехалі не толькі шчырыя беларусы, але не праміналі завітваць чыноўнікі самых розных рангаў, дзяржаўныя мужы, паэты, вучоныя, акадэмікі, беларусы з розных бакоў свету і іншаземныя дэлегацыі, у тым ліку і амбасадары. Гісторыя гэтага краю для ўсіх, хто пераступае парог музея, адразу ператвараецца ў гісторыю Беларусі.

Заўжды няпростыя былі адносіны Белакоза і ўлады. Спачатку прыгняталі, потым паважалі, але заўжды ён заставаўся самім сабой — свядомым беларусам. Яшчэ ў савецкія часы да яго ў музей завіталі журналісты з цэнтральнага тэлебачання. Але рэпартажу не атрымалася. Дырэктар музея размаўляў толькі па-беларуску і на пытанне:» *«Чаму вы не гаворыце па-руску?»* адказаў прыкладна так: *«Я тут нарадзіўся і па іншаму не ўмею размаўляць».* У апошні час улады шанавалі Белакоза сціснуўшы зубы. На сямідзесяцігоддзе яны завіталі павіншаваць ладнай дэлегацыяй, але асобна ад іншых прыхільнікаў яго справы, якія з'ехаліся сюды з усёй Беларусі на наступны дзень.

Не болей як праз месяц у галавах чыноўнікаў ад культуры ўзнікае ідэя закрыцця музея і перадачы яго экспанатаў у Ліду. Цікава было б пагладзець у вочы таму дзеячу ад культуры, каму прыйшла ў галаву такая ідэя. Усе добра разумеюць: гэтыя экспанаты і гэты музей могуць быць толькі ў Гудзевічах і нідзе болей.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Гісторыя Беларусі ў... картах

Інга МІНДАЛЁВА

Днямі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выпусціла ў свет «Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён». Гэта унікальнае выданне, якое не мае аналагаў.

У «Атласе» змяшчаецца больш за 200 карт (арыгінальныя распрацоўкі беларускіх навукоўцаў), па якіх можна прасачыць гісторыю беларусаў ад іх першых продкаў (плямёнў крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў) і да сённяшніх дзён. «Атлас» разлічаны на шырокае кола чытачоў. Тэмы «Атласа» ўваходзяць у навучальныя праграмы школ і ВНУ, таму гэтае выданне стане добрай дапамогай для вучняў і студэнтаў. Тыраж «Атласа гісторыі Беларусі» — 5 тысяч экзэмпляраў, набыць яго можна ў кніжных магазінах, а таксама ў самім выдавецтве.

— Мы будзем працягваць працу па стварэнні гістарычных карт, — запэўніла журналістаў загадчыца рэдакцыі гісторыі, філасофіі, эканомікі і права выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Ларыса Языковіч. — Напрыканцы гэтага года мы плануем выпусціць «Энцыклапедыю Вялікага княства Літоўскага» у 2 тамах.

**************************************************

**Праваабарончы Цэнтр "Вясна"** абагуліў дадзеныя па ўключэньні прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных партыяў у склад акруговых выбарчых камісіяў. Вынікі, мягка кажучы, несуцяшальныя. З 318 прапанаваных сяброў гэтых партыяў у склад камісіяў было ўключана ўсяго толькі 30 асобаў, што складае 9,4%. Ад агульнага ж складу сяброў усіх 110 акруговых камісіяў (1430 асобаў),прадстаўнікі дэмакратычных партыяў складаюць 2,1%.

У сувязі з такім падыходам уладаў да фармаваньня акруговых касмісіяў, старшыня Праваабарончага Цэнтру Алесь Бяляцкі перакананы, што будучыя выбары адбудуцца па ранейшых сцэнарах правядзеньня прэзідэнцкіх выбараў 2001 года і выбараў у мясцовыя саветы 2003 года, калі адбываліся масавыя парушэньні выбарчага заканадаўства і фальсіфікацыі.

Ён нагадвае, што з 1999 году аніводныя вынікі выбараў ў Беларусі не былі прызнаныя міжнароднай супольнасьцю. Нягледзячы на канкрэтныя рэкамендацыі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ), датычныя фармаваньню выбарчых камісіяў, а таксама шматлікія прапановы з боку беларускіх палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, накіраваныя на паляпшэньне выбарчага працэсу, распрацаваныя і агучаныя за апошнія некалькі гадоў, беларускія ўлады выбралі тупіковы варыянт выбарчых фальсіфікацыяў і махлярства, псеўдазаконныя метады недапушчэньня сваіх палітычных апанентаў да выбарчага працэсу і рэзкага абмежаваньня іхніх грамадзянскіх правоў. Алесь Бяляцкі перакананы, што вынікі выбараў будуць сфальсіфікаваныя, і беларускае грамадзтва будзе падманутае ў чарговы раз.

(па матэрыялах Праваабарончага цэнтру "Вясна'96")

**************************************************

# Пецярбургскі сепаратыст

**Беларус, які пражыў у паўночнай расійскай сталіцы 35 гадоў, марыць, каб рускія нарэшце зразумелі Беларусь**

"Гэта ваша гісторыя, а не наша!"

- Амаль усе рускія гісторыкі сёння, на жаль, імперыялісты, - пачаў Валянцін Пятровіч. - Асабліва ў тым, што тычыцца зносінаў Расіі і Беларусі. Гэта іх стаўленне не залежыць ад таго, якая ў Расіі ўлада - рэспубліканская альбо царская. Адсюль і праблема Чэчні, адсюль і праблема Беларусі, адсюль спробы зноў з'яднацца з Украінай. Але што адбываецца зараз у свеце? На нашых вачах мірным шляхам распалася Чэхаславакія, ваенным - Югаславія, хоць усе яны там і адной веры. Гэта - натуральны шлях! Як гісторык найноўшага перыяду, я бачу, што той жа самы шлях і для Расіі (дай Божа, каб я да гэтага не дажыў!) - гэта распад па расійскіх рэгіёнах - Далёкі Усход, Паволжжа, Сібір, Паўночны Каўказ... Аб'яднанне Расіі і Беларусі можа прывесці толькі да аднаго - да новага Ольстэра. Беларусы доўга церпяць, але потым так могуць выбухнуць... Так было з русіфікацыяй пры царызме, так было і з нямецкай акупацыяй. Дый ці трэба паўтараць памылкі мінулага?

- Вы лічыце сённяшні імперыялізм у Расіі наступствам сталінскага рэжыму?

- Гэта не сталінскі, але і не антысталінскі імперыялізм. "Нясталіна" ў нас прынялі пры Хрушчове, "антысталіна" не прынялі і не прымаюць да сённяшняга дня. Зараз у расійскім Петразаводску, напрыклад, хочуць паставіць помнік Андропаву, а па сутнасці - паслядоўніку "вялікага Сталіна". Цяперашні расійскі імперыялізм ідзе ад бальшавікоў, якія, па словах Мікалая Бердзяева, ідэю Трэцяга Рыму падхапілі ў ідэі Трэцяга інтэрнацыяналу. Увесь час свайго праўлення бальшавікі ўкладвалі ў вушы людзей: трэба збіраць як мага больш зямель, трэба збіраць як мага больш зямель...

- Тут, у Пецярбургу, Вы спрабавалі чытаць беларускія курсы. І што, удалося?

- Выдаваць у Пецярбургу беларускія кніжкі, ладзіць беларускія курсы - гэта, як аказалася, проста ідэалізм. Я прапаноўваў чытаць гісторыю Беларусі ў педінстытуце. Раней у нас была вельмі добрая нацыянальная праграма, яе прыхлопнулі... Я даводзіў расіянам наш пункт гледжання, нават калісьці працытаваў песню беларускіх паўстанцаў: "Пойдзем, хлопцы, да Касцюшкі, будзем біць там маскалюшак". Нічога, прайшло ў эфір. Але ўсё гэта скончылася. Цяпер ва універсітэце некаторыя калегі называюць мяне сепаратыстам.

- Як Вы самі ставіцеся да гэтага?

- Смяюся. І кажу ім: вы папракаеце мяне тым, што я люблю свой народ, значыцца, вы самі мала любіце свой народ. Сепаратызм - гэта калі частка Расіі хоча адысці ад яе. Але Беларусь - не частка Расіі. Гэта незалежная дзяржава, раней прыхопленая Расіяй. Выкладчыкам-расіянам часцей за ўсё няма чаго сказаць мне ў адказ. Часта цытую ім ірландца Джэймса Джойса, які, дарэчы, пісаў па-англійску: "Гісторыя, якую напісалі нам англічане, гэта не наша гісторыя, гэта ваша, англійская, вамі прыдуманая гісторыя". Тое ж самае можна сказаць пра Расію. Яны прыдумалі гісторыю Беларусі і хацелі, каб мы паверылі ў яе. Але ёсць тут адна істотная розніца: англічане дазваляюць друкаваць тое, што сказаў Джойс...

У Маскве працуе беларус Каўка. Дык вось ён адзіны, хто чытае ў маскоўскім Літаратурным інстытуце імя Горкага курс беларускай літаратуры. Іншым адмаўляюць. Найлепшы, на мой погляд, на тэрыторыі былога СССР гісторык медыцыны, акадэмік Нацыянальнай латвійскай акадэміі Арніс Віксна сказаў: "Нацыяналіст - гэта той, хто ведае дзве мовы, а інтэрнацыяналіст - гэта той, хто ведае толькі адну". Лепей не скажаш.

- А як успрымаюць Вашы лекцыі студэнты?

- Добра. Яны людзі маладыя, а таму іх галовы не засмечаныя голай савецкай прапагандай. Я кажу ім, напрыклад, што Расія абрабавала дзесяць краін - Літву, Эстонію, Латвію, Фінляндыю, Беларусь і г.д.

- Але ж студэнты таксама рускія. Яны Вас разумеюць?

- А я ім прыводжу словы асветніка Мантэск'е: "Любіць сваю краіну я абавязаны, а вось хлусіць дзеля сваёй краіны я не маю права".

- Вы сваім студэнтам часам цытуеце Леніна і Сталіна. Навошта?

- Студэнтам трэба ведаць і ленінскую ідэалогію, і сталінскую. Каб параўноўваць з Бердзяевым, з Салаўёвым, з Франкам. Яны павінны ведаць, у якой багне апынулася Расія пры камуністах.

- А з чым, як Вы думаеце, могуць параўноўваць беларускія студэнты ідэалогію Лукашэнкі, якую зараз у нас актыўна прапіхваюць? ?

- Я надта не люблю лаяцца, гэта не інтэлігенцкая справа... Таму прамаўчу.

- У трактаце "Этнічныя арганізацыі Санкт-Пецярбурга", які распаўсюджваецца ў Інтэрнэце, напісана, што ў Піцеры зарэгістравана больш за 120 такіх арганізацый. Галоўнымі мэтамі, напрыклад, Чувашскага культурнага цэнтра з'яўляюцца сустрэчы суайчыннікаў, падтрымка сувязяў з этнічнай радзімай і сумеснае правядзенне этнічных святаў, а таварыства "Халом" - выкладанне іўрыта. Якія мэты ў Беларускага грамадска-культурнага таварыства Санкт-Пецярбурга, якое Вы ўзначальваеце?

- Галоўная наша мэта - распаўсюджванне ведаў пра

 



культуру беларусаў. Мы спрабуем (безвынікова пакуль) пашыраць гэтыя веды сярод расійскіх студэнтаў. Ядро нашай арганізацыі - пісьменнікі, паэты, мастакі, дактары, кандыдаты навук, афіцэры вышэйшага ўзроўню - людзі, якіх аб'ядноўвае не толькі жаданне пагаварыць па-беларуску, але і праявіць сябе ў выставах, у выданнях - навуковых ці літаратурных. Марым узнавіць у гэтым горадзе беларускія традыцыі, якія існавалі з дня заснавання горада - ад Меншыкава і Кацярыны Другой, праз братоў Каліноўскіх, праз шматлікіх беларускіх генералаў: генерал арміі Якубоўскі і маршал Сакалоўскі, напрыклад, добрасумленна служылі расійскаму цару. Шмат беларусаў працуюць і зараз у адміністрацыйных органах Пецярбурга. Губернатар Ленінградскай вобласці Сердзюкоў - таксама беларус.

"Фралоў не падабаецца, але альтэрнатыва Лукашэнку павінна быць"

- Як Вам цяперашняя сітуацыя на Беларусі?

- Ну, з Лукашэнкам і яго рэжымам мне ўсё ясна. Але, прабачце, мне зусім не зразумелая праграма дэпутата "палаткі" Фралова. Чаго яго так ухваляюць? Па-першае, усе артыкулы ў "Народнай волі" ён друкуе на расійскай мове. Па-другое, у яго тыпова папуліцкія прыёмы...

- Іншымі словамі, Фралоў Вам не падабаецца. Але хто тады можа аб'яднаць нацыю і выратаваць Беларусь?

- Я не магу сказаць, што мне не падабаецца Фралоў. Але... папулізм, які прапануе Фралоў, - тыповая форма лебядзізму (генерал Аляксандр Лебедзь - нядаўна загінуўшы губернатар Краснаярскага края. - А.С.). Лебедзь быў добрым, разумным чалавекам, але ён лічыў, што калі эканоміцы, як каню, скажаш "Ну!", то яна будзе рухацца, калі скажаш "Тпру!" - яна спыніцца. Што ад такой палітыкі атрымалася ў Краснаярскім краі, усе ведаюць - нічога не атрымалася. Піяр Фралова адзін да аднаго падобны да піяру, які квітнее зараз тут...

Адзін з апошніх артыкулаў Фралова быў прысвечаны пошукам свята прымірэння. У нас, на мой погляд, з расіянамі ёсць адзінае свята прымірэння - 9 Мая, Дзень Перамогі. Перамогу пад Оршай Фралоў адмятае. Чаму - вядома: гэта не даспадобы старэйшаму брату. Але гэта не прымірэнне, сп. Фралоў, гэта – капітуляцыя!

А што тычыцца Вашага пытання наконт выратавальніка Беларусі, то лепш за ўсё адказаў чалавек, з якім мы скончылі адну школу, - Станіслаў Шушкевіч: кожны можа ім стаць. Сёння шмат людзей, вельмі шмат, якія могуць выратаваць Беларусь, павесці яе па добрым шляху. А што тычыцца розных рэйтынгаў і маніторынгаў, то гэта ўсё ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму лухта.

- Хачу Вас спытаць як чалавека, які доўгі час жыве ў Расіі: нам часта ўнушаюць, што мы, беларусы, і рускія - гэта браты-блізняты, што мы адно...

- Адкажу прыкладам: славакам доўгі час казалі, што яны браты чэхаў, што нават ёсць нейкі адзіны чэхаславацкі народ. Некаторыя нават паверылі ў гэта. І што атрымалася? Развод! Гэта прыклад таго, як стаўка на дэмакратыю без уліку этнаграфічных асаблівасцяў прыводзіць да катастрофы. Што тычыцца рускіх і беларусаў, то яны крыху падобныя па ментальнасці. Але ў вялікаросаў - большая жорсткасць, у беларусаў - меншая. Гэта было мне бачна нават па гадах працы ў школе. У Расіі, напрыклад, паўсюль у школах былі бойкі ды пастаянныя абразы ў адрас нацыянальных меншасцяў - татар, мардвы, яўрэяў... Для мяне гэта было дзіўна - у беларусаў такога не было. Пра працавітасць нічога не скажу - у Расіі гэта было, але яе патлуміла савецчына. Калі давалі чалавеку ў Расіі зарабіць, то ён працаваў як трэба, калі адабралі гэтае права, ён пачаў працаваць, як кажуць, "спустя рукава". У чым мы яшчэ падобныя - дык гэта ў тым, што шмат вольнага часу марнуем дарэмна: у Беларусі, я бачыў, шмат людзей сядзяць на лавачцы побач з плотам. У Польшчы і Украіне гэтага няма...

"Лукашэнкам пужаюць расіян"

- Які Ваш прагноз на бліжэйшы час? Як Расія будзе да нас ставіцца? ?

- Расія відавочна хоча прыбраць Беларусь да сябе, уключыць у свой склад. Але Расія, на жаль ці на шчасце, не мае магчымасці супрацьўляцца пашырэнню Еўрапейскага Саюза - па-першае, са сваім антыамерыканізмам яна ў ім зацыкаўлена, а па-другое, страчана былая вайсковая перавага. І гэтая расійская ваенная моц, дарэчы, на маіх вачах сама разбураецца, прапіваецца.

- Калі ў Расіі няма былой ваеннай моцы, як яна можа прыбраць Беларусь да рук?

- Не арміяй, дык адміністрацыяй і чацвёртай уладаю - расійскімі сродкамі масавай інфармацыі. Адзін разумны чалавек яшчэ ў 70-х гадах, распавядаючы пра "уотэргейт" (скандал з прэзідэнтам ЗША Рычардам Ніксанам, у выніку якога ён страціў уладу. - А.С.), казаў, "што нават у капіталістычным свеце ёсць сапраўдная чацвёртая ўлада". А зараз замбіраваць людзей, фарміраваць так званы вышэйшы пласт грамадскай думкі - працсей простага. Грамадскую думку сёння, на жаль, фарміруе не інтэлігенцыя, а СМІ.

- Як, на Ваш як грамадзяніна Расіі погляд, Пуцін ставіцца да Лукашэнкі?

- Пуцін яго як быццам не заўважае. Гэта відавочна! Нават самая кансерватыўна настроеная інтэлігенцыя Пецярбурга бачыць гэта. Асабліва іх перасмыкае, калі гэтыя чалавек бяжыць на роліках. Па плошчы! Гэта мне нагадвае часы Нерона ў Рымскай імперыі 54-68 г.г. нашай эры, які лічыўся паэтам, спеваком. Калі Нерон не адчуваў, што ён у поўную моц імператар, то ён хацеў мець імідж паэта. А хто яго не хваліў - галава з плеч. Лукашэнка ніколі не прадасць сябе ні Еўропе, ні Амерыцы. Па адной простай прычыне - не купяць. Як Слабадана Мілошавіча. Значыць, хочаш не хочаш, ён будзе цягнуцца да матухны-Расіі. І яшчэ Лукашэнку ў Расіі лічаць неўраўнаважаным чалавекам, ад якога можна ўсяго чакаць.

- А як пецярбургскія чыноўнікі ставяцца да цяперашніх беларускіх улад?

- Не ўпэўнены, што яны маюць сваю думку. Яны скажуць тое ж самае, што скажа Пуцін. У нас, у Расіі, ёсць, напрыклад, скінхеды, Рускае нацыянальнае адзінства. Яны забіваюць на дзень нараджэння Гітлера аднаго чорнаскурага афрыканца - у Пецярбургу нядаўна забілі сына лівійскага аташэ па пытаннях культуры. Часам забіваюць яўрэяў, армян. Але яны ніяк не пераследуюцца сілавымі структурамі. Чаму? Уладам трэба пудзіла: вось бачыце, калі мы не будзем закручваць гайкі, то яны пойдуць угару.

- А Лукашэнка тут пры чым? ?

- Расійскаму выбаршчыку ўнушаюць: калі вы будзеце незадаволены нашым рэжымам, то ў Расію прыйдзе той, лукашэнкаўскі, - нашмат горшы. Лукашэнкам пужаюць расіян. А тут, у Расіі, яшчэ няма вобраза бацькі. І магу сказаць чаму: у Пуціна не той знешні выгляд. У Ельцына такі выгляд быў...

Хто зрабіў з палаца барак?

- Сусветнавядомы расійскі пісьменнік Фёдар Дастаеўскі неяк пісаў пра Пецярбург: "Питер - это город полусумасшедших. Если б у нас были науки, то медики, юристы и философы могли бы сделать над Петербургом драгоценнейшие исследования, каждый по своей специальности. Редко где найдется столько мрачных, резких и странных влияний на душу человека, как в Петербурге. Чего стоят одни климатические влияния!" Вы згодны з Дастаеўскім: няўжо тут так змрочна, а вы тут усе паўвар'яты?

- Я не згодны з Дастаеўскім. Шчыра кажучы, ён сам быў хворым чалавекам. Што тычыцца клімату, то ён тут, канешне, далёка не найлепшы. Пераехаўшы сюды з Беларусі, я страціў два цёплыя месяцы - красавік і верасень. Але ж Піцер для мяне - зусім іншае, гэта адзіны еўрапейскі горад у азіяцкай Расіі, створаны адукаванымі людзьмі. Сімяон Полацкі ў свой час трапіў у Маскву невыпадкова - там быў попыт на еўрапейскую культуру. І Беларусь XIX стагоддзя значна падпітвала культуру гэтага горада. Беларус Анатоль Кірвель кажа, што, калі б мы не пераехалі ў Пецярбург, мы не ўбачылі б свет шырэйшым. Тут ёсць пэўны ўзровень, да якога трэба цягнуцца. Гэты ўзровень дасягнуты дарэвалюцыйнай інтэлігенцкай культурай, архітэктурай і мастацтвам. Тутэйшая культура ўвабрала ў сябе самае лепшае не толькі з Расіі, але і з Еўропы. Тут жа, у Пецярбургу, мяне нават будынкі лечаць.

- Ад чаго яны Вас лечаць?

- Калі сумна, калі дрэннае надвор'е, снег валіць, паўсюль дождж, як глянеш на гэтыя прыгожыя будынкі - сум і хвароба адразу адыходзяць. У Мінску прыгожай архітэктуры амаль няма. Пецярбург - гэта не акно ў Еўропу, гэта вароты ў Еўропу і з Еўропы.

- Дазволю прывесці яшчэ адну цытату пра ваш горад, на жаль, не памятаю чыю: "Петербуржец живет в городе, где здания похожи на декорации пьесы столетней давности, он чувствует себя скорее персонажем литературного произведения, нежели человеком, живущим здесь и сейчас". Персанажам якой п'есы адчуваеце сябе Вы, Валянцін Пятровіч?

- П'есы ў стылі сацрэалізму. Вы ж бачыце, колькі яшчэ ў нашым горадзе смецця, бачылі, у якім стане пад'езд, дзе я жыву. Шмат будынкаў у Пецярбургу камуністы зрабілі баракамі. Дазвольце ў гэтай сувязі наступны ўспамін: той самы Арніс Віксна павёз мяне неяк ў Латвію, у тую вобласць, якая дала латышскай культуры ў другой палове XIX стагоддзя лепшых кампазітараў, драматургаў і архітэктараў. Мы зайшлі ў яго былы палац - аніводнай лямпачкі, вісяць нейкія транты на вяроўках, смярдзіць. У яго былым палацы саўгас пасяліў сельскагаспадарчых рабочых з менталнасцю раба. З палаца можна зрабіць барак, з горада можна зрабіць барак.

- І хто зрабіў з Пецярбурга барак?

- Бальшавікі. Усё пачалося з камунальных кватэр, у якіх да сённяшняга дня жыве каля 30 працэнтаў пецярбуржцаў. Нават у навабудоўлях робяць камунальныя трохпакаёвыя кватэры, у адным пакоі - адна сям'я, у другім – другая.

- Не цягне на Радзіму, Валянцін Пятровіч?

- На Радзіму з такім кіраўніцтвам не цягне. Я, можа, і вярнуўся б у Мінск, калі б можна было выкладаць па-беларуску, калі б беларуская мова зноў атрымала статус адзінай дзяржаўнай, сталі беларускімі радыё і тэлебачанне...

- Калі ў чарговы раз робіце безвыніковыя спробы праціснуць беларускія інтарэсы ў Расіі, вы хочаце, каб расіяне пакахалі Беларусь?

- Я хачу, каб расіяне зразумелі Беларусь. А зразумеўшы, і пакахаюць.

Алесь СІЛІЧ. /Н.В./
Мінск-Санкт-Пецярбург-Мінск.

Алег ТРУСАЎ:

# "ТБМ -гэта назаўсёды"

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы" адзначае 15-годдзе. Ад самага пачатку ўзначальвалі арганізацыю асобы надзвычай аўтарытэтныя. З 1989 па 1997 - Народны паэт Бедарусі Ніл Гілевіч, потым два гады - Генадзь Бураўкін, якому выпала роля "крызіснага менеджэра". З 1999 года і па сённяшні дзень кіруе ТБМ Алег ТРУСАЎ, вядомы навуковец і грамадскі дзеяч. З ім сустрэўся наш карэспандэнт напярэдадні юбілею Таварыства.

- Алег Анатольевіч, пытанне "неюбілейнае": у Вас няма пачуцця, што высілкі ТБМ дарэмныя, што сёння мы вярнуліся ў тую кропку, адкуль пачыналі 15 год таму, з той хіба розніцаю, што тады стартавыя ўмовы былі лепшыя?

- Не, я не лічу працу ТБМ дарэмнай, тым болей - безвыніковай. Сам факт існавання нашай арганізацыі ў сённяшніх умовах дае рэальныя падставы для аптымізму. І мы не проста існуем, але працуем. У другой палове 90-х Таварыства беларускай мовы насамрэч перажывала крызіс, але мы яго пераадолелі. Пераломным для нас стаў 1999 год. Мы, так бы мовіць, набылі другое дыханне.

- Што ж такога здарылася ў той памятны год?

- Мы выйгралі перапіс насельніцтва.

- Гэта гучыць, як "Мы перамаглі на выбарах"...

- Па сутнасці яно так і ёсць. Перапіс ладзіўся для атрымання звестак, неабходных для доўгатэрміновага эканамічнага і сацыяльнага планавання, але, акрамя таго, гэта была яшчэ і палітычная акцыя. "Інтэграцыйныя" памкненні ўлады рэальна пагражалі самому існаванню беларускай дзяржавы. Паколькі "інтэгратары" цудоўна разумелі, што справа іхняя нячыстая і ў маральным, і ў юрыдычным сэнсе, ім была вельмі патрэбная ілюзія народнай падтрымкі. Вось чаму перапіс разглядаўся як магчымасць давесці, што, паколькі беларуская мова мёртвая, а руская беларусам родная, дык паміж рускім і беларусам няма ніякай розніцы, а значыць, чаму б нам не жыць у адзінай рускай дзяржаве.

У падкантрольных уладзе СМІ тады сцвярджалася, што на беларускай мове ніхто не гаворыць, што ў гарадах ёю карыстаецца не болей 3-5 працэнтаў жыхароў, што моўнае пытанне адцягвае нас ад вырашэння эканамічных задач, ізалюе ад навакольнага свету і гэтак далей. Чамусьці партыі і рухі, якія абвяшчалі сябе абаронцамі дэмакратыі і дзяржаўнага суверэнітэту, ніяк не рэагавалі на гэтую антыбеларускую, фактычна антыдзяржаўную прапаганду. ТБМ удзячнае газеце "Народная воля", якая напярэдадні перапісу падтрымлівала нашу пазіцыю, давала Таварыству магчымасць звяртацца да грамадства.

Дзеля таго каб улада мела прастору для дэмагагічных маніпуляцый, у апытальныя лісты было ўведзена вельмі хітрае пытанне. Акрамя мовы роднай і іншай, якой вольна валодаеш, трэба было яшчэ назваць мову, "на якой звычайна размаўляеце дома". Па сутнасці гэта было ўмяшанне ў прыватнае жыццё, а з адказаў можна было рабіць якія заўгодна высновы. І ў савецкія часы сацыяльныя апытанні не сароміліся ператвараць у прапагандысцкае шоу, але да такога не дадумаліся. А каб з'арыентаваць на "правільныя" адказы, ад пачатку планаваліся толькі рускамоўныя апытальныя лісты. Пасля зваротаў ТБМ людзі сталі патрабаваць, каб лісты былі складзены па-беларуску. І ўжо гэта з'явілася нашай перамогай.

Тое, што, нягледзячы на псіхалагічны ціск, роднай назвалі беларускую мову больш за 80% беларусаў і больш за 70% ад агульнай колькасці людзей іншых нацыянальнасцяў, што беларуская мова родная амаль для 70% гараджан, для ўлады было шокам. Нездарма поўгода гэтыя звесткі хавалі ад грамадства. А нам вынікі перапісу, як я ўжо казаў, надалі другое дыханне.

- Улада ўспрымае вашу арганізацыю як палітычную партыю?

- Пры жаданні палітыку можна знайсці ў чым заўгодна. Але насамрэч мы добраахвотная непалітычная арганізацыя, якая мае мэтаю захаванне і развіццё галоўнай каштоўнасці нацыі - беларускай мовы. ТБМ мае суполкі па ўсёй Беларусі і ў месцах кампактнага пражывання беларусаў за межамі нашай дзяржавы.

Мы не змагаемся за беларушчыну як такую, за беларушчыну ўвогуле. Але змагаемся заўжды за канкрэтнага вучня ці настаўніка, за беларускія словы на канкрэтнай шыльдзе ці афіцыйным бланку. Мы адкрытыя для кантактаў з уладай, палітычнымі партыямі, паспалітымі грамадзянамі, дабрачыннымі арганізацыямі.

- Тое, што ў электрычках абвесткі робяць па беларускай мове і дзвюхмоўная інфармацыя на станцыях метро, ваша заслуга?

- У значнай ступені наша. Мы арганізуем лісты сяброў Таварыства і проста неабыякавых грамадзян ва ўстановы, якія ігнаруюць афіцыйны статус беларускай мовы. Калі такіх лістоў тысячы, дзесяткі тысяч, то тыя, хто іх атрымлівае, мусяць неяк рэагаваць.

- Логіка бізнесоўцаў мне зразумелая. Чаму б не зрабіць беларускую этыкетку, калі гэта можа пашырыць кола пакупнікоў і карыстальнікаў, а значыць - абяцае прыбытак. А як на вашыя звароты рэагуюць у міністэрствах? Міліцыю і войска беларусізаваць здолееце?

- Не без нашага ўплыву Міністэрства абароны свае афіцыйныя канверты ўжо робіць дзвюхмоўнымі. На беларускую мову перакладаюцца вайсковыя статуты.

Відаць, не было б праблемы з перакладам на беларускую мову структур Міністэрства ўнутраных спраў. Я ў гэтым пераканаўся падчас сустрэч з людзьмі гэтага ведамства. Большасць міліцыянтаў - вясковыя хлопцы, якіх роднай мове вучыць не трэба. Хіба што пераарыентаваць іх з пабытавай трасянкі на мову літаратурную. Яны хутчэй маюць праблемы з засваеннем рускай мовы.

- А што для ТБМ самае галоўнае зараз? Які напрамак у вашай дзейнасці прыярытэтны?

- Наша дзейнасць накіравана на забеспячэнне праву беларускамоўных грамадзян карыстацца сваёй роднай мовай. А дзеля гэтага патрабуем ад уладаў унясення змен і дапаўненняў у Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які, паводле рашэння Канстытуцыйнага Суда, не адпавядае Канстытуцыі краіны. На дадзены момант гэта наша галоўная задача.

- Алег Анатольевіч, давайце ўявім прыгожую карціну: Беларусь зрабіла еўрапейскі выбар, наш нацыянальны сцяг лунае побач са сцягамі іншых краін, на чале

 

**дзяржавы - беларускамоўны прэзідэнт, на чале ўрада - беларускамоўны прэм'ер, ўся адукацыя і выхаванне, ад дзіцячага садка да вышэйшай школы, - спрэс на нашай мове, на вуліцах толькі і чуеш беларускае слова. У гэтых умовах ТБМ абвяшчае самароспуск?**

- Ні ў якім разе. ТБМ - гэта назаўсёды.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ. /Н. В./

*******************************************

# Паміж радкамі

Polskie Radio

Апошніх некалькі дзён у Беларусі - сэнсацыйныя. Справа ў чым? 21 ліпеня апазыцыя й прыхільнікі Лукашэнкі, кожны па свойму, адзначалі дзесяцігодзьдзе прэзыдэнцтва Лукашэнкі ў Беларусі. І я буду зараз распавядаць пра парадоксы гэтага "адзначэньня". Першая справа. У Польшчы, у "Газэце Выборчай" надрукаваны артыкул Аляксандра Фядуты. Фядута лічыць сябе палітолягам, ён жа дасьледчык Пушкіна. З 1994 году ён быў дарадцам Лукашэнкі, і ён аўтар "белых плям" - калі даклад Антончыка па карупцыі не прайшоў па ўсіх газэтах Беларусі. Дык вось, Фядута сёньня асуджае беларускі таталітарызм і на старонках польскага друку выступае такім "ацэншчыкам" сытуацыі ў Беларусі. Я Вам працытую верш Фядуты з 1994 году. Буду цытаваць -як напісаў - чатыры радкі парасейску:

*Лукашэнко с гением природным*
*Смело гневом овладел народным*
*Дай нам Бог, что б этот смелый лев*
*Усмерял и впредь народный гнев!*

Напісана 29 жніўня 1994 году на вокладцы кніжачкі, якую Фядута падарыў журналісту Лісоўскаму. Такім чынам, Фядута падтрымаў усе меры Лукашэнкі супраць тых, хто пратэстуе. І вось, 21 ліпеня, калі на Плошчу Якуба Коласа выйшлі маладыя зуброўцы й узьнялі пудзіла Лукашэнкі, на іх галовы абрынуліся кулакі амапаўцаў, іх білі, цягалі тварам па асфальце, заштурхнулі ў аўтобус, зноў білі, потым зноў арыштоўвалі й вывозілі за горад, і прапаноўвалі капаць сабе магілы. А тут у польскім друку вядомы публіцыст выступае у абарону дэмакратыі. Ягоны верш Вы ўжо прачыталі.

Другі парадокс. Усё, што адбывалася на Плошчы Якуба Коласа, першы рэпартаж пра гэта паказала расейскае тэлебачаньне, пуцінскі тэлеканал РТР. Яны прывезьлі спэцыяльную ўстаноўку й машына наўпраасткі трансьлявала зьбіцьцё, якое адбывалася на плошчы. Гэты рэпартаж выклікаў шалёнасьць, разьюшанасьць афіцыйнага Менску. У прыватнасьці, ўжо на працягу двух дзён у беларускім тэлебачаньні розныя афіцыйныя асобы робяць заявы з гэтай нагоды. Першую зрабіў міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў. Ён абвінаваціў журналіста, што ён перабольшыў колькасьць удзельнікаў і запатрабаваў дэпартацыі гэтага журналіста. Далей выступіў прадстаўнік міністэрства замежных спраў і таксама заявіў, што рэпартаж быў тэндэнцыйны. Ён запатрабаваў прабачэньняў, а інакш - заявіў- калі прабачэньняў ня будзе, тады з боку Беларусі будуць прыняты адэкватныя меры. Кропку ў гэтай справе ставіў Лукашэнка. Ён сабраў амбасадараў з усіх краінаў і пасьля доўгай прамовы раптам перайшоў на гэты тэлерэпартаж. Цытую Лукашэнку: "Вы бачылі як сотні чалавек могуць раздуваць карцінку? Я не магу тут сказаць, што гэта нядобрае НАТА ці Захад. Гэта нашыя браты - расейцы. Гэта яны пачалі стварць гэтую карцінку. Пачалі ствараць правакацыю, за тым перадалі карцінку ў Эўранюз. Нават устаноўку прыцягнулі сюды!" - разьюшанасьці Лукашэнкі не было межаў. І гэта вельмі добра паказала беларускае тэлебачаньне. Такім чынам, расейскае тэлебачаньне ў дзень дзесяцігодзьдзя праўленьня Лукашэнкі прыпаднесла яму сюрпрыз. Ну, а нам вядома, што першы канал расейскага тэлебачаньня, і другі, які паказаў гэты рэпартаж, ні паўслова ня скажа й не пакажа, калі ня будзе санкцыі Крамля й ў прыватнасьці - Пуціна. Такім чынам, можна сьмела сьцьвярджаць, што Пуцін санкцыянаваў гэткі падарунак Лукашэнку з нагоды яго дзесяцігодзьдзя.

А зараз яшчэ адна цытата з выступу Александра Лукашэнкі, які адбыўся 22 ліпеня перад амбасадарамі. Цытую: "Сувэрэнітэт і незалежнасьць Беларусі будуць асновай нашай зьнешняй палітыкі. Колькі разважаньняў і прагнозаў, і з права, і зь лева, і з Захаду, і з Усходу мы чулі ўсе гэтыя гады аб тым, што вось-вось і Беларусь зьнікне з палітычнай карты сьвету. Хачу сказаць прама й ўпэўнена - Беларусь ёсьць і будзе заставацца самастойнай у Эўропе й у сьвеце. Сувэрэнітэт і незалежнасьць для нас - не разьменная карта, але сьвятая каштоўнасьць. Яна належыць народу й дзяржаве. І мы павінны быць дастойнымі гэтай каштоўнасьці!". Такім чынам, Лукашэнка дзесяцігодзьдзе свайго праўленьня адзначыў проста гімнам незалежнасьці Беларусі. І калі б гэтыя словы схаваць ад чытачоў - усе маглі б падумаць, што гэта прадстаўнік нацыянальнага руху -ці Зянон Пазьняк, ці Вінцук Вячорка, ці Юры Хадыка. Але гэта Лукашэнка. У яго прамове была яшчэ адна цытата: "Выбіраем Беларусь!". Па сутнасьці, гэта адзін зь лёзунгаў пратэстных шэсьцяў, пратэстных мітынгаў і акцыяў нацыянальна арыентаванай апазыцыі ў Беларусі. І вось прэзыдэнцкая газэта "Савецкая Беларусь" літарамі проста па 20 сантымэтраў велічынёй і выйшла з гэтым лёзунгам - "Выбіраем Беларусь!".

Вось такія парадоксы сёньняшняй палітыкі, і я б не хацеў пра сумнае, пра гэтую крытыку, якая прагучала ў газэце "Народная Воля" і на інтэрнэт-сайце "Беларускіх Навін" - пра арганізатараў акцыі пратэсту "Наш адказ сыстэме", якая адбывалася 21 ліпеня. Па сутнасьці, беларускі апазыцыйны друк падверг крытыцы Фралова, Скрабца й Парфяновіча за няўдалую арганізацыю гэтай акцыі, але яны пакляліся, што на наступны раз акцыі будуць больш сарганізаванымі, масавымі й гэтак далей.

*******************************************

# НА БАСОВІШЧЫ ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

**У мінулыя выхадныя дні недалёка ад Гарадка на Беласточчыне адбылося найвялікшае ў свеце свята беларускай рок-музыкі — фестываль "Басовішча". Гэта быў ужо юбілейны — XV фэст рок-музыкі.**

На Басовішчы пабываў сёлета і наш карэспандэнт, які ад убачанага і пачутага быў у шоку. На такім свяце музыкі і песні раней яму бываць не прыходзілася. Два дні і дзве ночы на Басовішчы жыла Беларусь. І самае галоўнае — там гучала толькі беларуская і польская мовы. І больш за 5 тысяч выканаўцаў і слухачоў. Толькі Басовішча сёння дае вялікую ўпэўненасць у тым, што Беларусь і яе мова будуць жыць, бо будучыня — за нашай моладдзю. Мей рацыю беларускі мастак з Беласточчыны Лёнік Тарасэвіч, калі казаў: "Якое ёсць Басовішча, такая будзе і нашая будучыня". А Басовішча не забываецца. І той, хто там ніколі не быў, можа толькі ўявіць такую карціну, калі без адпачынку спяваюць гадзінамі па-беларуску вядомыя рок-гурты з Польшчы і Беларусі і тысячы маладых юнакоў і дзяўчат танцуюць. А навокал развіваюцца бел-чырвона-белыя сцягі, прадаюцца беларускія дыскі, касеты, значкі, плакаты, розныя ўпрыгожанні, майкі, буклеты, а таксама страва, піва, марожанае, салодкія напоі. І моладзь весяліцца ад душы — шчыра, вольна і прыгожа. Ды і як не весяліцца, калі спяваюць "Крама", "Уліс", "Жыгімонт Ваза", "Сцяна", "НРМ", "Zero–85", "Neuro dubel", "Deviation", "Indiga" і іншыя калектывы. Спявалі і ігралі яны толькі сучасныя песні і музыку. Дакладна ахарактарызаваў Басовішча журналіст з Беластока Валянцін Сельвясюк. Ён сказаў: "Музыка на Басовішчы была сучасная. Сучасная, бо створана ў сучасны момант. Сучасная ў разуменні сучаснай формы. Сучасная ў разуменні сучасных праблемаў. Сучасная была таксама публіка, якая ўспрымала гэтую музыку не як водгук далёкага дзяцінства, а як частку свайго сучаснага жыцця". І з ім нельга не пагадзіцца. Арганізатарам сёлетняга Басовішча, як і ў мінулыя гады, было Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў (БАС), а галоўным фундатарам — Міністэрства культуры Польшчы, а таксама бровар "Lomza" і іншыя арганізацыі і калектывы з Польшчы.

*******************************************

# Бывай, школа!

Аляксандр СЯДЗЯКА, намеснік старшыні Таварыства беларускай школы, былы дырэктар СШ №2 г. Мінска

Я напісаў: бывай, школа! Удакладняю - бывай, беларуская школа! Такая асацыяцыя ўзнікла ў мяне на выпускным вечары ў сярэдняй школе №2 г.Мінска, на які мяне запрасілі вучні і бацькі выпускнікоў 2004 года.

Год мінуў, як я ўжо не працую ў гэтай школе, і вельмі хваляваўся перад сустрэчай. Успамінаў тыя дзевяць сваіх дырэктарскіх год, клопаты і радасці, поспехі і няўдачы, былых настаўнікаў і вучняў. Але перш за ўсё думкі круціліся вакол галоўнай мэты, дзеля якой у свой час прыняў на плечы нялёгкі і адказны груз дырэктарскай пасады - зрабіць беларускую школу.

Тады, у далёкім цяпер 1994 годзе, грамадства разумела, што пабудова сваёй, беларускай, дзяржаўнасці немагчыма без выхавання свайго, беларускага, а не савецкага патрыёта. А гэта ў сваю чаргу вымагае мацаваць грунт нацыянальнай свядомасці, якім для кожнага народа ёсць свая мова і свая гісторыя. Вось і накіравана была тады дзяржаўная палітыка на выхаванне новага пакалення беларусаў, якім з родным словам у душу павінна была ўвайсці Беларусь. Прынялі Закон аб мовах, паступова пераводзілі адукацыю на беларускую мову. Словам, усё як у людзей, бо гэтым жа, не губляючы часу, займаліся і нашы суседзі, былыя савецкія рэспублікі: Украіна, Прыбалтыка... Пытанне выхавання грамадзян-патрыётаў на падмурку нацыянальных каштоўнасцей там не дыскутавалася, разумелася само сабой.

"Напачатку было слова, і слова было ў Бога, і слова было Бог". Так пачынаецца Стары Запавет, так біблейская ісціна сцвярджае вартасць духоўных каштоўнасцяў перад матэрыяльнымі. Іншаму чалавеку для разумення гэтага трэба пражыць усё жыццё, а бывае і гэтага недастаткова. Пра такога чалавека нельга сказаць, што ён пражыў у згодзе з Богам. Так і народ, які не збярог сваю душу, дадзеную Богам мову, мусіць страціць яго падтрымку і, урэшце, знікнуць. Гісторыя мае таму багата прыкладаў.

І прыйшоў я на вечар дзеля таго, каб падзякаваць дзецям і іх бацькам за тое, што ўсе гэтыя гады яны разам са мною захоўвалі і баранілі роднае слова, дадзенае беларусам Богам. Выконвалі яго святы запавет.

Успомніліся апошнія гады, калі пасля рэферэндуму 1995 года асноўным дырэктарскім болем быў набор у беларускія класы. Што толькі не рабілася, каб школа стала прэстыжнай, прывабнай для бацькоў і дзяцей. Атрымалі статус школы з паглыбленым вывучэннем замежных моў, наладзілі сталыя школьныя абмены з некалькімі ліцэямі Францыі, моўныя стажыроўкі для вучняў і настаўнікаў, удзел у міжнародных школьных даследчых праектах з ліцэямі Германіі і Італіі... Вучні сталі паспяхова выступаць на алімпіядах, паступаць у лінгвістычны універсітэт, ЕГУ, на факультэт міжнародных адносін БДУ, на факультэт міжнароднай эканомікі... Бацькі і вучні ў школу паверылі, пытанне аб мове навучання знялося з парадку дня. Як я радаваўся кожнай заяве бацькоў аб прыёме дзіцяці ў беларускамоўны клас. Чым болей дзяцей выйдуць з беларускай школы, тым больш будзе ў краіне грамадзян, для якіх яна будзе маці, а не мачахай. Радавалася сэрца на ўроках, лінейках, ранішніках, школьных святах, дзе так натуральна і арганічна з вуснаў вучняў гучала родная мова, дзе бачыў, як год ад году яна рабілася для мінскіх дзяцей з рускамоўных сем'яў усё больш роднай і дарагой. Маленькі асяродак беларушчыны, кволае зернейка здаровага сэнсу ў сённяшнім бязглуздым ачмурэнні, надзея на будучае Адраджэнне, калі закаласіцца і забуяе роднае слова на беларускай зямлі, "каб не ўмёрлі". Дзеля гэтага варта было жыць і працаваць.

Які ж боль ахапіў мяне пры першых жа словах вядучых урачыстасць выпускнікоў. Як вы разумееце, сцэнарый вечара быў падрыхтаваны на рускай мове. За ўвесь вечар ні з вуснаў дзяцей, ні з вуснаў бацькоў, ні настаўнікаў не прагучала ніводнага беларускага слова. І гэта на галоўным свяце года ў беларускамоўнай школе. Як мала часу спатрэбілася новай дырэктарцы Яскевіч Г.А., каб перамяніць каштоўнасці і ўсю атмасферу ў школе. Як фальшыва выглядалі прамовы настаўнікаў, якія не нагадалі дзецям у апошні раз аб святым абавязку кожнага чалавека служыць Радзіме, а выпускнікі, правучыўшыся 11 год на беларускай мове, не прыдумалі на развітанне са школай лепшай песні, чым "...Блин, ё маё...".

Даходзіла да мяне ад бацькоў і неабыякавых настаўнікаў трывожная інфармацыя аб новай палітыцы адміністрацыі школы, якая адразу пасля майго сыходу мінулым летам паспела набраць першы рускамоўны клас і рыхтавала перавод школы на рускую мову навучання. Дазвол на гэта пакуль не атрымала, занадта відавочна тады была б прычына расправы з папярэднім дырэктарам. Толькі не хацелася верыць, што так бяззуба схіляць галовы педкалектыў і бацькі перад чалавекам, які прыйшоў разбурыць тое, што так рупліва гадамі зберагалася. А можа, гэта кантрактная сістэма так знявечыла годнасць людзей, што не асмеліліся пярэчыць гвалту? А можа, проста не разумелі, які апошні грамадзянскі ўрок дадуць выпускнікам?

Браць слова з віншаваннямі расхацелася, ды мне яго ніхто і не прапанаваў. Моўчкі сышоў з вечара ў сумным роздуме. Чым кіравалася кіраўніцтва адукацыі горада, прызначаючы дырэктарам адной з апошніх у Мінску беларускамоўных школ, ды яшчэ з паглыбленым вывучэннем замежных моў, чалавека, які не валодае ні беларускай, ні французскай мовамі? Гэта тым больш здзіўляе, што сам старшыня Камітэта адукацыі Мінгарвыканкама М.С.Ціцянкоў закончыў у свой час беларускае аддзяленне філфака БДУ. Ці не такі ж сцэнарый знішчэння Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа рыхтаваўся летась з прызначэннем такой жа "дасведчанай" дырэктаркі? Яе ліцэй не прыняў і быў тады проста фізічна зліквідаваны ў "мэтах аптымізацыі сеткі навучальных устаноў". Выпадковае супадзенне? Думаю, што і сярэднюю школу №2 таксама чакае "аптымізацыя", і яе хутка можна будзе выкрасліць са статыстыкі беларускамоўных школ, тым больш што на сёння там усяго чатыры заявы ў першы клас. Вось і яшчэ адзін парастак Беларусі растаптаны.

Напэўна, многа награшыў у сваёй гісторыі беларускі народ, што так адвярнуўся ад яго Бог. Даруй ім Божа, бо не ведаюць, што робяць. Няма прарокаў у сваёй Айчыне

*******************************

***СВАБОДУ НЕ ВЫМОЛЬВАЮЦЬ ці ВЫПРОШВАЮЦЬ, а СІЛАЮ ЗАВАЁЎВАЮЦЬ!!!***

*Уладзімір Колас: Лукашэнка за дзесяць год кіравання так і не ўсвядоміў сябе беларусам. Ён нарабіў шмат шкоды для беларускасці. Нават у часы Савецкага Саюза мы мелі намнога больш беларускамоўных школ...*

# Без права на выпраўленне

НІВА

## ...і ў вечны бой ісці гатоў

Дзесяць год таму, у ліпені 1994 года, беларускі народ абраў першага ў сваёй гісторыі прэзідэнта краіны. Упэўнена перамогшы ў другім туры Вячаслава Кебіча, гэтую пасаду заняў Аляксандр Лукашэнка. Яго перадвыбарныя абяцанні практычна нічым не адрозніваліся ад дэмагогіі Кебіча — аднавіць разбураныя эканамічныя сувязі, увесці расійскі рубель, інтэгравацца з Расіяй... Здаецца вельмі парадаксальным, што ў той час, калі беларускі народ абраў шлях да незалежнасці, мог на перамогу разлічваць кандыдат з такой праграмай, бо нават камуністычная парламенцкая большасць пад націскам апазіцыі БНФ і вулічных акцый беларускага грамадства, якія на пачатку дзевяностых сама масавымі былі менавіта ў Мінску, змушана была абвясціць незалежнасць Беларусі, прыняць старадаўнюю беларускую сімволіку і надаць беларускай мове статус дзяржаўнай. Такі ход падзей сведчыў, што ўзяўшы папулісцкія абяцанні аднаўлення Савецкага Саюза, наўрад ці можна было разлічваць на пераважную большасць галасоў выбаршчыкаў. Каму ж тады на людзях і з экранаў тэлевізараў даваў свае прысягі Аляксандр Рыгоравіч? На каго яны былі разлічаны?

Дзесяць год кіравання Лукашэнкі самі даюць адказ на пытанне. Беларускае грамадства дзевяностых зусім не ўспрымала аніякіх абяцанняў. Сем дзесяткаў гадоў панавання савецкага ілжывыга рэжыму адвучылі людзей верыць у абяцанні. Беларусы ў сваім выбары кіраваліся эмоцыямі. Іх папросту прывабілі думкай, што Лукашэнка — свой хлопец з народу, просты, такі як усе. І робіць усё ён дзеля людзей. Сам жа будучы прэзідэнт і яго актыўнае атачэнне добра разумелі, што вынік выбараў залежаў не толькі ад выбаршчыкаў. Дзве магутныя сілы, беларуская наменклатура і расійскія спецслужбы пільна сачылі за тым, каб захаваць свае ўплывы ў беларускім кіраўніцтве. Менавіта ў іх адрас гучалі публічныя заявы кандыдата ў прэзідэнты, што дзеля выканання сваіх абяцанняў ён не толькі на каленях можа папаўзці ў Маскву, але і гатовы ісці ў бой.

Постсавецкая наменклатура на той момант ужо ачуняла ад нядаўніх паразаў, усё яшчэ заставалася пры ўладзе і не збіралася яе губляць. Ёй быў патрэбны чалавек, які не дазволіць правесці прыватызацыю, дэмакратызацыю, і як вынік, будзе гарантам таго, што яна застанецца і пры ўладзе, і пры маёмасці. Расія, як і заўсёды, кіравалася сваімі імперскімі амбіцыямі і эканамічнымі выгадамі. Лукашэнка задавальняў і тых, і другіх. Заставалася толькі паспрыяць прыходу Аляксандра Рыгоравіча да ўлады, а пасля пазбавіць яго мажлівасці праводзіць не такую палітыку, якую ён дэклараваў. Стварыць такія варункі, каб прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, нават пры жаданні штосьці змяніць, не мог нічога зрабіць. Пазбавіць яго мажлівасці на выпраўленне дзяржаўнага курсу.

## ...разбурым, аж да падмуркаў, а пасля...

Але прыход Лукашэнкі да ўлады не азначаў поўнай перамогі постсавецкай бюракратыі і расійскіх імперскіх амбіцый. Гэтаму заміналі два фактары — апазіцыя на чале з парламенцкай фракцыяй БНФ і нацыянальная самасвядомасць беларускага народа, якая тады расла ў геаметрычнай прагрэсіі. І новы начальнік дзяржавы пачаў актыўна выконваць сваю галоўную місію — змагацца і з тым, і з другім. Пачалася эпоха збівання дэпутатаў, разгону вулічных акцый, арыштаў, прысудаў, палітычнай і эканамічнай эміграцыі, занядбання нацыянальных каштоўнасцей... З апазіцыяй змагацца было не так цяжка, маючы падтрымку Расіі (прыкладам прыезд у Мінск Чарнамырдзіна, які перашкодзіў аб'явіць Лукашэнку імпічмент) і поўную прыхільнасць постсавецкай наменклатуры, якая цалкам кантралявала вынікі выбарчых працэсаў і рэферэндумаў. А вось з прагай беларускага народа да адраджэння сваіх нацыянальных каштоўнасцей, незалежнай дзяржавы змагацца практычна немажліва. Заставаўся адзін шлях — разбураць гэтыя каштоўнасці.

Заменай дзяржаўнай сімволікі і наданнем рускай мове такога ж статусу як і беларускай Лукашэнка канчаткова паказаў, якія плыні стаяць за ім, і кім ён ёсць. „Гэты чалавек за ўсе гады так і не ўсвядоміў сябе беларусам, — дзеліцца сваімі думкамі з карэспандэнтам «Нівы» старшыня грамадскай ініцыятывы «Рада беларускай інтэлігенцыі», дырэктар зачыненага ўладамі беларускага гуманітарнага ліцэя **Уладзімір Колас**. — Лукашэнка за дзесяць год кіравання так і не ўсвядоміў сябе беларусам. Ён нарабіў шмат шкоды для беларускасці. Нават у часы Савецкага Саюза мы мелі намнога больш беларускамоўных школ, куды больш выдавалася беларускамоўных падручнікаў і іншых кніжак на роднай мове. Ідзе мэтная спроба разбурэння беларускай нацыянальнай свядомасці, каб стварыць іншую ідэалогію. Але я ўпэўнены, што беларускі народ вытрымае і гэты цяжкі перыяд і знойдзе свой шлях развіцця".

## ...мы наш, мы новы свет збудуем...

Здаецца, што Аляксандр Рыгоравіч і сам слаба арыентуецца ў тым, што ён будуе. Лозунг „Назад у СССР" загінуў разам з перспектывамі ўзначаліць новае падабенства былога сацыялістычнага монстра. Інтэграцыя з Расіяй патроху, як стала зразумелым што Пуцін не дазволіць кіраваць па-чарзе, таксама закульгала. Пакуль што, усе спробы зрабіць у Беларусі нешта іншае, чым беларускую краіну, не прыжыліся. Апошнім часам дамінуе штучная ідэя пабудовы сацыяльнай краіны з жорсткай цэнтралізаванай уладай і моцнай прэзідэнцкай вертыкаллю.

„Гэты чалавек робіць усё, каб застацца пры ўладзе, — дзеліцца сваімі развагамі з чытачамі «Нівы» вядомы беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч **Сяргей Законнікаў**. — За дзесяць год кіравання ён сам не ведае куды прывёў краіну. І зараз у яго толькі адна задача — не згубіць уладу, утрымліваць яе ўсімі сродкамі. Адсюль, не зважаючы на і так кволы бюджэт, утварыліся новыя пасады «зампалітаў» на вытворчасці, адсюль і ўтварэнне ды падтрымка неакамсамольскіх арганізацый, адсюль і новыя піянеры... Кіраўніцтва краіны засталося без нейкай лагічнай трывалай ідэалогіі. Усе сілы скіраваныя на знішчэнне апазіцыі і на пустую дэмагогію. Толькі пра адно маўчыць прэзідэнт. Пра свае ранейшыя абяцанні знішчыць карупцыю. На гэтых абяцанках ён, па сутнасці, і прыйшоў да ўлады. Дастаткова проста паглядзець адкуль узяўся прэзідэнцкі фонд, каб зразумець як выканаў свае антыкарупцыйныя дэкларацыі Лукашэнка. Цяпер такое ўражанне, што ён нічым больш не заклапочаны, акрамя як сваім лёсам. І дзеля далейшага ўтрымання ўлады пойдзе на ўсё. І на чарговую змену Канстытуцыі таксама".

Сапраўды, Лукашэнка не зрабіў аніводнай заявы, што не будзе мяняць Канстытуцыю, на прынцыпі якой сам жа настойваў. Ды і ход падзей ускосна пацвярджае яго намер застацца пры ўладзе. Зноў прагучалі заявы пра саюзную дзяржаву. Зразумела, што яны адрасаваны найперш Крамлю. Зноў сцвярджаецца пра неабходнасць захаваць цяперашнюю палітычную і эканамічную стабільнасць краіны. Зразумела, што гэтыя заявы для класа постсавецкай наменклатуры, якія будзе кантраляваць ход выбарчага працэсу. Усё як і дзесяць год таму. Толькі ахвяр пабольшала.

Аналізуючы час Лукашэнкі пры ўладзе, становіцца зразумелым, што сам ён не прасунуўся ў развязанні сваіх пытанняў ні на трохі. І таму мусіць рабіць тое, з чаго пачынаў у 1994 годзе. Беларускае грамадства не толькі саспела да палітычных і эканамічных змен, але і патрабуе іх. А Лукашэнка па-ранейшаму абапіраецца на сілы, якія не даюць яму права на змены і выпраўленне сітуацыі ў Беларусі.

Віктар САЗОНАЎ

# У Зэльве адрадзілі славуты Анненскі кірмаш

**Барыс ПРАКОПЧЫК** /Зьвязда/

У Зэльве паспрабавалі адрадзіць калісьці вядомы на ўсю Еўропу Анненскі кірмаш. Сёлета ён прайшоў ужо ў трэці раз, і хаця па свайму размаху яго не параўнаеш з адным з галоўных гандлёвых цэнтраў Вялікага княства Літоўскага, але цікавасць да гэтай дзеі ўзрастае.

— У XVIII стагоддзі суседняе з Дзярэчынам невялікае мястэчка Зэльва нечакана праславілася на ўсю Еўропу, — апавядаецца ў нядаўняй кнізе «Дзярэчынскі дыярыюш». Прычынай гэтага стаўся каралеўскі прывілей, які атрымаў у 1720 годзе Антоній Казімір Сапега на правядзенне ў мястэчку штогадовых «ярмонок или торгов». Ад таго часу пачынаецца гісторыя славутага зэльвенскага кірмашу, аднаго з найбуйнейшых у Рэчы Паспалітай. Кірмаш праводзіўся з 25 ліпеня па 25 жніўня, але задоўга да яго пачатку Зэльва прыкметна ажывала. Мясцовыя вознікі цэлы месяц не выпрагалі коней, па дарогах удзень і ўначы рухаліся вазы ў напрамку Слоніма і Гародні, Вільні і Рыгі, Бярдзічава і Дубны. Адзін з самых пладавітых пісьменнікаў свету, аўтар каля шасці соцень раманаў і аповесцяў, наш зямляк Юзаф Крашэўскі ўганараваў Зэльву эксклюзіўнай кнігібкай, з якой адзін сказ набыў афарыстычнае гучанне. Сказ той датычыўся зэльвенскага кірмашу: «З вельмі даўніх часоў Зэльва і яе жыхары падпарадкоўваюцца дзіўнаму правілу — адзінаццаць месяцаў кожнага году марнеюць і толькі месяц жывуць».

На час кірмашу насельніцтва мястэчка ўзрастала да трох тысяч чалавек. Нягледзячы на тое, што паблізу цэнтральнай гандлёвай плошчы быў пабудаваны заезны двор на дзвесце месцаў, тутэйшыя жыхары няблага зараблялі, прымаючы гандляроў у падгасподніках.

На зэльвенскім кірмашы ішоў вялікі гандаль коньмі. Некаторыя купцы трымалі свае табуны воддаль ад мястэчка, на добрых выпасах, каб тавар не страціў належнага выгляду. Сапега сваіх славутых жарабцоў англійскай, турэцкай, дацкай і неапалітанскай парод прыганяў на торг з Бярэжак і Алексічаў. Ружанскі габрэй Левенберг гандляваў у Зэльве звычайнымі коньмі, браў ад двухсот рублёў за галаву і, вядома ж, не мог скласці канкурэнцыі князю.

Перад кірмашовым людам выступалі фокуснікі, жанглёры і акрабаты.Цыган вадзіў вучонага мядзведзя, і выхаванец Смаргонскай акадэміі вытвараў сапраўдныя цуды — гандляры лезлі пад вазы ад рогату. Хлопчыкі-клікуны запрашалі наведацца ў перасоўчны тэатрык, каб паглядзець французскую меладраму «Трыццаць гадоў з жыцця гульца» альбо падняць настрой праглядам лёгкіх камедый «Прыгожая гаспадыня» ці «Дзе шэвндаюцца нашы мужыкі»...

Улічваючы ўласцівыя гэтаму кірмашу гістарычныя адметнасці, у Зэльве і цяпер, вядома, не забылі пра коней. Вось і сёлета адбылася выстаўка лепшых парод коней, конкурс павозак, сваё майстэрства прадэманстравалі выхаванцы конна-спартыўнай школы. Арганізатары падрыхтавалі таксама цікавую канцэртную праграму з выступленням калектываў мастацкай самадзейнасці, атракцыёны для дзяцей. Зразумела, не давялося сумаваць на кірмашы і работнікам гандлю.

— Прыгожае мерапрыемства, цудоўны адпачынак, — гаворыць старшыня Зэльвенскага райспажыўтаварыства Галіна Юркевіч, — усім вельмі спадабалася.

Да гандлёвых здзелак па конях, як у часы Сапегаў, справа на кірмашы пакуль, праўда, не даходзіць. Аднак Галіна Сяргееўна не выключае, што ў будучым да яго падключацца прадпрыемствы і арганізацыі, якія займаюцца гадоўляй коней.

**********************************************************

# Свята пісьменства вяртаецца ў Тураў

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ**

Пятага верасня ў Тураве пройдзе Дзень беларускага пісьменства. Гэтае свята ў Беларусі будзе праходзіць ужо адзінаццаты раз.

Тураў будзе прымаць сёлетняе свята ў статусе горада. У пачатку жніўня пастановай Савета Міністраў гарадскому пасёлку быў нададзены статус горада раённага падпарадкавання. Дарэчы, Дзень беларускага пісьменства будзе праходзіць у Тураве ўжо другі раз — тут яно праходзіла шмат гадоў таму, калі толькі нараджалася традыцыя правядзення гэтага мерапрыемства.

Як адзначыла першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч на нарадзе з прадстаўнікамі беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, якія плануюць узяць удзел у свяце, сёння актыўна ў работу па падрыхтоўцы да свята ўключылася міністэрства адукацыі. Плануецца, што будуць арганізаваны экскурсіі школьнікаў з усёй рэспублікі на свята. Такія экскурсіі павінны стаць заахвочваннем для лепшых школьнікаў і класаў.

Паводле слоў Ліліі Ананіч, жыхары Турава атрымаюць да Дня беларускага пісьменства прыродны газ. Таксама ў бліжэйшыя гады дзяржава плануе прыкласці значныя намаганні па аднаўленню гістарычнага асяродка Турава. Як сказала Лілія Ананіч, адраджэнне гістарычнага выгляду горада будзе адбывацца пад патранажам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

4 верасня, плануецца адкрыць помнік Кірылу Тураўскаму ў Гомелі.

# Пад акупацыяй

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## *Урывак з аўтабіяграфічнай кнігі-споведзі «Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары».*

Беларусы таго пакалення, да якога належу я, пераказваючы або пішучы сваю аўтабіяграфію, звычайна зазначалі: «вучобу ў школе на тры гады перапыніла вайна», маючы на ўвазе, што тры гады цягнулася нямецка-фашысцкая акупацыя Беларусі. Гэта не зусім так. Ці, дакладней, гэта датычыць далёка не ўсіх маіх равеснікаў, якія свае дзіцячыя і падлеткавыя гады правялі ў акупаванай немцамі Беларусі. Цалкам менавіта такі, трохгадовы перапынак у вучобе выпаў на долю школьнікаў усходніх раёнаў Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны – тэрыторыя, якая знаходзілася ў распараджэнні вайсковых нямецкіх улад і не адносілася да гэтак званай «Беларутэніі», што была ў веданні гітлераўскага гебітс-камісарыяту на чале з гаўляйтэрам. З другога боку, школьнікі крайніх заходніх тэрыторый Беларусі, уключаных у склад Рэйха (Беласточчына і заходняя Гарадзеншчына), а таксама школьнікі гарадоў «Беларутэніі», дзе аж да лета 1944-га панавала нямецкая ўлада, хадзілі ў школу, вучыліся пад акупацыяй усе тры гады. У выніку яны, не страціўшы ў школьнай вучобе ні году, ні паўгоду, паступалі пасля вайны ў інстытуты і ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на тры гады маладзейшымі за сваіх усходнебеларускіх равеснікаў. (Калі я прыйшоў на першы курс філфака БДУ, мой аднагодак са Слоніма Алег Лойка ўжо быў на чацвёртым курсе). Што ж датычыць школьнікаў вясковых школ цэнтральнай Беларусі («Беларутэніі»), то тут – як каму пашанцавала: хто вучыўся пад акупацыяй год, хто – год з гакам, а хто і ўсе два. Але тры гады не вучыўся ніхто. Восенню 1942-га ўжо набірала сілу партызаншчына, і настаўнікам, якія лічыліся службоўцамі акупацыйнай улады, працаваць стала немагчыма: народныя мсціўцы прыраўнівалі іх да здраднікаў.

Я пад акупацыяй вучыўся ў школе фактычна толькі адзін год – закончыў чацвёрты клас у сваёй Слабадзе. У наступны ж пяты (ужо ў суседняе мястэчка Гайна) пахадзіў усяго тыдні тры, не болей – і школа была зачынена. У яе вялікім новым будынку (тыповым, пастаўленым за год да вайны) размясціўся паліцэйскі гарнізон. Але зусім не надоўга. На пачатку зімы, ад страху быць разгромленымі, яго ваякі перабраліся ў суседні гарнізон у Лагазе, а школу – новы, цудоўны будынак – партызаны спалілі. «Каб не было куды вярнуцца «бобікам» (так пагардліва называлі тых, хто пайшоў у паліцыю). Пазней, пасля вайны, гэтае бяздумнае, нічым не апраўданае спажаранне школы будзе даплюсавана да зруйнаванняў, што ўчынілі на Беларусі нямецка-фашысцкія акупанты, – як і тысячы іншых спаленых ці разбураных «ляснымі салдатамі» школ і розных казённых будынкаў, узарваных былых панскіх палацаў, касцёлаў і цэркваў. Усё прыпісалі акупантам – усе свае дурныя, бязглуздыя спажаранні і разбурэнні. Гэта не значыць, што не палілі і не руйнавалі нямецкія фашысты – і палілі, і руйнавалі страшэнна. Але гэта значыць, што ўся праўда аб тым, што было, што чынілася-рабілася на Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны, яшчэ не напісана. Яшчэ так і не сказана на ўвесь голас, чаму і адны і другія, і фашысты і антыфашысты – былі такія бязлітасныя да беларусаў і да багаццяў-скарбаў нашай матэрыяльнай культуры, да рукатворных помнікаў нацыянальнага генія народа. І не толькі, вядома ж, да рукатворных.

Год вучобы ў школе пад немцамі адзначыўся ў маёй свядомасці двума новымі момантамі, якія мелі, як я цяпер разумею, немалаважныя для мяне наступствы. Па-першае, усе ранейшыя, савецкія школьныя чытанкі і хрэстаматыі былі са школьнага ўжытку зняты, апынуліся пад забаронай (фактычна былі сабраны, рэквізаваны і знішчаны), і таму ва ўсіх класах нашай (цяпер ужо не сямігадовай, а пачатковай) школы мову і літаратуру дзеці вывучалі па выдаваным у Менску з восені 1941-га году часопісе «Беларуская школа», у якім усе матэрыялы (і метадычныя, і літаратурна-мастацкія) былі надрукаваны гэтак званай «тарашкевіцай». На «тарашкевіцы», дарэчы, друкаваліся і беларускія газеты, якія да снежня 1942-га даходзілі да нас, у Слабаду, і якія я з вялікай цікавасцю чытаў («Беларуская газэта», «Менская газэта»). Гэты адметны ад ранейшага правапіс роднай мовы, павінен прызнацца, прыйшоўся мне да душы, асабліва абазначэннем мяккасці зычных З, С, Л, Н, Ц на пісьме з дапамогай мяккага знаку (зьбіў, сьнег, гальлё, сёньня, жыцьцё). Нейкае падсвядомае нутраное чуццё як бы гаварыла мне, што гэтак пісаць лепш, што гэтак і трэба. За год вучобы я так прызвычаіўся да «тарашкевіцы» (гэтага тэрміна, вядома ж, я тады не чуў), што нейкі час яшчэ і пасля вайны ў маіх пісаннях праскокваў, як партызан-дыверсант, лішні мяккі знак і «пускаў пад адхон» жаданую, запланаваную ў амбітнай душы «пяцёрку».

Другое, што было пэўным шчаслівым адкрыццём для мяне ў тагачаснай вучобе , – гэта знаёмства з беларускім народным земляробчым календаром, з апісаннем нашых даўніх народных святкаванняў і звычаяў, абрадаў і гульняў, з узорамі абрадава-каляндарнай і сямейнай паэзіі, з гістарычнымі паданнямі і легендамі беларускага народа. Рэч у тым, што такога матэрыялу было багата ў названым часопісе, ды і газеты яго друкавалі, і што на ўсім гэтым акцэнтавалася на ўроках увага, чаго абсалютна, зусімніяк не рабілася ў школе да вайны. У савецкай школе гэтым займацца было нельга, ва ўсякім разе – у беларускай савецкай, бо на гэтае багацце народнай духоўнасці, народнай паэзіі вучылі глядзець як на нічога не вартую забабонную старыну, не толькі непатрэбную, але і шкодную, звязаную з беларускім буржуазным нацыяналізмам, і таму фактычна забароненую. Народныя лірычныя (пазаабрадавыя) песні спяваць і казкі расказваць (асабліва антыпанскія і антыцаркоўныя) – не забаранялася, яны ўваходзілі і ў вучэбныя праграмы, але каб старыя святы святкаваць і язычніцкія ці хрысціянскія абрады выконваць – крый Бог! Толькі хіба ўпотай, падпольна. А тут – пра ўсё гэта гаварылася не толькі адкрыта, але і з ухвалою, з заклікам адраджаць у жыцці свае старажытныя святы, звычаі, абрады. І трэба сказаць, што часовае адраджэнне пэўных, ужо прызабытых атрыбутаў нацыянальнага беларускага быту, святочных абрадавых дзействаў і рытуалаў мела, прынамсі ў нашым наваколлі, месца, заклік да яго быў пачуты і прыняты вясковай моладдзю з задавальненнем. Помню, як мне, страшэнна заінтрыгаванаму чуткамі, хацелася пранікнуць у перадкалядны вечар у хату да Маславых, дзе – усе ў вёсцы гэта ведалі – дзяўчаты «пякуць ката». І Каляды першай ваеннай зімы, і затым Вялікдзень, і Сёмуха, і Купалле святкаваліся па ўсіх канонах і правілах, як і ў былыя дакастрычніцкія часы. Усё гэта ўваскрашалася ў памяці і адраджалася ў вясковым побыце імгненна само сабой, без ніякіх распараджэнняў і загадаў. Зрэшты, садзейнічалі гэтаму і самі варункі акупацыйнага рэжыму – жыццё без кніг, без кіно, без радыё, а пачынаючы з восені сорак другога – і без школы. Разам з жорнамі, з самаробнай гарэлкай (самагонкай) і іншымі прадметамі старога быту ў жыццё вярталіся і старыя абрады, і даўнейшыя, амаль зусім забытыя, гульні-забавы, на вечаровых зборышчах моладзі не абыходзілася без розных прымхаў, варажбы і іншых забабонаў.

Быў у той першы год акупацыі і яшчэ адзін нечаканы прарыў маёй «зялёнай» свядомасці ў раней наглуха ад мяне схаванае і невядомае – у тую таямніцу, на якую было накладзена самае страшнае з усіх дзяржаўных табу савецкай эпохі: у праўду пра Сталіна, пра яго акружэнне і пра ўсталяваны пры ім у краіне палітычны рэжым. Забяспечылі мне гэты «прарыў» галоўным чынам мінскія беларускія газеты, якія дастаўляліся ў вёску бургамістру нашай Слабодскай воласці Івану Бурбоўскаму і якія я, дзесяці- адзінаццацігадовы падлетак, згаладнелы па друкаваным слове, прагна чытаў. Рэч у тым, што гэты самы Бурбоўскі даводзіўся майму бацьку дваюрадным братам, быў мой стрыечны дзядзька (досыць блізкая радня). Я сябраваў з яго дзецьмі і пад выглядам «пагуляць» прыходзіў да іх у хату «пачытаць». Газеты, падшытыя ў стос, ляжалі на шырокай драўлянай канапе, і калі нават гаспадар быў дома – гартаць іх мне дзядзька Іван не забараняў. Чаго толькі на палосах тых «газэт» я не вычытаў – і пра наша жыццё пры «саветах», пад уладай «жыдоў і камуністаў», і пра зверствы Сталіна і яго апрычнікаў, і пра тое, як сілай заганялі сялян у «калгасны рай», і пра гвалт над беларускай мовай і культурай, і, вядома ж, пра блізкую перамогу харобрых войск фюрэра над рэшткамі разбітай Чырвонай Арміі. Вельмі ўражвалі карыкатурныя выявы Сталіна і іншых кіраўнікоў савецкай краіны, часам страшэнна пачварныя і таму смешныя. Пасля ўсяго таго, што я чуў і чытаў пра Сталіна да вайны, – гэта здавалася нечым неверагодным і страшным, амаль нерэальным, і я падоўгу глядзеў на карыкатуры, як агаломшаны. Разумеў, нават і ў тым узросце, што гэта робіцца рукамі ворагаў нашай Радзімы, і аднак жа, аднак жа... штосьці ў свядомасць западала нейкай неразгаданай да часу загадкай.

# Мова як матэрыяльная каштоўнасць

**Уладзімір ЯЦКЕВІЧ**, доктар тэхнічных навук, прафесар

Патэнцыял кожнай дзяржавы ў значнай ступені залежыць ад яе матэрыяльных і інтэлектуальных рэсурсаў. Вядома, што Беларусь не надта багатая прыроднымі рэсурсамі. У асноўным гэта лясы, вада і паветра, а таксама карысныя выкапні.

Але ёсць яшчэ адзін матэрыяльны рэсурс, які, як карысны «выкапень», ляжыць у нас пад нагамі. Мы, можна сказаць, топчам яго нагамі, але амаль не карыстаемся. Гэты рэсурс — беларуская мова.

Чаму ж яе можна і трэба аднесці да матэрыяльнай каштоўнасці?

У міжнародным праве ёсць такое паняцце, як інтэлектуальная ўласнасць. Да яе адносяць літаратурныя і навуковыя творы, вынаходніцтвы і іншыя друкаваныя выданні, перадачы тэлебачання і радыё, музычную і канцэртную дзейнасць і г. д.

Творцаў гэтай інтэлектуальнай уласнасці абараняюць міжнародныя і дзяржаўныя законы аб аўтарскім праве. А вось на нацыянальным узроўні інтэлектуальную ўласнасць абараняе тая мова, на якой яны створаны. Гэта як бы своеасаблівы замок да сейфа, дзе захоўваецца інтэлектуальная ўласнасць у адпаведнай матэрыяльнай форме выканання.

І калі нехта захоча ёй карыстацца, то трэба мець адпаведны ключ — менавіта валоданне адпаведнай мовай. У процілеглым выпадку прыйдзецца заплаціць адпаведныя грошы за пераклад на іншую мову, больш даступную для карыстання. Але пры гэтым непазбежныя і якасныя страты. Таму лічыцца, што лепш карыстацца першакрыніцай, чым перакладам, якім бы дасканалым ён ні быў.

Зараз уявім сабе тое нацыянальнае багацце, якое можна было стварыць на беларускай мове — цэлыя бібліятэкі. Мы ж, як той ганчар, «лепім збаны з чужой гліны, забыўшыся пра сваю». Таму і «збаны» — адпаведна выкарыстанаму «матэрыялу» — мове — належаць да інтэлектуальнай нацыянальнай каштоўнасці іншых краін. Прыкладам таму нашы землякі — Адам Міцкевіч, які лічыў сябе ліцвінам, але тварыў на польскай мове, ці таксама ліцвін Хведар Дастаеўскі, вядомы як вялікі рускі пісьменнік.

Таму можна толькі выказаць словы ўдзячнасці і маральнай падтрымкі нашым беларускамоўным пісьменнікам і паэтам. Мы чакаем ад іх высокамастацкіх і сусветна прызнаных твораў, але ж трэба ўлічваць і іх становішча. Так, каб у лесе вырас добры грыб — баравік, то патрэбны адпаведныя ўмовы — святло, тэмпература і вільгаць, глеба, мох, травы, кустоўе і дрэвы. У дачыненні да пісьменнікаў падобнымі ўмовамі можна лічыць той асяродак, які праяўляецца менавіта праз беларускую мову, культуру. А вось гэтага якраз і няма, у лепшым выпадку вакол пануе «трасянка», і тое, што яны і ў такіх умовах падтрымліваюць агонь у беларускай моўнай «печы», хай не такі яркі і гарачы, але галоўнае — нязгасны, заслугоўвае вялікай падзякі на грамадскім і дзяржаўным узроўні.

Мне могуць слушна нагадаць, што ў нас законам прадугледжаны дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская. І ў адпаведнасці з гэтым дзяржава гарантуе яе грамадзянам права выбару мовы. А беларускай мове нават аказвае дзяржаўную падтрымку. Але ж чаму тады мы назіраем панаванне толькі рускай мовы ў большасці сфер нашага жыцця?

І настолькі з гэтым звыкліся, што настойлівыя заклікі асобных грамадзян карыстацца роднай мовай не знаходзяць адпаведнага водгуку насельніцтва. Назіраецца яўны парадокс — у адпаведнасці з вынікамі перапісу беларускую мову лічаць роднай прыкладна 80 працэнтаў грамадзян, а карыстаецца ёй толькі адносна невялікая колькасць. Пра тое яскрава сведчыць такая, напрыклад, акалічнасць, як надпісы на помніках сваім продкам ці блізкім. Гэта свабоднае волевыяўленне адбываецца без усялякага ціску ці забароны. Вось вам моўны «рэферэндум» і яго вынікі.

Я не спецыяліст у галіне мовазнаўства, і магу выказаць толькі свае асабістыя меркаванні. Каб разабрацца ў гэтым пытанні, прыйшлося звярнуцца да сусветнага вопыту карыстання мовамі. І вось што выяўляецца ў выніку майго невялікага даследавання.

Па ўсіх кантынентах зямнога шара пераважае колькасць краін, якія маюць толькі адну дзяржаўную мову, — гэта амаль 75 працэнтаў ад агульнай колькасці. Па дзве дзяржаўныя мовы маюць 41 краіна, з іх палова ў Афрыцы. У Еўропе, акрамя Беларусі, гэта Бельгія, Ірландыя і Фінляндыя, а таксама такія невялікія дзяржавы як Люксембург і Мальта.

Можна адзначыць, што дзяржаўнае двухмоўе больш характэрнае для былых каланіяльных краін Афрыкі. Іншыя ж наогул могуць мець адну дзяржаўную мову, але чужую. Так, Заір з насельніцтвам у 30 мільёнаў чалавек карыстаецца французскай, Замбія і Гана — англійскай, Ангола — партугальскай. Нават такія вялікія краіны Паўнёвай Амерыкі як Бразілія і Мексіка карыстаюцца, адпаведна, партугальскай і іспанскай мовамі.

У гэтай сувязі ўспомнім, што на працягу цэлага стагоддзя на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў якасці дзяржаўнай панавала польская мова (у часы Вялікага княства Літоўскага). У сваю чаргу яна была выціснута рускай мовай. І толькі на пачатку 20-га стагоддзя пачала адраджацца беларуская мова ў якасці самастойнай. На гэтым шляху былі поспехі і няўдачы. Цяперашні яе стан вядомы кожнаму. Многімі ж мовазнаўцамі ён адзначаецца як крытычны, нягледзячы нават на дзяржаўны статус.

У чым прычыны такой з’явы? Гэта галоўнае пытанне. І калі мы дадзім на яго правільны адказ, то зможам зрабіць і асэнсаваныя захады ў патрэбным накірунку. Пакуль што намі больш валодаюць эмацыянальныя пачуцці і гучаць заклікі вяртання да «матчынай» мовы. А галоўнай прычынай называюць імперскія памкненні суседніх краін.

Асабіста я схіляюся да думкі, што гэта справа больш складаная і не мае простых адказаў. Па маім разуменні, у яе аснове ляжыць уздзеянне інфармацыйных патокаў, якія маюць аб’ектыўны і глабальны характар. Так было ў ранейшыя часы, а тым больш у перыяд сучасных навукова-тэхнічных дасягненняў. Апошні яскравы

прыклад — з'яўленне сусветнай інфармацыйнай «павуціны» пад назвай «Інтэрнэт».

Можна меркаваць, што ў свой час беларусаў «зацягнула» спачатку ў польскі, а потым у рускі інфармацыйны паток. Прыкладна так прыцягвае да сябе рух цела вялікай масы невялікія целы. У адрозненне ад іншых краін гэта ўздзеянне значна ўзмацнялася геаграфічным фактарам — блізкім суседствам і адносным падабенствам мовы, а магчыма, і іншымі абставінамі.

Таму зусім не выпадкова паступова знікаюць з ужытку асобныя мовы на карысць больш «моцных». Можна таксама ўспомніць, што ў якасці афіцыйных моў міжнародных зносінаў у сістэме ААН прыняты да ўжытку толькі шэсць — англійская, арабская, іспанская, кітайская, руская і французская. Сёння, бадай, самы магутны паток інфармацыі рушыць па свеце на англійскай мове. Нам карыстацца ім даволі цяжка, таму мы вымушаны звяртацца да другога інфармацыйнага патоку, на рускай мове, які для нас дастаткова магутны. Так сказаць, сядзім не толькі на «энергетычнай», але і на «інфармацыйнай іголцы».

У гэтым сэнсе мы з'яўляемся, з аднаго боку, карыстальнікамі, а з другога — непасрэднымі ўдзельнікамі стварэння інфармацыйнага патоку, на рускай мове. У гэтых умовах могуць быць тры сцэнарыі развіцця:

- і далей карыстацца інфармацыйным патокам на рускай мове і далей рабіць у яго свой адпаведны інтэлектуальны ўклад, як адбываецца гэта зараз;
- стварыць сваю ўласную інфармацыйную прастору на беларускай мове;
- стварыць уласны інфармацыйны паток на беларускай мове і супрацоўнічаць у агульнай інфармацыйнай прасторы з іншымі краінамі на парытэтнай аснове.

У першым выпадку лагічна чакаць паступовага заняпаду і з цягам часу наогул знікнення роднай мовы, а з ёй і непазбежнага зніжэння нацыянальнага і дзяржаўнага патэнцыялу да поўнай страты суверэнітэту.

Другі варыянт ва ўмовах сусветных тэндэнцый да глабалізацыі звязаны з перспектывай самаізаляцыі, і ён у эканамічных стасунках для нашай краіны непасільны.

Найбольш мэтазгодным і рэальным, на мой погляд, з'яўляецца апошні варыянт. Ён дазволіць павялічыць агульны матэрыяльны і інтэлектуальны патэнцыял Беларусі, адкрыць магчымасць да шырокага міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне інфармацыйных праграм і тэхналогій, і не з адной, як зараз, а з многімі краінамі.

Вядома, для гэтага запатрабуецца распрацоўка спецыяльнай дзяржаўнай праграмы. Час яе поўнай рэалізацыі, магчыма, будзе адбывацца пры жыцці некалькіх пакаленняў.

Але ж на тое дзяржава і існуе, каб бараніць нацыянальныя інтарэсы. Калі мы з малых гадоў вывучаем родную беларускую мову, а потым ёй не карыстаемся, то ў гэтым няма не толькі ніякай логікі, але і эканамічнай выгады, бо на гэта былі затрачаны значныя грашовыя сродкі, якія павінны акупляцца ў будучыні. Больш таго, калі мы вучым беларускую мову ў агульнаадукацыйнай школе, то лагічна карыстацца ёй і ў вышэйшых навучальных установах. Тым самым мы падрыхтуем высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія і будуць ствараць інфармацыйныя патокі на беларускай мове. Як некалі быў век панавання польскай мовы, а потым рускай, так зараз XXI век павінен стаць векам карэннага ўмацавання беларускай мовы і яе безумоўнага ўжытку ў грамадскім і дзяржаўным жыцці. Галоўнае, каб на цяперашнім этапе стварыць агульную тэндэнцыю руху ў гэтым накірунку, пажадана без адчувальнага адміністрацыйнага ўціску. Такая праграма павінна быць прадуманай у заканадаўчых, выканаўчых і фінансавых адносінах. Яна не можа быць палітызаванай, бо гэта толькі шкодзіла б яе выкананню. Наадварот, трэба развіваць міжнароднае супрацоўніцтва ў інфармацыйнай прасторы на аснове ўзаемаразумення, быць удзячнымі за магчымасць карыстацца іншымі інфармацыйнымі патокамі, і ў першую чаргу рускім, найбольш звыклым для нас.

Але іх уздзеянне на нашу нацыянальную самасвядомасць і адметнасць павінна быць абмежавана законам аб нацыянальнай моўнай бяспецы, накшталт прынятых раней законаў аб дэмаграфічнай ці экалагічнай бяспецы.

Увогуле, пакуль мы не зразумеем сваю адметнасць праз рэальную мову і неабходнасць вяртання да яе, нельга сур'ёзна разважаць пра суверэнітэт нашай краіны, бо мова — гэта яе абярэг. /Звязда/

********************************************



**Цімафей Ліякумовіч** – Чыкага, ЗША.

# З даверам да людзей, жыцця і літаратуры

*(Да 75-годдзя з дня нараджэння крытыка і літаратуразнаўцы Віктара Каваленкі)*

У беларускім літаратуразнаўстве ёсць значная дзялянка, якая старанна апрацавана крытыкам і літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам. Ён рупліва апрацоўваў яе амаль паўстагоддзя. Плёны ўраджай сабраны з гэтай нівы, якая абагаціла беларускую навуку аб літаратуры.

В. Каваленкам напісаны кнігі "Пошукі і здзяйсненні: Творчасць Змітрака Бядулі" (1963), "Давер: Літаратурна-крытычныя артыкулы" (1967), "Голас чалавечнасці: Пра некаторыя гуманістычныя матывы ў беларускай літаратуры" (1970), "Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы: Агульны рух і галоўныя тэндэнцыі" (1972), "Вытокі. Уплывы. Паскоранасць: Развіццё беларускай літаратуры XIX – XX ст." (1975), "З пазіцый сучаснасці: Агульны працэс літаратурнага развіцця (1975), "Прага духоўнасці" (1975), "Праблемы сучаснай беларускай крытыкі" (1977), "Жывое аблічча дзён" (1979), "Іван Шамякін: Нарыс жыцця і творчасці" (1979), "Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры" (1981), "Общность судеб и сердец: Белорусская проза о Великой Отечественной войне в контексте русской и других литератур" (1985), "Покліч жыцця" (1982), "Веліч праўды" (1989) і інш.

У полі зроку В.Каваленкі заўсёды знаходзіліся надзённыя праблемы часу. Ён адным з першых у беларускім літаратуразнаўстве ўзняў свой голас супраць вульгарнай сацыялогіі, схематызму ў адлюстраванні жыцця і чалавечых характараў. Яго цікавілі праблемы фальклорных і мастацкіх традыцый, нацыянальныя і інтэрнацыянальныя вытокі развіцця роднай славеснасці. Жывую практыку сучаснасці літаратуразнавец сувымяраў з вопытам гісторыі, з адпаведнасцю гуманістычным традыцыям.

В. Каваленка падыходзіў да літаратуры з разуменнем той вялікай ролі, якую яна адыграла ў духоўным развіцці грамадства, падтрымліваў у ёй усё тое, што спрыяла выхаванню ў людзях высакародных якасцей, садзейнічала развіццю беларускай культуры. Ён жыў з даверам да жыцця, з даверам да літаратуры. Яго слова ўспрымалася як жывое і дзейснае, бо яно натхнялася пошукамі ісціны, абапіралася на грунтаваную аргументацыю і сцвярджалася літаратуразнаўчай доказнасцю. Пры вызначэнні руху і галоўных тэндэнцый беларускай літаратуры В. Каваленка кіраваўся ў першую чаргу пазнаннем яе духоўнасці і мастацкай адметнасці. Аб гэтым можна меркаваць нават па назвах яго даследаванняў.

Дбаючы пра змястоўнасць і маштабнасць беларускай літаратуры, В. Каваленка асаблівую ўвагу аддаваў даследаванню яе месца сярод іншых славянскіх літаратур. Ён надаваў значную ролю традыцыям сусветнай літаратуры для беларускага прыгожага пісьменства, доказна даводзіў, што беларускаму слову ёсць чым ганарыцца, натхняў творцаў на наватарскія адкрыцці. Апошняй вялікай працай знакамітага літаратуразнаўцы было стварэнне калектыўнага 4-томніка "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей" (1993-1995), у якіх аўтарскім калектывам пад яго натхняльным кіраўніцтвам усебакова прааналізаваны працэс узаемасувязей беларускай і рускай літаратур са старажытнага часу да канца XX стагоддзя, у якіх з новых метадалагічных пазіцый на аснове багатага і старанна адабранага літаратурнага матэрыялу раскрыта значнасць праблемы кантактаў і ўзаемаўплываў як адзін з важных аспектаў развіцця прыгожага пісьменства.

Шмат увагі В. Каваленка аддаваў даследванню мастацкіх дасягненняў Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, В.Быкава, Я.Брыля, А.Адамовіча. Ён настойліва вызначаў своеасаблівасць іх пісьменніцкай сістэмы, разглядаў іх важкі ўклад у беларускую культуру і значнасць творчых набыткаў для сучасных і наступных пакаленняў.

В. Каваленка быў актыўным удзельнікам жывога літаратурнага працэсу. Ён выказваў сваё важкае слова ў рэцэнзіях на творы празаікаў І.Мележа, І.Пташнікава, І.Чыгрынава, Б.Сачанкі, на паэтычных зборнікі Н.Гілевча, А.Лойкі, на працы літаратуразнаўцаў Р.Бярозкіна, Н.Перкіна, У.Юрэвіча, У.Казбярука і інш. Ягоны доказны, грунтоўны і добразычлівы аналіз напісанага дапамагаў сучасным майстрам мастацкага слова ўзнімацца на новыя творчыя вяршыні.

В. Каваленка жыў з пастаянным клопатам пра родную літаратуру, імкнуўся да таго, каб яе багацці былі ўспрыняты кожным беларусам, імкнуўся прыцягнуць да яе ўвагу па-за межамі рэспублікі.

В. Каваленка -- адзін са складальнікаў хрэстаматый "Родная літаратура" для 9 і 10 класаў, па якім прычашчаліся прыгожым беларускім словам некалькі пакаленняў школьнікаў.

В. Каваленка – адзін з аўтараў і кіраўнікоў стварэння двухтомнай "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" і "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", за ўдзел у напісанні якіх стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980). Яшчэ раней, у 1976 годзе, за кнігу "Прага духоўнасці" ён атрымаў Літаратурную прэмію Саюза пісьменнікаў СССР.

Пяру В. Каваленкі таксама належыць раман "Падвышанае неба" (1978), у якім адлюстраваны шматпакутны лёс заходнебеларускага селяніна.

Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі БССР (1981) В. Каваленка каля пятнаццаці гадоў ўзначальваў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Чалавек шчодрага сэрца, дбайны настаўнік моладзі, ён пабацькоўску клапаціўся аб выхаванні маладой змены беларускіх літаратуразнаўцаў. Многія сучасныя даследчыкі беларускай літаратуры, пісьменнікі, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў праклaдвалі свае першыя крокі ў літаратуразнаўстве і крытыцы з ягонай добразычлівай падтрымкі і патрабавальнай увагі. Віктар Антонавіч верыў у людзей, пры неабходнасці ўмеў своечасова падаць руку дапамогі, натхніць на творчую працу, вучыў не апускаць свае крылы пры нападках нядобразычліўцаў, розных літаратурных прыстасаванцаў і зайздроснікаў, што лічылі свае нядобрасумленныя выказванні найвышэйшым прысудам. Яго беражлівае і чуйнае стаўленне да чалавека, яго шчырае жаданне прыйсці людзям на дапамогу, яго чэснае служэнне літаратуры і адчуванне агіды да ўсякіх закулісных інтрыг, як правіла, акрыляла, застаўляла людзей працаваць з вялікай адказнасцю, каб не падарваць ягоны давер да сябе.

Апрача таленту крытыка і літаратуразнаўцы, В. Каваленка валодаў рэдкасным у любым часе дарам чалавечнасці, дарам памяркоўнасці. Беларускай літаратуры пашчасціла мець такога ўдумлівага даследчыка-літаратуразнаўцу. Ён пакінуў значны след у беларускай літаратуры і сталую ўдзячнсць у сэрцах усіх, хто меў шчаслівую магчымасць ведаць яго асабіста.

***********************************

# Аўстрыйская прэса: «Беларусь пакутуе ад самага рэпрэсіўнага рэжыму ў Эўропе»

*Пра сытуацыю, у якую трапіла Беларусь у выніку палітыкі Аляксандра Лукашэнкі, піша сёньняшні аўстрыйскі друк. Паводле такіх выданьняў, як „Die Presse" і "Ober Osterreichische Nachrichten", беларускае грамадзтва пакутуе сёньня ад самага рэпрэсіўнага рэжыму ў Эўропе, а беларускаму лідэру ўдаецца трымаць у закладніках увесь 10-мільённы народ.*

Як пішуць "OON" ("Верхнеаўстрыйскія навіны") у артыкуле "Маніякальнасьць, якая ня лечыцца", любая манія здольная зьмяніць чалавека. У выніку губляюцца самаацэнка і сумнеў. Беларускі лідэр са сваім маніякальным імкненьнем да ўлады становіцца ўсё больш бесцырымонным. Справа ня толькі ў тым, што ён насуперак дзейнай Канстытуцыі імкнецца працягнуць свае паўнамоцтвы і кідаецца на апазыцыю. Цяпер ён закрыў адзін з апошніх недзяржаўных ўнівэрсытэтаў — ЭГУ.

Тое, што рэпутацыя Беларусі ўсё больш пагаршаецца, даўно не хвалюе Лукашэнку. Захад ізаляваў яго і такім чынам ускосна дазволіў узяць у закладнікі 10-мільённы народ, — пішуць "OON".

. Паводле венскай "Die Presse", сёньня Беларусь пакутуе ад, бадай, самага рэпрэсіўнага рэжыму ў Эўропе. У выніку той ізаляцыі, да якой яе за 10 гадоў прывёў прэзыдэнт, у Беларусі, па сутнасьці, не засталося іншага выбару, як шукаць выратаваньня праз далучэньне да Расеі.

Як піша "Die Presse", калі Лукашэнка заяўляе пра штосьці кшталту паляпшэньня дачыненьняў з Эўропай, у тым ліку пра магчымасьць далучэньня да Эўрапейскага Зьвязу ў выніку знойдзеных кампрамісаў, гэта ня проста супярэчліва, гэта поўная ілюзія. У рэчаіснасьці ўсё трагічна. Пакуль гэты непрадказальны, прагны да ўлады палітык застаецца на сваёй пасадзе, Беларусь ня будзе мець ніякай эўрапейскай пэрспэктывы і будзе заставацца прыдаткам Расеі, — піша "Die Presse"

*Пераклад:РадыёСвабода*

********************************************



**Русіфікацыя Беларусі трагічная ў тым, што заглушае яна ўзніклую нацыянальную культуру, каланізуе, музэяфікуючы яе да ўзроўню археалагічнасьці...**

# Беларуская нацыя Эўропы

*Ніва*

У выніку Другой сусветнай вайны, беластоцкі ўзмежак этнічнай Беларусі апынуўся ў складзе пасляваеннай Польскай Рэчы Паспалітай. Прыблізная колькасць беларускай меншасці ў гэтым рэгіёне склала каля 150 тысяч чалавек. З-за нацыянальнай няспеласці беларусаў наогул, іх лік у Беластоцкім краі немагчыма аб'ектыўна ўстанавіць. Нядаўні перапіс насельніцтва Польшчы паказаў, што беларусаў налічваецца блізу 50 тысяч, амаль выключна на Беласточчыне. Паводле веравызнаўчай арыентацыі — беларусамі лічаць сябе праваслаўныя, якія ў сваёй большасці самавызначыліся людзьмі аднак польскай нацыянальнасці; прыкладна дзве траціны, двух з траіх. На поўнач ад ракі Супрасль і да Аўгустоўскага канала дамінуюць рыма-каталікі, месцамі цалкам, і там беларуская этнічнасць не мае значэння. Касцёл у нас бездыскусійна польскі, моцна патрыятычны, нярадка нацыяналістычны.

У параўнанні са спомненай колькасцю свядомых беларусаў, праваслаўных на Беласточчыне ўтрая больш, а беларускамоўнага насельніцтва разам будзе да 200 тысяч жыхароў. Сярод рыма-каталікоў толькі інцыдэнтальна сустракаюцца беларускія дэкляранты (некаторыя інтэлігенты).

Ва ўмовах імперскай дамінацыі СССР, польскія ўлады арганізавалі сетку вясковых і мястэчковых сярэдніх школ з беларускай моваю навучання. Забяспечана было выданне беларускамоўных падручнікаў, якія падрыхтавалі мясцовыя педагогі. Накіравана ў мінскія вышэйшыя школы значную групу студэнцкай моладзі з намерам узмацніць кадру беларускамоўных настаўнікаў; дзейныя з іх прымалі ўдзел у штолетніх курсах, якія праводзіла Міністэрства асветы БССР. Узнікла беларуская філалогія ў Варшаўскім універсітэце і ў Завочным настаўніцкім інстытуце ў Беластоку.

Чыста беларускамоўныя школы пратрымаліся, аднак жа, нядоўга. На зломе пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў іх ужо не было, пераўтварыўшыся ў польскамоўныя з дадатковым прадметам беларускай мовы. Адбылося гэта зусім не пад ціскам адміністрацыі, але выключна па волі бацькоў. Даходзіла нават да скандальных скаргаў тых жа бацькоў на чыноўнікаў, якія супрацівіліся ліквідацыі беларускага школьніцтва.

Варшава паспрыяла ўтварэнню масавага Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыі беларускага тыднёвіка „Ніва", а неўзабаве і беларускіх радыёпраграмаў у беластоцкай радыёстанцыі. Пачалі выходзіць беларускія кніжкі, літаратурныя тутэйшых аўтараў, і навуковыя польскіх вучоных-беларусаў.

Адносіны польскіх улад да сваіх беларусаў залежалі ад становішча беларускай культуры і мовы ў самой Беларусі. Адначасна з узмацненнем русіфікацыі БССР выявіліся паланізацыйныя тэндэнцыі ў трактоўцы беларускага культурнага жыцця на Беласточчыне. Савецкія таварышы польскіх камуністаў давалі зразумець, што існаванне беларускага энклава ў памежным Беластоцкім ваяводстве дрэнна ўплывае на... камуністычнае будаўніцтва ў БССР, асабліва ў заходніх акругах рэспублікі.

У дэкаду сямідзесятых гадоў мела месца інтэнсіўнае згортванне польскай беларушчыны; год у год скараціліся датацыі, навучанне беларускай мовы пераведзена на добраахвотную аснову, забаронена выкладанне элементаў гісторыі Беларусі. Штучна рэдукавана актыўнасць творчых асяроддзяў, мастацкай самадзейнасці. Згодна савецкім узорам, беларускасць кляймілася як агідны нацыяналізм. Дасканала сацыялістычным лічылася ўсенька польскае, як усенька расійскае ў СССР.

Поўную нацыянальную катастрофу прадухіліла нам рэвалюцыя „Салідарнасці" ў пачатку васьмідзесятых гадоў, пасля ўпадак камунізму, які ў нашым баку славяншчыны набыў яскрава шавіністычную афарбоўку, часамі ажно расісцкую. Імперыя падала пад уласным цяжарам, валячыся ад мілітарызму галоты.

У клімаце маральнага выбуху „Салідарнасці" выйшла на гістарычную арэну беларускае студэнцтва Польшчы. За лічаныя гады ўзнікла структура нацыі, уключна з палітычным рухам, які ў шматлікіх самаўрадавых органах мае цяпер значныя ўплывы. Актуальна звяз беларускіх арганізацый блізіцца да ліку дзесяці суб'ектаў. Апошняя дэкада XX стагоддзя характарызавалася нечуванай раней ажыўленасцю польскіх беларусаў.



Палякі цягнуць за сабою ў Еўропу сваіх беларусаў. Беластоцкі край у Еўрасаюзе будзе маленькім энклавам, аскепкам беларускай этнічнай тэрыторыі.

Што гэта значыць?

Перш за ўсё адкол ад мацярынскай Рэспублікі Беларусь. Яна нам ужо чужая па прычыне татальнай русіфікацыі. Наша ўражанне такое, што ў Рэспубліцы няма нацыі, а толькі савецкае насельніцтва, духоўна безаблічнае. Гэта не нацыянальная дзяржава, а сацыяльная; дзяржава не сэрцаў, а жыватоў.

Разам з адыходам з жыцця пакаленняў, што памяталі Беларусь, маючы з ёю сваяцкія сувязі, маладыя па абодвух баках кардону ўжо не адчуваюць этнічнае лучнасці. Гаснуць не толькі родавыя эмоцыі. Маладабеларусы павернуты на Захад; ім Расія незразумелая, не з нашага свету. Гэтак жа прыпадобненая на яе Беларусь, фактычна другая дзяржава рускіх. Рускі лёс у нашым старонні аднязначна негатыўны, папраўдзе сінонім беднасці, няшчаснасці. Словам: няма чым захапляцца на ўсход ад Буга.

На беластоцкую адчужанасць уплываюць і самі савецкія беларусы, якім мы — палякі! Аніяк не растлумачыць ім, што мы таксама беларусы. Кволая нацыянальная свядомасць не дазваляе быць нацыянальна салідарнымі; глядзяць яны на нас не болей, як на людзей, якім гістарычна пашэнціла лепей жыць. На польскім Захадзе, а пасля заўтра ўжо ў Еўрасаюзе.

Нацыю стварае менавіта асобны лёс, на глебе якога вырастае і культурная асобнасць, хоць не заўсёды моўная адрознасць. Прыкладам кажучы, у Швейцарыі чатыры афіцыйныя мовы, але нацыя адна; у сербаў і харватаў — адна на дваіх мова; аўстрыйцы — гэта немцы з асобнай дзяржаваю. Вось тры варыянты нацыястваральнасці. Русіфікацыя Беларусі трагічная ў тым, што заглушае яна ўзніклую нацыянальную культуру, каланізуе, музеяфікуючы яе да ўзроўню археалагічнасці. Месца беларускай заняла руская, прычым перыферыйная, так сказаць: беларуска-руская (па аналогіі англійскіх моваў у англафонскіх дзяржавах?).

Польскі лёс беластоцкага энклава беларусаў робіць іх іншымі ад савецкіх (постсавецкіх) беларусаў. Беластачане накіраваны ў бок сусветнай дынамікі; Рэспубліка Беларусь туляецца ў цяні Расіі, удзельная вага якой у глабальнай эканоміцы не перавышае ўсяго двух працэнтаў. Яна, фактычна, паўкалонія Еўропы, яе сыравінны дадатак.

Надзвычай істотным параметрам беларускай нацыянальнай меншасці Польшчы з'яўляецца ейная тэрытарыяльнасць; мы не дыяспара, але беларускамоўны рэгіён польскае дзяржавы. У нас свой краявід, сваё поле і лес, свае мястэчкі і вёскі, свой хлеб. Словам: свая Малая Бацькаўшчына. Са сваім небам і зімамі. Першапачатковай праявай фармавання нацыянальнасці лічыцца культурная спецыфіка і яе ажыўленасць. У Польшчы нарадзілася другая беларуская літаратура, іншая ад савецкай. Гэтая польска-беларуская літаратура дасягнула ўжо жанравай ды арганізацыйнай камплектнасці, мае сваё месца ў еўрапейскім літаратурным жыцці. Выходзяць уласныя перыядычныя выданні, у іх ліку і на мовах Еўропы. Шэраг аўтараў карыстаецца вядомасцю не адно ў Польшчы, але і на Захадзе — у Нямеччыне, Англіі, Італіі.

Рэалізавалася беларускамоўная нацыя Еўропы, новы народ. У гэтай жа ўсходняй памежнай паласе Еўрасаюза будуць знаходзіцца беларускамоўныя Віленшчына і Латгалія. Смуга беларушчыны працягнецца ад ваколля Рыгі да пабужжа Брэста.

**Сакрат Яновіч**

*Тэкст выступу перад студэнтамі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта 28 красавіка 2004 года.*

# From POW to M.D.: One man's journey

**By CHRISTYL LUNSFORD**
NORTH PORT HERALD EDITOR

Joseph Sazyc, 87, from North Port, made his own "Great Escape" — twice.

Sazyc was engaged in front-line combat against the Germans on Sept. 1, 1939. He battled for two weeks before he was injured and captured.

On Sept. 14, Sazyc, a Polish officer from Belarus, was taken by the Germans to a prison hospital. Sazyc said they treated him well and cared for his wounds, but lucky for him, they lacked security. He escaped from the prison hospital and fled to Ukraine, where he entered the University of Lviv to further his education.

"After the war and wounding, I still made it," said Sazyc. "I thank God for that."

When the Germans attacked the Soviet Union in 1941, Sazyc was captured by the Soviet army. He was able to escape again, but knew he could not return home, as the communists were invading.



Herald photo by Christyl Lunsford

Dr. Joseph Sazyc stands in his home beside a painting of his hometown in Belarus.

"It was dangerous to go home because I was a Polish officer," said Sazyc.

He joined the Ukrainian Underground Army because he did not want to fight for communists.

"We fought for our freedom," said Sazyc.

Sazyc returned to Belarus in 1942 and took on the rank of major and became the commander of an officers' school.

He entered the University of Marburg and graduated as a doctor of medicine in 1949.

Sazyc moved to the United States in 1950 and obtained his medical license, despite the language barrier.

"It was difficult because I didn't know the language," said Sazyc, who spoke German, Polish, Russian, Ukrainian and some Latin. "Knowing German helped me to learn English.

Knowing Latin, he said, helped him with the medical terminology he needed to master. He passed his medical license exams and was an anesthesiologist in the United States for 25 years.

Sazyc moved to North Port about 15 years ago. He first moved here while the Ukrainian condominiums along Biscayne Drive were being finished, and he lived in those for five years.

He has been retired for 20 years and widowed for 25. His wife, Barbara, died from malignant cancer in her late 50s.

When Sazyc and his wife moved to the United States, their daughter, Helena, was 12 years old. Sazyc remembers that his wife's mother visited them from Poland and wished them to also have a son. He laughed then, but very soon after his wife became "unexpectedly" pregnant. This concerned him as he was 44 and his wife was almost 40. They had a son, Joseph, Jr., and they called him their "miracle boy."

Sazyc sent his son to medical school, but his son told him he wanted to be a "doctor of souls" and he is now a pastor.

Sazyc is very proud of his children. His daughter says they are likewise very proud of him.

"He has been influential in all our lives," Helena said of her father.

Sazyc's biography appears in the book "Historical Dictionary of Belarus." He was the president of the Council of the Belarusan Democratic Republic in Exile and Honorary General in the Belarusan Veterans Association.

Sazyc has had the opportunity to travel around the world due to his efforts, including a return trip to Belarus in 1993, where he was an honorary guest, and has met many political figures.

"I am not as smart as I am lucky," said Sazyc. "I believe very much in fate. This was my fate."

**********************

### Памёр Чэслаў Мілаш

У Кракаве ва ўзросьце 93 гадоў памёр Чэслаў Мілаш - вядомы паэт, пісьменьнік, аўтар эсэ, ляўрэат літаратурнай нобелеўскай прэміі ў 1980 годзе.

Мілаш нарадзіўся ў Шэтэйнях у Летуве. Перад другой усясьветнай вайной ён працаваў у Польскім Радыё ў Вільні, а пазьней таксама ў Варшаве. Пасьля вайны Мілаш працаваў у польскіх дыпляматычных прадстаўніцтвах у Нью Ёрку і ў Парыжы.

У 1951 годзе Чэслаў Мілаш папрасіў палітычнага прытулку на Захадзе і жыў спачатку ў Францыі, а пазьней у ЗША. Ад 1994 году Мілаш быў жыхаром Кракава. Ён быў ганаровым грамадзянінам двух польскіх гарадоў: Кракава і Сопату.

# Дзякуючы "Спадчыне" над беларускім небасхілам ўзмоцнена ззянне трох зоркавых асоб нашай Айчыны

## Наталлі Арсенневай

У гонар 100-годдзя з дня яе нараджэння 27 лістапада ў доме літаратара праведзена сустрэча з прадстаўнікамі беларускай грамадскасці. Пры гэтым пранікнёны аналітычны даклад аб яе нялёгкім лёсе і аб яе творчасці зрабіў былы міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётра Краўчанка. У памяці ўсіх прысутных засталося гучанне слоў і мелодый неўміручага гімна "Магутны Божа", створанага ёю. Паўстала і яна сама выразна, як неадступны змагар за захаванне Роду Беларускага, яго развіццё, прадстаўленне Заходняму свету і ганаровае ўваходжанне на роўных у цывілізаваную супольнасць ўсяго Чалавецтва. Вялікасць асобы Наталлі Арсенневай выразна падкрэсліваецца і тым, што яна – руская па паходжанні – усёй сваёй сутнасцю адчула сукупную веліч душы беларускага народа і ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціла здзяйсненню яго вышэй названай мэты.

27 снежня 2003 г. на сядзібе музея выяўленчага мастацтва, фонд Анатоля Белага, у гарадзе Старыя Дарогі ўстаноўлены першы на Беларусі помнік Наталлі Арсенневай (скульптар Анатоль Крывенка).

Створаны аргкамітэт начале з Пятром Краўчанкам, мэтай якога з'яўляецца ўрачыстае адкрыццё помніка вялікай беларускай паэтцы. Плануецца, што да ўрачыстага адкрыцця помніка пад партрэтам Наталлі Арсенневай з'явіцца пліта з тэкстам духоўнага гімна беларусаў "Магутны Божа", дванаццаць радкоў якога абяссмерцілі імя паэтэсы.

## Міколы Ермаловіча

Скульптарам Уладзімірам Мелехавым створаны помнік. Вялізарнымі намаганнямі А. Белага, кіраўніка работа па помніку, кіраўніка культурна-асветнага клуба "Спадчына" (г. Менск), пры станоўчых адносінах і дапамозе Маладзечанскага гарвыканкама помнік ўстаноўлены на відным месцы г. Маладзечна на той вуліцы, па якой кожны дзень хадзіў Мікола Іванавіч. Зоркавасць яго асобы будзе запісваца надалей у гісторыі нашай Айчыны залатымі літарамі. За тое, што ён негледзячы на дзесяцігоддзі прыніжэнняў, шальмавання і ганьбавання ў савецкі час неадступна працаваў ў напрамку ісціны, даводзіў пра тое, што Беларусь – гэта не штучна надуманае нацыяналістамі стварэнне, не чыясці падначаленая тэрыторыя, а самастойная дзяржава, якая ў XIII-XVII стагоддзях была ў складзе Вялікага княства Літоўскага адной з найвялікшых і культурна развітых ва Усходняй Еўропе. Яе тытульная, Богам створаная беларуская мова прызнавалася і ўспрымалася у якасці дзяржаўнай усімі суседнімі краінамі. З гэтай ісціны вынікае другая, яшчэ больш грунтоў-ная для сучаснага і будучага аб тым, што беларусы, як самастойны этнас і ўзнікшая на яго аснове самастойная дзяржава Беларусь – Боскія стварэнні. І грэх вялікі робяць тыя, хто імкнецца да ліквідацыі гэтых двух стварэнняў з іх самабытнымі асаблівасцямі. Бо выбіццё, або размыццё своеасабалівага беларускага звяна з агульначалавечага ланцуга будзе непапраўным. Бо яно (тое размыццё, сілавое выбіццё) выразна зменшыць магчымасці для запланаванага Богам безупыннага самаўдасканалення чалавецтва праз ўзаемадзеянні рознасцяў, закладзеных на генным узроўні ва ўсе этнасы і нацыі.

Мікола Іванавіч быў выдатным лектарам, які ўмеў пераканаўча і хутка рабіць слухачоў сваімі аднадумцамі. У гэтым я пераканаўся асабіста, калі будучы кіраўніком універсітэта беларускай мовы, гісторыі і культуры пры БЭТУ запрашаў яго штогод чытаць лекцыі па пэўных раздзелах гісторыі Беларусі.

Афіцыйнае адкрыццё помніка адбылося 28 лістапада. На ўрачыстае адкрыццё прыехала каля трох дзесяткаў прадстаўнікоў сталічнай нацыянальна-беларускай элітнай інтэлігенцыі. Прысутнічала і некалькі соцен жыхароў Маладзечна. Ніколі не забудзецца дабразычлівасць мэрыі гэтага горада, іх пранікнёныя выступленні на мілагучнай беларускай мове са своеасаблівым гучаннем шчырасці беларуска-маладзечанскай душы. Цудоўнай і змястоўнай адбылася сустрэча сябровак клуба "Спадчына" і іншых прадстаўнікоў Менска з мясцовай інтэлігенцыяй, арганізаваная кіраўніцтвам Маладзечна. Мы адчувалі глыбінна развіты этнічна-нацыянальны інтэлект жыхароў Маладзечна. А колькі тут паэтаў і пісьменнікаў! Не, яны не ўступаюць па таленту і сталічным, а па шчырасці памкненняў мабыць пераўзыходзяць многіх з іх.

На мітынгу і пры сустрэчы зачытана многа ўдумлівых, заклапочаных вершаў. За адсутнасцю месца прывяду толькі верш самога Міколы Ермаловіча, які можна назваць стогнам Ягонай душы. Дэкламацыю па памяці рабіў родны брат Міколы Іванавіча Валянцін Ермаловіч.

***Ёсць Беларусь, што вечна гнецца,***
***Пакорна церпячы прыгон,***
***І вечна плача і трасецца,***
***І вечна зносіць свой палон.***

***Ёсць Беларусь, што прадаецца,***
***І вечна служыць чужакам,***
***І са свайго ўсяго смяецца,***
***І падбірае розны хлам.***

***Дзе ж Беларусь, што к волі рвецца,***
***І не згубіўшы гонар свой***
***Быць гаспадыняю імкнецца***
***І домам уласным, і зямлёй?!***

Мой адказ на пастаўленае пытанне можа быць толькі такім:

***Ёсць Беларусь, што к волі рвецца,***
***Каб беларускасць ратаваць.***
***Яна сучасная завецца***
***І зможа род свой адстаяць.***

***Яна прыйшла сюды прыстойна,***
***Каб вашу памяць шанаваць.***
***І будзе ўпарта, самастойна***
***Памкненні вашы ўкараняць.***

***Нам жа ў гэтым дапаможа,***
***Умовы створыць для таго***
***Заступнік наш – "Магутны Божа",***
***Бо мы дзіцяткі ўсе яго!!!***

## Ларысы Геніюш

Асобнасць гэтай зоркі – яна самая пакутлівая, самая ахвярная. Духоўная радзіма Ларысы Антонаўны ў Гудзевічах, што на Гарадзеншчыне. Там "пахаваны яе Вялікі дзед Павел Міклашэвіч і дзядзька Павел, дзе ўжо стаяць два помнікі Міклашэвічам, дзе яшчэ жыве сапраўдны духоўны нашчадак Алесь Мікалаевіч Белакоз", які "яшчэ пры жыцці паэткі стварыў у сваім музеі яе экспазіцыю" ("Наша слова", 08.7.1998 г.). Там, на спрадвечна роднай для яе зямлі, яна пазнала радасці дзяцінства, якое песцілася каханнем яе бацькоў і дзядоў. Так на генным ўзроўні ўвайшла ў яе назаўжды прыгажосць, удумлівасць, змястоўнасць і пяшчотнасць беларускай мовы. Але па пэўных прычынах яна разам з мужам апынулася ў Празе, дзе ратавалася ад знішчальнага ашчэру камуна-бальшавізму. Але ж пэўныя нелюдзі тагачаснай БССР, што жылі знішчэннем прадстаўнікоў Разумнага, Добрага, Вечнага і высмоктваннем іх крыві, навялі той ашчэр і на Ларысу Антонаўну. У выніку 05.3.1948 г. яна "была орестована в Праге за антисоветскую деятельность и «белорусский уклон». Находилась в тюрьмах Чехословакии, затем в советских, в Вене и во Львове. В 1949 года в Минске поэтесса была осуждена на 25 лет лагерей ГУЛАГ" («Комсомольская правда», 10.8. 2000). Уся жудасць гэтых лагераў апісана ёю ў зборніку "Споведзь". Пасля датэрміновага вызвалення, але не рэабілітацыі, у 1956 г. у час хрушчоўскай адлігі, яна жыла ў г. Зэльва. Аднак і там "прадоўжыўся яе ГУЛАГ. На волі, але ў зоне. Толькі што калючы дрот быў умоўным, невідавочным." Там "хадзілі людзі, якія настолькі былі маральна і духодна слабыя, што не заўважалі няволі, бо і не ведалі, а што такое воля... Яна літавалася над імі, бо гэта ж Яе людзі, людзі яе Краю." ("Наша слова" 08.7.1998). Высокі чалавечы гонар не дазволіў Ларысе Геніюш да канца яе дзён прыняць савецкае грамадзянства.

Усё адзначанае і тое, што ва ўладзе Зэльвы вышэй названыя людзі, помнік гэтай святой пакутніцы і змагару за тое, каб тыя зямлякі сталі навіліся вольнымі людзьмі ў высокім сэнсе гэтага слова, давялося ставіць ля царквы з дабраслаўлення духоўнага кіраўніцтва Рэспублікі. Аўтар праекту Міхась Інькоў, агульны кіраўнік работ, як па помніку М. Ермаловічу, старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы. Асвяціў помнік на мілагучнай беларускай мове святары той царквы – цудоўнешыя людзі. Пры тым больш не было ні аднаго чалавека з ліку жыхароў Зэльвы. Прыкладна на адлег-ласці 100-150 метраў ад гэтай царквы стаіць хата, дзе дажывала сваё жыццё Ларыса Антонаўна. Толькі аніякім музеем там і не пахне.

Недалёка ад царквы і гэтай хаты выразны ўзгорак, дзе на вясковых могілках пахавана Ларыса Антонаўна побач са сваім мужам. Спараны помнік ім выдатны, надаўна пастаўлены. Аднак зроблена гэта не жыхарамі, а тым больш не ўладамі Зэльвы.

Пасля малебну святароў каля помніка адбыліся жалобныя выказванні-выступы прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты Менска і чатырох святароў. Я з Анатолем Белым звярнуліся з просьбай да святароў, каб яны паклапаціліся аб адзяненні Ларысы Геніюш да ліку Святых Беларускай зямлі.

На паслед звярну ўвагу на тое, што апісаныя тут падзеі шанавання названых зоркавых Асоб нашай Айчыны праходзілі выпадкова ў тры сумежныя дні. Прыкмета добрая.

***Аляксей Саламонаў, доктар тэхнічных навук, прафесар, ганаровы сябра клуба "Спадчына".***

ДАПАМАГАЙЦЕ
БЕЛАРУСІ
Ў
ЗМАГАНЬНІ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СВАБОДУ І ПРАЎДУ!

## Размова з сябрам

-Скажы, няўжо яшчэ не скора
Надыдзе прасвятлення час,
Які прымусіць ўрэшце нас
Парваць і скінуць страху путы?
Ці яшчэ большыя пакуты
Накانаваны на гады,
Дзе выйсце з гэтае бяды?
- Калі баліць душа ў цябе,
Спытай, па-першае, у сябе,
Спытай ва ўсіх сваіх сяброў:
Хто сёння смела ўстаць гатоў
На абарону роднай Маці -
Так, як тры мужных Дэпутаты
Супраць маўчання ўсёй Палаты?
І зразумееш ты тады,
Што выйсці зможам мы з бяды,
Калі і я, і ён, і ты
Ўсвядомім ўрэшце: мы - браты,
А Маці наша - БЕЛАРУСЬ!
І разам мужнай грамадой
Магутнай ўздымемся сцяной,
Якую нельга абысці
Ці нават шчыліну знайсці
У ёй, каб нехта праз яе
Змог нас - яго, мяне, цябе
Зноў запалохаць, раз'яднаць,
На нашым страху балявацъ...

Фелікс ШКІРМАНКОЎ,
ветэран Айчыннай вайны.
*********************

# Сын Браніслава Туронка

### Да 75-годдзя з дня нараджэння

Больш чым праз паўвекавую ростань сын і бацька спаткаліся на старонках «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Цяпер яны побач... У першай кнізе шостага тома можна прачытаць: ***«Туронак Бранісла́ў*** *(22.6.1896, фальв. Пестуны Новапагосцкай вол. Дзісенскага пав. — 19.9.1938), беларускі культурна-грамадскі дзеяч, публіцыст... Бацька Ю.Б. Туронка...».* Аднолькава як і пра нашчадка: ***«Туронак Юры Браніслававіч*** *(26.4.1929, мяст. Дукшты Свянцянскага пав. .....), польскі даследчык беларускай гісторыі, культуры, асветы...».*

Што да сына-юбіляра, якому сёлета спаўняецца 75 гадоў, патрэбны ўдакладненні. Па-першае, ягоны дзень нараджэння прыпадае на 27 красавіка. Па-другое, назваць Юрыя Туронка *«польскім даследчыкам»* не зусім, хіба, правільна. Мне лепш бачыцца фармулёўка *«беларускі даследчык у Польшчы».* (Не кажам жа мы пра Сакрата Яновіча, што ён *«польскі празаік, які піша па-беларуску...»;* зрэшты, аніякага персанальнага артыкула ў ЭГБ Сакрат «не заслужыў», быццам і не пісаў гістарычнай аповесці «Сярэбраны язд]ок» і слыннага на ўсю Польшчу эсэ «Беларусь, Беларусь»).

Як і бацька Браніслаў, палова жыцця якога сплыла па-за межамі тагачаснай дзяржаўнай Беларусі, сын Юры, таксама жывучы ў іншай краіне, заўсёды носіць Беларусь у сваім сэрцы. Гэтак лёс распарадзіўся не з аднымі Туронкамі. Мільёны беларусаў, выгнаныя з родавых котлішчаў жахлівымі катаклізмамі першай паловы XX стагоддзя, не вярнуліся на Бацькаўшчыну.

Радзімыя вытокі Туронкаў — блакітнавокая азёрная Дзісеншчына. Там, на Мёршчыне і Браслаўшчыне, ёсць вёскі Пестуны і Дзянісы — дзедаўшчына і прадзедаўшчына юбіляра. Адтуль паходзілі бацька Браніслаў, дзед Сцяпан — беззямельныя сяляне. Продкі па кудзелі, Марылі Рэшацянкі (1905-1983) — з лясной Беласточчыны, дзе ў вёсцы Рушчаны каля Харошчы апрач яе нарадзіліся яшчэ дзве сястры і тры браты. Найстарэйшы, Язэп Рэшаць (1890—1958), стаў святаром і вядомым нацыянальным дзеячам.

Сам Юрка гадаваўся ў мястэчку Дукшты колішняга Свянцянскага павета, дзе асталяваліся сямейка маладажонаў (шлюб маладыя бралі 31 студзеня 1928 г. у віленскім касцёле св. Якуба, каля Лукішак). Сюды Браніслаў здолеў прыехаць на сталае жыхарства пасля заканчэння медыцынскага факультэта Віленскага універсітэта (1924), атрымаўшы пасля двухгадовай стажыроўкі ў «Літоўскай клініцы» на вуліцы Віленскай дыплом лекара медыцынскіх навук (03.07.1926). Хоць на правінцыі лекару-неафіту хапала клопату, але «дукштанскія будні значна адрозніваліся ад віленскіх, поўных напружання і самаадданай грамадскай працы, якой карысць не вымяралася залатоўкамі». . У Дукштах нарадзіліся і малодшыя Туронкі: Андрэй (24.02.1931) і Міхась (20. 03.1935). Зрэшты, калі быць дакладным, усіх трох сыноў Марыля нараджала ў віленскай клініцы, куды ўладкаваць яе мужу-лекару не складала праблем (як ніяк — значна лепшы догляд і адпаведныя ўмовы для парадзіхі). Аднак лічыцца, што нарадзіліся яны ў Дукштах, дзе ў тамтэйшым касцёле ўсе трое і ахрышчаныя.

Вільня ж прыйшла ў лёс Юрыя ў ваеннае ліхалецце, калі ў 1942 годзе, закончыўшы Дукштанскую пачатковую школу, увосень сіратою давялося ўладкоўвацца ў летувіскую Віленскую гімназію № 1. Дырэктар, колішні знаёмец бацькі (Браніслаў Туронак памёр у верасні 1938 г., застудзіўшыся на возеры Дзісна), вызваліў Юрыя ад платы за навучанне. Потым была вучоба ў паваенных Беластоцкім і Ольштынскім ліцэях, у Шчэцінскай гандлёвай акадэміі і Варшаўскай галоўнай школе планавання і статыстыкі. Заканчваў яе Туронак у 1952 г., працуючы ўжо ў сталіцы Польшчы ў ЦІЭХу — Цэнтралі па імпарце і экспарце хімікатаў. На пачатку 1956 г. перавёўся ў Польскую знешнегандлёвую палату, якая праз год распачала выданне перыёдыка «Замежныя рынкі» («Rynki Zagraniczne»). Там і адпрацаваў каля 40 гадоў: выйшаўшы на пенсію ў 1994 г., не кідаў супрацоўніцтва з «Замежнымі рынкамі», гэтаксама як і з Інстытутам славістыкі Польскай Акадэміі Навук.

У кожнага чалавека свой шлях. Гэтым кожны з нас адметны і непаўторны. Здаецца, яно проста і нескладана: быць самім сабой. Ды не заўсёды ўдаецца ісці сваім шляхам, часта ён бывае мройліва-падманным, прыдуманым.

Шлях Туронка-хіміка, эксперта па хімічных таварах, таксама не зусім быў ягоным (як дэлегат ад Польшчы ў 1964–1986 гадах Юрка Туронак удзельнічаў у працы Камітэта хімічнай прамысловасці Еўрапейскай эканамічнай камісіі ў Жэневе). Усё гэта ён трываў найперш дзеля сям'і і дабрабыту ў матчыных Трыпуцях, дзе прападаў кожнае лета. Сямейна. З рупліваю і сімпатычнаю жонкаю Зінаю (настаўніцаю беларускай

мовы з-пад Супраслі; з дому Бурыла) і дочкамі Наташай і Ганяй. Нават стаўшы аўтарам першай кніжкі «Польшча на міжнародным хімічным рынку» (1972), Юрка Туронак па-ранейшаму адчуваў глыбокую незадаволенасць: не так, не так пражываю дадзенае Богам жыццё! Цяпер, згадваючы з вышыні гадоў сваю «імпартна-экспартную» і «эканамічна-статыстычна распланаваную» маладосць, пан Юры невясёла прызнаецца: «...гэта было не тое, чаго хацелася: у першым выпадку — механічная чыноўніцкая праца і ў другім — казкі пра сталінскія планы пераўтварэння прыроды... Мяне вабіла сур'ёзная даследчыцкая праца». Пэўным адхланнем была грамадская чыннасць. Калі ў сярэдзіне 1950-х у СССР і яе саталітарным суседстве пацягнула паслясталінскай «адлігай», на беларускіх землях Польшчы, у Беластоку, узнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства. *«І я звязаўся з гэтымі хлопцамі. 13 мая 1956 года быў заснаваны Варшаўскі аддзел БГКТ, і я адразу ўвайшоў у склад яго праўлення, а ў кастрычніку стаў старшынёю аддзела і быў ім аж да 1966 года».* Але і дзесяцігоддзі грамадскай чыннасці (у 1970–1975 гг. Юрка Туронак цягнуў лямку старшыні Навуковага гуртка БГКТ) не прыносілі жаданага маральнага задавальнення. Высокае крэда *«сур'ёзная даследчыцкая праца»* па-ранейшаму заставалася нязздзейсненым імператывам.

Што ж, кінь за плячыма — знойдзеш перад вачыма. Таленавіты чалавек нават за сухімі калонкамі лічбаў здолее пабачыць жывую тканку гісторыі. Перспектыўны хімік захапіўся гісторыяй Беларусі XX стагоддзя. Гісторыяй яшчэ неастылай, як прысак на радзімым котлішчы далёкай Браслаўшчыны. Гісторыяй, сведкам і ўдзельнікам якой стаў ягоны бацька Браніслаў ды і ён сам. Найбольшай удачай Туронка-малодшага трэба лічыць доктарскую дысертацыю, напісаную ім у Інстытуце гісторыі Польскай Акадэміі Навук пад кіраўніцтвам прафесара Пятра Ласоўскага. Даследаванне «Białoruś pod okupacją niemiecką» вытрымала два выданні ў Польшчы (1989, 1993) і ў перакладзе на беларускую мову (1993). Толькі адзін прыклад у лічбах. Менавіта Юры Туронак сцвердзіў, што прапагандаваная нядаўняй савецкай агітацыйнай машынай лічба «2,2 мільёна ахвяр нямецкага генацыду» зляцела дзесь да 750 тысяч. У той час як лічба ахвяр сталінскага генацыду паднялася да 1,8 мільёна беларусаў.. «Панішчаных — без віны, без права, без следу ў народнай памяці» (Васіль Быкаў).

Дзесяцігоддзі руціннай працы не прамінулі для Беларусі марна.

Гэта — што да высноваў відавочных, лічбавых. А пра генацыд духоўны? Паводле ацэнак калег, *«аўтар не працаваў на загадзя вызначаныя, папярэдне прынятыя тэзісы, падбіраючы факты пад ідэю... Наадварот, Туронак стараўся перш за ўсё праз аналіз дакументаў вызначыць дэталі падзеяў і толькі на іх аснове даваць гістарычныя ацэнкі і фармуляваць высновы» (Г.Сагановіч). І вось адна з такіх высноваў: «Той факт, што ў зняволенай беларускай сталіцы працавалі толькія беларускія школы, а ў вызваленай — амаль толькі расійскія, дастаткова сімвалічны і не патрабуе каментарыяў».*

Вызваляць свядомасць людзей з палону хлуслівых прапагандысцкіх клішэ – гэта як разбіваць ланцугі на руках нявольнікаў. Юрка Туронак вярнуў у кантэкст нацыянальнай гісторыі не толькі імя свайго бацькі Браніслава Туронка, але і Вацлава Іваноўскага, якому прысвяціў манаграфічнае даследаванне «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі».

Асаблівай увагай у Ю.Туронка карыстаецца гісторыя каталіцтва на Беларусі. Ёй прысвечаны шматлікія публікацыі на старонках часопіса «Наша вера», у склад рэдкалегіі якога ён уваходзіць ад самага пачатку як мудры дарадца і актыўны аўтар. Тым самым працягваецца грамадская праца, якой у Заходняй Беларусі быў пазбаўлены ягоны бацька Браніслаў Туронак, адказны рэдактар «Крыніцы». Аднолькава, як і роднаму дзядзьку Браніслава, ксяндзу Ігнату Туронку не на ўсю моц удалося паслужыць сваім парафіянам. Падчас Першай сусветнай вайны ён апынуўся ў бежанстве і памёр у 1916 годзе ў Арэнбургу, куды быў прымусова вывезены.

Гэтаксама як і роднаму дзядзьку самога пана Юрыя, ксяндзу Язэпу Рэшацю, найстарэйшаму брату ў мамінай сям'і, які адно паспеў выдаць на радзіме «Кароткі катэхізм для беларусаў-каталікоў» (1927), а таксама ўласныя драматычныя творы «Першыя ластаўкі» (1931) і «Зорка-Ідэя» (1933) перш чым з'ехаў у далёкую Амерыку і «прыняў законніцкае пасвячэнне, узяўшы імя Атаназы». Ён памёр у 1958 г. У адной з фінальных сцэнаў драматычнага твора кс. Я. Рэшаца дзед прарочыць цешыцца з патрыятызма ўнука: *«Не загіне народ, не загіне! О святая пара лет маладых, ты пражываеш светлую хвіліну натхнення!... Дай жа, Божа, пекнага ўраджаю працы вашай на славу, на дабро народу беларускага!».* На справядлівасць і праўдзівасць асвятлення шляхоў беларускай нацыі.

Пасля зробленага і адкрытага Ю. Туронкам у гісторыі Беларусі XX стагоддзя пісаць па-ранейшаму, як пісалася ў савецкія часы, ужо не выпадае. Вось чаму і раман В.Якавенкі «Надлом» (2003) чытаецца толькі ў кантэксце Туронкавай «Беларусі пад нямецкай акупацыяй».

У апошнія гады да ўсяго творча-захапляльнага ў жыцці няўрымслівага пана Юрыя дадаўся занятак не менш творча-пазнавальны: гадаванне ўнука Аляма, якога з сімпатычнай бабцяй Зінай прычакаў на 71-м годзе жыцця. *(«Унучак часта сядзіць на каленях, працуем разам, і можа таму работа не ідзе так хутка. Але без яго яшчэ горш. Нядаўна выехаў з Ганяй на тыдзень, то бабка і дзедка былі амаль хворыя»).* Менавіта трэцяя квадра стагоддзя, ахвяраваная ў жыцці Юрыя Туронка на навукова-архіўную працу дзеля вывучэння гісторыі Беларусі, сталася для яго найбольш плённай. А хацелася б яшчэ гэтак працаваць і надалей! Кожная запаволенасць-замаруджанасць бачыцца недаравальна растрачаным імгненнем адзінададзенага Богам жыцця. Але, як ён сам прызнаецца ў адным з лістоў, на варштаце новыя тэмы — *«пабачым, што атрымаецца...».*

Што ж, хай шчасліва пішацца працавітаму і нястомнаму, стрыманаму і прынцыповаму, жартаўліваму і непахіснаму, як і належыць пракаветным інтэлігентам нашай зямлі, Юрыю Туронку на знакамітым паддашку хаціны ў Трыпуцях (з 1967 года сям'я Туронкаў праводзіць там кожнае лета) і ва ўтульнай кватэры высачэзнага варшаўскага хмарачоса на вуліцы Тамка, адкуль відНеецца ўся-ўсенькая Варшава і радзімая Беларусь – ад Дзісеншчыны да Беласточчыны, адкуль раскрываецца ўся шматпакутная гісторыя Бацькаўшчыны, якой ён прысягнуў, прыгадваючы словы незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, *«паслужыць мала ці многа, але да канца».*

А працы тут па-ранейшаму багата, бо жніво беларускае вялікае, а жнэцоў скупавата. Ды і тых спрабуюць закасаваць на палетках нашай нацыянальнай памяці, прыглушанай, вышчарбленай і перапісанай, каб дагадзіць чарговым валадарам. Так закасавалі на старонках апошняй універсальнай беларускай энцыклапедыі імя Браніслава Туронка (почырк той самы, як з Сакратам Яновічам у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»), пакінуўшы на самоце ягонага сына Юрыя, аднаго з сыннага роду. .

Ды як сказаў яшчэ адзін наш сучасны паэта:

*Каб нас не забылі, пакінем нашчадкам імёны*
*Пакінем імёны! – адно на мільён дастаткова,*
*Каб выспела Ніва, дзе будзе пасеяна Слова, —*
*А Слова кладзецца на Слова, як колас на колас*
*Кладуцца, каб выстаяць вецер...*
(У. Някляеў)

Выстаіць і нашая Бацькаўшчына. З усведамленнем, што застацца непадуладнай аніводнаму дыктату — гэта найвышэйшая Боская праява кожнай галіны чалавечай дзейнасці. У тым ліку і гістарычнай навукі. А постаці Туронкаў тут — невыпадковыя і такія важныя для беларускай гісторыі.

**************************************************

# Расьсьледаваньню Катыньскай трагедыі перашкаджаюць беларускія ўлады?

Польшча патрабуе ад Расеі скончыць сьледзтва ў справе Катыньскага злачынства – расстрэлу супрацоўнікамі НКВД палякаў, што трапілі ў савецкі палон у 1939 годзе. Цікава, што як паводле палякаў, так і паводле расейцаў, адна з прычынаў, якая перашкаджае высьвятліць праўду пра Катынь да канца, гэта нежаданьне Беларусі перадаць сьледзтву шэраг архіўных дакумэнтаў.

Сьледзтва ў справе масавых забойстваў у Катыні цягнецца ў Расеі ўжо 12 гадоў. Паводле польскага боку, гэтага часу цалкам дастаткова, каб высьветліць усе акалічнасьці ды вызначыць непасрэдных спраўцаў злачынства.

Керэс: "Гэтае злачынства ня можа больш атручваць сучасныя польска-расейскія дачыненьні. Але гэтая атрута будзе ўвесь час зьяўляцца, калі мы не адкрыем усю праўду, ці прынамсі ня будзем намагацца гэта зрабіць", – заявіў кіраўнік Інстытуту нацыянальнай памяці Польшчы Леон Керэс, які накіраваўся ўчора ў Маскву, каб азнаёміцца з вынікамі расейскага сьледзтва, і калі яно не прынесла чаканых вынікаў, распачаць уласнае сьледзтва ў Польшчы.

Але, як запэўніў спадара Керэса галоўны вайсковы пракурор Расеі генэрал Аляксандар Савянкоў, расейская пракуратура зрабіла ўсе неабходныя захады, якія маглі быць выкананыя на тэрыторыі Расеі і цяпер чакае дакумэнтаў ад Украіны й Беларусі.

Менавіта ў заходніх рэгіёнах гэтых дзьвюх краінаў былі расстраляныя каля трацінны палякаў, з агульнага ліку загінулых у выніку Катыньскай трагедыі.

Анджэй Тухольскі з Інстытуту нацыянальнай памяці Польшчы ў часе сьвяткаваньня Сусьветнага дня памяці ахвяраў Катыні заявіў, што імёны расстраляных у Беларусі дагэтуль невядомыя, бо Менск, у адрозьненьні ад Кіеву, адмаўляецца перадаць Варшаве сьпіс ахвяраў.

Тухольскі: "Украінскі бок перадаў нам сьпіс польскіх афіцэраў, расстраляных на тэрыторыі Ўкраіны. Што да тых, хто быў забіты ў Беларусі, а гэта прыкладна 3800 чалавек, у тым ліку жанчыны, дык ад Менску мы дагэтуль не атрымалі сьпіс гэтых людзей. У Менску кажуць, што гэты сьпіс мае Масква, а ў Маскве, што ён знаходзіцца ў Менску. Гэтак працягваецца ўжо шмат гадоў. У прынцыпе, адсутнасьць менавіта гэтага дакумэнту не дазваляе нам скласьці нарэшце поўны сьпіс ахвяраў гэтых злачынстваў, якія агульна завуцца Катыньскай трагедыяй", паведамляе Радые Свабода.

Рашэньне палітбюро камуністычнай партыі, якое аднагалосна ўхвалілі ягоныя сябры – Сталін, Варашылаў, Молатаў, Мікаян, Калінін, Кагановіч і Берыя – сталася пачаткам катыньскай трагедыі. Войскі НКВД расстралялі 25 700 польскіх афіцэраў, памежнікаў і паліцыянтаў, якія трапілі ў савецкі палон у выніку падзелу ў 1939 годзе тэрыторыі тагачаснай Польшчы паміж Савецкім Саюзам і фашыстоўскай Нямеччынай.

Інфармацыю пра масавыя пахаваньні ў Катыні распаўсюдзілі немцы ў 1943 годзе. Праз два дні савецкае радыё паінфармавала, што гэта зрабілі нямецкія жаўнеры падчас баёў за Смаленск.

Праўда пра злачынствы сталінскага рэжыму ў Катыні, а таксама ў Заходняй Беларусі і Ўкраіне хавалася больш за паўстагодзьдзя. Толькі ў красавіку 1990 году савецкі ўрад афіцыйна прызнаў, што польскіх палонных расстралялі часткі НКВД.

# "Мне сняцца сны аб Беларусі..."

Ён быў Прарокам, наш вялікі Купала. Той, хто з незвычайнай мастацкай сілай акрэсліў шлях свайго народа да шчасця "людзьмі звацца" - шлях незалежнай, вольнай краіны Беларусь. Аднаго не здолеў спрарочыць - што імя яго і кожнае слова стануць святыняй у сэрцах мільёнаў беларусаў, адданых Бацькаўшчыне, а прадбачанне ўласнага творчага лёсу ("Я ціха йграю, што ж ціхіх прымеце? Ат! ведама, з вёскі - Янка Купала") і блізка не спраўдзілася…

Кожны дзень народзінаў Песняра (а ён ужо блізка, 7 ліпеня) - наша свята. Кожная гадавіна яго трагічнай гібелі 28 чэрвеня 1942 года ў Маскве - дзень жалобы і несціханага болю. Так было і напярэдадні апошняй чорнай даты, калі, як зазвычай па выхадных днях, у сталічным парку імя Янкі Купалы ля велічнага помніка паэту, пад яго неўміручым поклічам "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!" прайшла сустрэча з ягонай паэзіяй. А 28-га ў касцёле Святога Роха адбылася імша ў памяць славутага сына зямлі беларускай. На Вайсковыя могілкі да яго магілы зранку да вечара, гуртам і паасобку ішлі людзі з кветкамі: пісьменнікі, студэнты, звычайныя гараджане - шчырыя прыхільнікі нацыянальнай культуры.

Проста, сардэчна і нязмушана духоўныя Купалавы нашчадкі гаварылі аб Уладары беларускага слова, што пераважве вякі. Акрыленае і магутнае, гэтае слова вырвалася нарэшце з-за кратаў, дзе ў савецкія часы "тутэйшыя" - ідэалагічныя вартаўнікі хавалі значную і, можа быць, лепшую частку яго творчай спадчыны ад народа, дзеля якога пісаў і жыў на гэтай зямлі беларускі геній.

...Раптоўная смерць Купалы ў ліхую часіну гітлераўскага нашэсця тоіць у сабе яшчэ шмат злавесна-неразгаданага. Магчыма, дачуўшыся нейкім чынам аб страшнай бядзе, маці паэта Бянігна Іванаўна тут, у акупаваным Мінску, не вытрымала ўдару і літаральна праз дзень пакінула гэты свет. Сталася так, што іх - маці і сына - хавалі ў адзін дзень, толькі ў розных, далёкіх адна ад адной мясцінах. На гэтых жа самых Вайсковых могілках знайшла свой спачын гэтая простая жанчына, пра якую яе вялікі сын сказаў з любасцю і ўдзячнасцю: "Навучыўся я слоў беларускіх ад маці". Праз пэўны час, калі прах народнага паэта быў перавезены на радзіму, ён сам далучыўся да любай матулі на гэтых жа кладах..

І да помніка Бянігны Іванаўны прыйшлі на паклон людзі з палявымі васількамі і рамонкамі. Светлагаловы хлапчук Сержык Чылікін-Садзельскі запаліў свечкі і прачытаў для той, "што маленькага Янку люляла", кранальны верш аб несмяротнасці творцы, хто выдыхнуў з глыбіні душы: "Мне сняцца сны аб Беларусі..."

Можа, прыйдзе час - і гэты хлопчык таксама стане паэтам, прыме ад славутага папярэдніка светлы і мужны дар служыць Бацькаўшчыне?

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА. /Н.В./

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

**У верасьні 1991-га году бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня ізноў сталі дзяржаўнымі сымбалямі Беларусі. Шануйма іх!!!**

**Сакрат Яновіч,** Беласточчына

# БЕЛАРУСЬ як Частка Эўропы

Будучае знаходжаньне Беларусі ў Эўразьвязе лічу ўтопіяй. Перш за ўсё таму, што яе "русификация уже состоялась". Пераўтварылася яна ў фрагмент расейскай культурнай, найперш моўнай, тэрыторыі. Таксама і ў палітычным сэнсе, стаючыся трывалым элементам двухадзінай дзяржавы Расейскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусь. Гэтыя два чыннікі вырашаюць поўную, ажно дэтальную, залежнасьць Беларусі ад Расеі, дзяржавы міжкантынентальнай, эўра-азіяцкай, якая сваёй гіганцкасьцю не кваліфі- куецца ў рэгіянальныя структуры кшталту Эўразьвязу.

Гэта праўда, што Беларусь ад сваіх полацкіх пачаткаў кружляла на арбіце эўрапейскай гісторыі. Праз паўтысячы гадоў пасьля, у шаснаццатым стагодзьдзі, яна ўжо падала пад ударамі маскоўскага канкурэнта да ўладыцтва на славянскім усходзе. Не выратавала яе і ўзьнікненьне Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Зьвяз Вялікага княства Літоўскага з болей разьвітай і моцнай Польскай Каронаю мусіў закончыцца дэградацыяй Беларусі ва ўнутраную польскую калонію, што пасьведчыла Трэцямайская Канстытуцыя. Маштабы паланізацыі ў тую пару былі параўнальнымі з цяперашняй русіфікацыяй.

Каланіяльны лёс Беларусі працягваўся. Пасьля Студзеньскага паўстаньня, апагей паланізацыі адвернута ў настойлівую русіфікацыю. Дзяржаўнае адраджэньне беларусаў у дваццатым стагодзьдзі адбывалася несамастойна. Шматвяковы зьвяз з Польшчай знайшоў сваю супрацьстаўную рэалізацыю ў выглядзе прытулку ў абдымках Расеі, што абазначала адрыў ад эўрапейскіх традыцыяў. Ад моманту ўтварэньня БССР, Беларусь апынулася па-за Эўропаю.

Русіфікацыя канчаткова перакрэсьліла шанец Беларусі на эўрапейскасьць. Зьвяла яе значнасьць да ролі калідора Расеі ў Эўропу, важнага стратэгічнага плацдарму.

Русіфікацыя набыла татальны характар, перайшоўшы ў самарусіфікацыю, антыбеларускі перпетум-мобіле, выводзячы беларускую нацыянальную культуру ў жыцьцёва неістотныя палі, а нацыю ў падгатунак рускай. Рэспубліка Беларусь як другая дзяржава рускіх, цалкам лішняя на гістарычную перспектыву. Дзяржава-непаразуменьне. "Случайное государство".

Хто не згодны з гэтым, завозьмецца ўказваць на нацыі і дзяржавы ў Эўропе без уласных моваў, /прыкладам Ірляндыю/. Рацыя акажацца павярхоўнай, каб не сказаць: лайдацкай. Тая-ж англамоўная Ірляндыя кельцкай нацыянальнасьці была англамоўнай яшчэ да барацьбы за незалежнасьць, і ствaрыла наважытную нацыянальную культуру на базе гэтай-жа англамоўнасьці; уся геніяльная, вельмі нацыя- нальная, ірляндзкая літаратура вырасла менавіта на ангельскай мове. Вяртаючыся да беларусаў: не былі яны расейскамоўнымі, расейская мова не стварыла Беларусі, як ангельская сварыла сучасную Ірляндыю. Гэта таму русіфікацыя Беларусі ёсьць яе трагедыяй, бо не будуе яна Беларусі, а наадварот: руйнуе! Зьвярніце ўвагу на парадокс: дзсяцімільённая Рэспубліка Беларусь "чырыкае" па-расейску большменш, але літаратура ў гэтай дзяржаве надалей беларускамоўная; графаманы пішуць на расейскай. Што гэта значыць? А тое, што расейская мова не была і не ёсьць роднай беларусам, хоць да роднай яны не вернуцца, /такая лёгіка асіміляцыі, закон зьмяшчэньня моў/.

У Беларусі практычна няма і ня будзе беларускамоўных школаў, наагул нацыянальнай адукацыі. Навучаньне літаратуры адбываецца на перакладах. Энтузіясты беларускага слова ходзяць у дзіваках, і яны гэта адчуваюць, робячыся псіхалагічна сектантамі. Абраньнікамі лёсу ў апазіцыі да ўсенароднага "балота". Але нават тых, няшкодных уладам, "чудаков" праследуюць ды малоцяць палкамі па хрыбце, бо нянавісьць да айчыннага беларускага слова мае рысы народнай хваробы, якую псіхолагі вызначаюць нямецкім тэрмінам selbsthas /нянавісьць да самога сябе/.

Разважаючы пра Беларусь як частку Эўропы ў моц гісторыі, неабходна заўважыць, што русіфікацыя не не зводзіцца да механічнай зьмены аднае мовы другою. Кожная нацыянальная мова, ейная лексіка ды граматыка, уяўляе сабою нешта накшталт асаблівае філасофскае сыстэмы, непаўторнага з іншымі сьветабачаньня. Таму русіфікацыя раўнaзначная ліквідацыі беларускага сьветабачаньня; забівае душу беларуса, перарабляючы яго ў расейца. Гэта дасьць эфект адставаньня ад сьвету ў выніку зьліцьця з расейскім менталітэтам, адцягненьня ад эўрапейскай плыні разьвіцьця. Сама Расея па сёньняшні дзень не прымае ўдзелу ў эрапейскім і сусьветным таваразвароце, стварыўшы асобную эканамічную прастору, пасьлядоўна культурную. Эўразьвяз ёй "ни к чему!". Гістарычна абумоўленая самадастат- ковасьць Расеі ментальна нагадвае амэрыканскую, паводле якое сьвет — гэта Злучаныя Штаты і бліжэй не акрэсьленая рэшта.

Эўразьвяз будзе пашырацца не далей заходняй мяжы СССР да 1940 г. Натуральнае тэрыторыі пашырэньня расейскае цывілізацыі, зьвяртаючы пры гэтым увагу на пасьляпольскую Галіччыну, Валынь, і Заходняе Палесьсе з Гарадзеншчынай, як аскепкі перыферыйнае эўрапейскасьці.

У такім кантэксьце, павучальным бачыцца лёс беларускай нацыянальнай культуры, сёньня і тут. Яе вывелі з жыцьця Рэспублікі Беларусь як непрыдатны русіфікаванаму народу і яго дзяржаве прадукт эўрапейскай культуры. Агульна кажучы.

Дэтальны вопіс русіфікацыйнага працэсу не тлумачыць ягонае сутнасьці, якая палягае на канфлікце цывілізацыяў, заходнеэўрапейскай з эўраазіяцкай. Першая з іх спрыяе нацыянальнасьці. Другая — не, будучы згусткам пляменных, данацыянальных, культураў, тэрытарыяльных неабдымнага Вялікага Стэпу. Гэта таму нацыянальнае адраджэньне, таксама беларусаў, насоўвалася ад Захаду; вялікая роля ў ім палякаў і нулявая расейцаў.

Разам з астаткoвай ліквідацыяй беларускай культуры, яе вынасам у музеі ды архівы, узмоцніцца тэндэнцыя дэеўрапеізацыі Беларусі ў карысьць расейскага кантыненту. Яго магнітнае поле распалавініць Украіну па лініі Дняпра.

Расейская Федэрацыя ўяўляе сабою ўсё-ж імперыю, у чым няшчасьце і самое Расеі. Прыроднай сутнасьцю ўсякае імперыі ёсьць заваёвы. Разьвіцьцё ў ёй прысутнае толькі ў яе цэнтры; правінцыі патанаюць у стагнацыі ў адпаведнасьці з іх функцыяй каланіяльнага заплечча. Старажытная Рымская Імперыя была дзяржавай мільённага горада Рыму, у які сьцякалася з неабдымнай тэрыторыі не адно трафейнае багацьце; Рым нагадваў сабою сэрца з клубком артэрыяў, якому служыць усёй арганізм. Усеньк нараджаецца, каб памерці. Лацінская Імперыя пражыла за паўтысячы гадоў. Крыху больш за пасьлейшую Расейскую, якая гэтак-жа доўга будзе канаць.

Імперыі не ствараюць нацыі, бо няздольныя ў сваёй агромністасьці ахапіць насельнікаў аднолькава сытным лёсам. Цэнтр блішчыць золатам і буяе дабрабытам, правінцыі тым часам галеюць, гніючы ў распад. Адчужанасьць спараджае сепаратызм.

Візантыя (гэтак-жа) не нарадзіла грэцкай нацыі, якой суджана было фармавацца праз сотні гадоў потым, у дзевятнаццатае "стагодзьдзе нацыяў". Ні ў тое стагодзьдзе і пасьля не сфармавалася руская нацыя, таму што нацыя наогул лішняя імперыі. Русіфікацыя беларусаў павінна мець іншую тэрміналагічную назву; яны далучаюцца не да неіснуючай рускай нацыі. Іх, як гэтак-жа неіснуючых нацыянальна, прыцягвае ілюзія дабрабыту ў ролі імперскай правінцыі, і ня больш.

Знаходжаньне Беларусі паміж Эўразьвязам і Расеяй прызначае ёй ролю памежжа ў карысьць маскоўскіх інтарэсаў, /таксама Украіне/. Альтарнатывы тут няма. Эўрапейская палітыка ня можа не арыентавацца на партнёрства Расеі як тэрыторыі па-за Эўразьвязам. Непазьбежная паласа заходніх уплываў Масквы насычана непазьбежнымі пертурбацыямі ў прыбалтыйскіх дзяржавах. Расейская смуга ад Фінскага заліву да Прыднястроўя. Эўропа запыніцца на лініі Буга і Прута.

Яе інтарэсы з Расеяй — натуральна — вышэй інтарэсаў з Беларусьсю Гэта па-за дыскусіяй. Гістарычна пацьвярджаюць тое рубяжы царскай экспансіі.

Існаваньне Рэспублікі Беларусь як дзяржавы пранізанай расействам у нечым нагадвае існаваньне нямецкай Аўстрыі. Гарантам беларуска-рускай незалежнасьці Мінска зьяўляецца Захад, ягоная нязгода на прасоўваньне Расейскай Федэрацыі на сутык з Польшчай (Славаччынай і Румыніяй на украінскім участку). Можа быць, важней у гэтай сітуацыі нязгода на тое Вашынгтону, дбаючага аб недапушчэньне крамлёўскага ліса ў эўрапейскі куратнік.

Адначасна трэба мець тую сьвядомасьць, што заходняя палітыка ніколі не імкнулася і ня будзе імкнуцца выштурхнуць Расею на ўсходні скрай Эўропы, што раўнялася-б страце істотнага кампаненту кантынентальнае сітуацыі. Прыход Расеі ў Эўропу гэта пятроўска-кацярынінскія часы, выхад на Балтыку і днепра-бугскае міжрэчча, рэдукцыя польскага вялікадзяржаўя. Гісторыя цяпер ня столькі паўтараецца, колькі паказвае на ўмовы сужыцьця, расейскаэўрапейскага. Сужыцьця двух кантынентаў у адным геаграфічным працягу. А сужыцьцё, усякае сужыцьцё, магчымае толькі ў кампрамісах, узаемных уступках. Таму і патрэбна Беларусь Эўразьвязу ў якасьці вудзільнае бліскоткі расейскаму шчупаку; абавязкова дадайма: шматразовага ўжытку. Рэспубліка Беларусь ідэальна прыдатная дзеля эўрапейскага кампрамісу, які прывяжа Расею да Эўропы. Такая цана беларусам. Няшмат лепшая і ўкраінцам. Цывілізацыйна заходнеэўрапейскім прыбалтам, нямецкападобным, Захад не аблегчыць жыцьця, талеруючы ў іхных дзяржаўках маскоўскую дыверсію. Гэта праграмна трывалыя ўстаноўкі, хоць палітыкі пустасловяць зусім аб чым іншым.

У найлепшым варыянце чакае Рэспубліку Беларусь фінляндызацыя, але напэўна не сяброўства Эўразьвязу. Выключна ў выпадку нараджэньня і моцнага пашырэньня беларускага нацыяналізму з вострым антырасейскім накірункам, што практычна нярэальнае ў безнацыянальнай і ўдадатак расейскамоўнай краіне. У краіне "те же русских". У незваротна правінцыйнай, у духу старое ідэалогіі "западно- руссизма". Або ўвараўскага славянафільства, анахранічнасьць якога не ўсьведамляюць сабе нашчадкі Пушкіна /"... все славянские ручья сольются в русском море"/.

Польшчу бяруцца называць "франтавою дзяржаваю Эўразьвязу". Значыць, Беларусь апынулася, так сказаць, у прыфрантовай паласе. Не разумею я таго даслоўна. Калі тыповы расейскі грамадзянін пераважна не бывае ў заходнім замежжы, дык беларускі наадварот, бывае. Гэта вялікая розьніца. Рост у будучым эўрапеізму ў Рэспубліцы Беларусь не зьменіць яе лёсу, але зьменіць якасьць таго лёсу, што ў далёкай перспектыве праўдападобна створыць перадумовы ейнае менавіта фінляндызацыі пры адначасным захаваньні "западноруссизма" і нават ягонага ўзмацненьня. Заснавальнік гэтае ідэалёгіі, Каяловіч, знаходзячыся ў вельмі блізкіх суаднсінах з царом, тлумачыў, што Беларусь — гэта не Расея, /у перапісе насельніцтва ў 1897 г. уведзена рубрыку "белоруссы"/. Праз стогодзьдзе пасьля, настолькі зьмянілася "западнорусское" становішча, што выведзена з жыцьця "белорусский говор" у карысьць правінцыйнага расейскамоўя. Але, як быццам узамен гэтаму дэфэкту, Эўропа прасунулася з-над рэчкі Просны і горада Каліша да Нёмана і Гродна; зьнік расейска-польскі буфер з асяродкам у губерскай Варшаве. Западная Россия прасунулася з-над Віслы на Нёман.

Беларусь пачне прыліпаць да Эўропы, да яе польскага адгалінаваньня. Што прарочыць беларусам амаль клінічную шызафрэнію: залежнасьць ад усходу — цяга да захаду. Матэрыяльна стабільная расейскасьць у настроі заходніцтва. Нешта кшталтам сацыялістычнае Польскай Народнай Рэспублікі, што мроіла пра капіталізм з запахам амэрыканскіх даляраў, а які цяперашнім часам заўзімаецца клясьці вуснамі польскага Лукашэнкі, Анджэя Лепера.

*******************************************************

## 27 ЛІПЕНЯ -- ДЗЕНЬ АБВЕШЧАНЬНЯ СУВЭРЭНІТЭТУ БЕЛАРУСІ

Чатырнаццаць гадоў таму Вярхоўны Савет яшчэ Беларускай ССР ухваліў Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце краіны (тады многія ў самым ВС яшчэ баяліся так называць Беларусь, казалі -- рэспубліка). Беларусь абвешчаная сувэрэннаю дзяржаваю, усталяванаю на аснове права беларускага народу на самавызначэньне, дзяржаўнасьці беларускае мовы, вяршэнства народу як носьбіта й адзінае крыніцы дзяржаўнай улады.

Памятайма, што Дэклярацыя была прынятая дзякуючы пасьлядоўным і тактычна выверaным дзеяньням Фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

Дэклярацыя стала праўнаю падставаю для пачатку будаваньня сапраўды незалежнае беларускае дзяржавы пасьля рэвалюцыйных зьменаў 25 жніўня 1991 году, калі яна набыла статус канстытуцыйнага закону.

27 ліпеня 1990 году было адным з крокаў, скіраваных на рэалізацыю ідэалаў 25 Сакавіка -- дня, які абавязкова стане галоўным дзяржаўным сьвятам свабоднай Беларусі.

Вінцук Вячорка

Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага)

# Беларускі ліпень у нашым горадзе

**1. Краявіды Беларусі ў асяроддзі хмарачосаў**
**Выстава твораў мастака Ізраіля Радунскага**

Гэтая вялікая заля-вестыбюль у самым цэнтры Чыкага добра вядомая ўсім жыхарам горада. Завецца яна Daley Civic Center і займае ўвесь першы паверх высокага будынку чыкагскай мэрыі. Побач – цудоўны сквер са славутай скульптурай Пабла Пікаса "Жанчына"... Тут, у гэтай прэстыжнай зале 2 ліпеня гэтага году адчынілася выстава твораў эміґранта з Беларусі мастака Ізраіля Радунскага "Гармонія сьвятла і колеру", прысьвечаная 75-годдзю з дня яго нараджэньня.

Ізраіль Радунскі нарадзіўся ў Менску, там ён стаў мастаком, на беларускай зямлі прыйшло да яго творчае натхненьне. Ён скончыў Менскае мастацкае вучылішча і факультэт графікі Маскоўскага паліграфічнага інстытуту, працаваў у майстэрнях Менскага мастацкага камбінату. Ягоныя жывапісныя карціны, графічныя працы, тэатральныя ды іншыя плякаты экспанаваліся на розных рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выставах. Двойчы ў Менску былі і ягоныя персанальныя выставы. З 1990 году Ізраіль Радунскі жыве і працуе ў Амэрыцы.



Ізраіль Радунскі. "Куточак старога Менску". Акварэль.

Мастакоўская палітра Ізраіля Радунскага вельмі шматгранная і разнастайная. Але перш за ўсё ўвагу аматараў жывапісу прыцягваюць ягоныя пейзажы, напісаныя ў тэхніцы акварэлі. У іх яскравы лірычны пачатак цікава спалучаецца з актыўным аўтарскім запрашэньнем да сумеснага роздуму. У кожным пейзажы Радунскага, асабліва ў яго краявідах роднай Беларусі, чытаюцца перш за ўсё аўтарскія адносіны да натуры, да таго, што ён малюе. З захапленьнем і сумам разам з мастаком глядзім мы на старыя вулкі і куткі Менску, што цудам захаваліся пасьля вайны, але якія не забыліся на тых, хто тут жыў, пакутваў, змагаўся. Вось карціна "Нарач. Старыя хаты", на якой – веліч беларускай прыроды, лірычнай, задуменнай. А вось – "Сьвітанак на Палессі", пейзаж, поўны багатых каларыстычных адценьняў... Выдатная гарманічная кампазыцыя вылучае, напрыклад, карціну "Возера Нарач. Раніца", дзе нібы зьліваюцца ў адно пэўныя лакальныя аб'екты і бяскрайняя прастора – возера, лінія далёкага берагу, высокае і бясконца глыбокае неба. У карцінах "Беларускі лес", "Дарога ў лесе" ў агульную лірычную танальнасьць урываюцца нечаканыя каляровыя адценьні, і гэта стварае асабліва радасны настрой. Многія беларускія пейзажы Ізраіля Радунскага вызначаюцца таксама натуральнай прыманлівай дэкаратыўнасьцю, часам нейкай асаблівай казачнасьцю, загадкавасьцю.

Асаблівасьць індывідуальнай манеры мастака бачыцца ў тым, што ён піша і рэальна, і ў той жа час крыху абагулена, для яго галоўнае – не падрабязнасьці пейзажу, а ягоны настрой, ягоны сэнс: кожны раз гэта своеасаблівае запрашэньне не толькі паглядзець, але і спыніцца, падумаць, паразважаць. У мастакоўскім сьвятле, каларыстычнай гаме заўсёды адчуваецца нейкая асаблівая цеплыня і шчырасьць. Прычым трэба адзначыць, што шмат выяваў гэтай выставы былі створаны Ізраілем Радунскім да эміграцыі, калі ён, як і многія ягоныя калегі, вымушаны быў працаваць ва ўмовах пэўнай нарматыўнай эстэтыкі. Стварэньне менавіта такога сьвету тады патрабавала ня толькі наяўнасьць яскравага таленту, але і мужнасьці дзеля поўнай свабоды самавыяўленьня.

Тут, у Амэрыцы, мастак здолеў пераадолець усе псіхалагічныя цяжкасьці і захаваць сябе, сваю індывідуальную творчую манеру. Ён працягвае працаваць ва ўсіх сваіх любімых жанрах і ў рознай тэхніцы. Пейзажы, напісаныя на беразе возера Мічыган, у прыгожых мясьцінах Чыкага і яго прыгарадаў, прывабліваюць той жа ўласьцівай мастаку лірычнасьцю і тонкай эмацыянальнасьцю, рытмікай колеру, імкненьнем падкрэсьліць прыгажосьць менавіта гэтага, унікальнага і разнастайнага горада.



Ізраіль Радунскі. "Раніца. Нарач. Лазьня". Акварэль.

**2. Цябе не забыць, Беларусь...**
**Сустрэча беларускага зямляцтва**

Эміґранты так званай "апошняй хвалі", што прыехалі з Беларусі ў апошнія два дзесяцігоддзі ў Чыкага, пераважна габрэі, утварылі тут добраахвотную грамадскую арганізацыю – беларускае зямляцтва. Стала добрай традыцыяй у тых, хто прыехаў з Беларусі, штогод зьбірацца на сустрэчы, дзяліцца сваімі ўспамінамі аб нядаўнім жыцьці на радзіме, прыгадваць маладосьць...

Чарговая такая сустрэча адбылася ў гасьцінай зале чыкагскага ОРТ-інстытуту 11 ліпеня. Яна была прысьвечана 60-й гадавіне вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Многія з тых, хто сабраўся тут, прымалі непасрэдны ўдзел у баях, таму прысутныя віталі выступленьні ветэранаў вайны Міхася Ханіна і Сары Левінай. З перамогай ў той вайне былі звязаны многія спадзяваньні і надзеі; на жаль, яны ня спраўдзіліся ў савецкія гады на шматпакутнай зямлі Беларусі. Ішоў час, мяняўся лёс людзей, многія вымушаны былі з'ехаць у эміграцыю ў Амэрыку.

Адкрываючы ўрачыстасьць, прэзыдэнт беларускага зямляцтва Асацыяцыі "Землякі" Іосіф Кацман прачытаў свой лірычны верш, у якім ён заклікаў усіх прысутных "адкінуць слова "настальгія" і проста ўспомніць Беларусь". Затым быў паказаны спецыяльны слайд-фільм з краявідаў гарадоў і сёлаў Беларусі, цікавых архітэктурных помнікаў, непаўторных лірычных пейзажаў роднай зямлі. Слайды суправаджаліся натхнёнымі радкамі з Янкі Купалы, Якуба Коласа,



Іграе на цымбалах Ірына Грыгаровіч.

Міколы Аўрамчыка, Адама Русака, Ніла Гілевіча, Сяргея Панізьніка. Вершы гучалі ў выкананьні Міры Рапапорт, былой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры на Слонімшчыне.

Канцэрт пачаўся выступленьнем сьпевака Марата Віленскага, які выканаў "Маладосьць мая, Беларусь" з рэпэртуару "Песьняроў" і "Менскі вальс" кампазытара Міхася Клейнера, які жыве зараз у Чыкага. У канцэрце таксама прынялі ўдзел сьпявачкі Галіна Паўлава, Зіта Рыт, Фіра Рэхтман. Выступалі музыкі Ноах Марсэл, Генры Варман, Фаіна Рохленка, Вольга Башкіна. Танчылі майстры бальнага танцу Алена і Алег Машковічы, свае новыя вершы, прысьвечаныя роднай зямлі, прачытала Іда Аўруцкая.

А ў перапынках паміж выступленьнямі і нумарамі канцэртнай праграмы танчылі ўсе: і тыя, каму толькі за пяцьдзесят, і тыя, каму ўжо хутка дзевяноста. У гэты вечар у зале панавала атмасфера шчырай дружбы, братэрства, зямляцкай салідарнасьці, непасрэднасьці, шчырасьці, – усяго, чаго яшчэ, на жаль, часам нехапае ў паўсядзённым эміґранцкім жыцьці.

**3. Беларускія напевы гучаць у цэнтры Чыкага**

У гэтым горадзе існуе добрая традыцыя: кожны будзённы дзень падчас перапынку на ланч (12.00 – 13.00) на вялізнай цэнтральнай плошчы, каля славутай скульптуры "Жанчына" Пабла Пікаса, побач з будынкам гарадской мэрыі адбываюцца самыя разнастайныя канцэрты. Тут выступаюць сьпевакі і музыкі, хары і аркестры, танцавальныя і фальклёрныя калектывы, рок-групы і джазавыя ансамблі... Праграмы канцэртаў "Under the Picasso", як яны афіцыйна называюцца, адлюстроўваюць шматграннасьць культурнага жыцьця ўсіх этнічных групаў, што захоўваюць многае, характэрнае для сваіх краінаў і народаў.

16 ліпеня на гэтай плошчы ўпершыню прагучаў канцэрт "Беларускія мелёдыі". Побач з канцэртнай пляцоўкай у вялікім холе мэрыі экспанавалася выстава твораў мастака Ізраіля Радунскага, эміґранта з Беларусі. Сымбалічным было тое, што гэты канцэрт адбыўся якраз напярэдадні Тыдню Паняволеных Народаў, які вось ужо некалькі гадоў запар праводзіцца ў нашай краіне паводле рашэньня Кангрэсу ЗША.

Вельмі многа людзей сабралося ў той дзень на плошчы каля мэрыі. І вось у гэтым незвычайным урбаністычным асяроддзі побач з чыкагскімі хмарачосамі сапраўды загучалі беларускія напевы: сола на цымбалах выконвала Ірына Грыгаровіч, цымбалістка і ксілафаністка найвышэйшага клясу, якая жыве зараз у Чыкага. А потым сваё майстэрства кампазытара і сьпевака-выканаўцы паказаў Міхась Клейнер. Ягоная праграма ўключала аўтарскія песьні на словы вядомых беларускіх паэтаў Янкі Купалы. Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя. Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава. Натхнёна прагучаў і "Менскі



Сьпявае Міхась Клейнер.

вальс" на словы самога Міхася Клейнера. Акампаніраваў яму таленавіты музыка і аранжыроўшчык Барыс Лерман.

У перапынках паміж песьнямі выступалі "Харошкі" – зусім юныя танцоры, выхаванцы дзіцячага садку, якім кіруе Ірына Грыгаровіч. Маленькія Вікі Берман, Алесь Грыгаровіч і Рычард Наўрузаў не разгубіліся на вялікай сцэне гэтай агромністай плошчы. У прыгожых нацыянальных уборах яны выдатна танчылі беларускія танцы з поўным пераўвасабленьнем у свае сцэнічныя вобразы. Выступленьне дзяцей было сустрэта бурнай авацыяй гледачоў – і тых, хто сядзеў у радах перад сцэнай, і тых, хто знаходзіўся ў гэты час на плошчы.

Праграма "Беларускія мелёдыі", у арганізацыі якой прыняў актыўны ўдзел Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага і асабіста спадарыня Вера Рамук, спадабалася і гарадскім уладам: прадстаўнікі Аддзелу спецыяльных мерапрыемстваў мэрыі папрасілі абавязкова арганізаваць беларускі канцэрт і ў ліпені наступнага году.

************************************************

# 925 беларусаў змогуць паехаць жыць у ЗША

**У ЗША абвешчаныя вынікі латарэі «Грынкарт» на 2005 год: зялёную карту выйгралі амаль тысяча беларусаў.**

Кожны год ЗША разыгрываюць у латарэю 50 тысяч візаў, якія даюць права на пастаяннае пражываньне ў Злучаных Штатах. Удзельнічаць у латарэі могуць толькі асобы з краінаў, якія не даюць істотнага колькаснага прытоку імігрантаў у Амерыку. У ліку такіх краін і Беларусь. Тым часам грамадзяне Расіі, Кітая, Мексікі, ды некаторых іншых краін у латарэі браць удзелу не маюць права.

Візавы цэнтр у Кентукі атрымаў з усяго свету каля 10 мільёнаў заяваў на 2005 г. З іх толькі 100 тысяч былі абраныя і зарэгістраваныя для далейшага разгляду. Гэтым асобам зараз паведамляюць пра далейшую працэдуру атрымання візы «Зялёная карта». Заява на атрыманне візы мусіць быць складзеная тэрмінова, таму што са 100 тысяч толькі першыя 50 атрымаюць жаданае права пастаяннага пражывання ў ЗША. Тыя, хто не атрымае візы да 30 верасня, страчваюць права на яе атрыманне праз сёлетнюю латарэю. Яны, а таксама тыя, хто не атрымаў аніякага паведамлення з імміграцыйнага цэнтру, могуць удзельнічаць у чарговай латарэі 2006.

Беларускім грамадзянам сёлета выдзелена 925 візаў. Гэта лічба – ў дзясятцы самых высокіх у Эўропе. Большая колькасць візаў выдзеленая толькі Польшчы, Украіне, Балгарыі, Албаніі, Румыніі, Нямеччыне ды Літве.

************************************************

Вольга ІПАТАВА /Народная Воля/

# Плывуць у Беларусь белыя лебедзі...

Не паспеў прайсці па Беларускім тэлебачанні сюжэт "Страсці па Насці", як з"явіўся відэафільм "Белы лебедзь" з кранальным аповедам пра няшчасную балерыну, якой няма жыцця ў Маскве і якую затое любіць наш афіцыйны Мінск. Танцорка, па яе словах, ужо атрымала запрашэнне здымацца ў фільме пра беларускую святую Соф"ю Слуцкую. Сцэнара яшчэ няма, і праекта такога няма, але, як трэба чакаць, усё гэта хутка з'явіцца. Спадзяюся, не для таго толькі, каб пакрыўджаная зорка балета магла эфектна выстаўляць свае пальчыкі з-пад манаскае расы ды славіць клопат нашай краіны аб развіцці культуры. Я магла б пагадзіцца з захопленымі пасажамі масквічкі пра гэты самы клопат, ды згоду маю азмрочвалі нейкія абсалютна недарэчныя для гэтай светлай часіны думкі. І тычылі яны жыцця нашых ужо згаслых ці яшчэ дзейсных зорак кіно, музыкі і тэатра, а таксама іншых дзеячаў нашай, беларускай, культуры, якой ад "высачайшых" клопатаў пра імёны суседняй краіны застаецца зусім няшмат. Усплывалі вочы Святланы Данілюк, народнай артысткі СССР, уладальніцы рэдкага па прыгажосці і сіле голасу, яе горкая прамова на рэспубліканскім семінары творчых работнікаў у 2001 годзе аб немагчымасці існаваць на тыя жабрацкія грошы, якія атрымліваюць зараз людзі, што ў свой час з'яўляліся сімвалам нашай нацыі. Згадваўся Віктар Тураў і напісаны Віктарам Казько партрэт Майстра ў трагічным інтэр'еры сучасных рэалій. Інтэрв'ю выдатнага рэжысёра Ігара Дабралюбава аб поўнай незапатрабаванасці многіх сумленных творцаў, якія дазваляюць сабе мець уласную думку і выказваць яе. Прызы розных краін фільмам Юрыя Хашчавацкага, прызнанне зноў жа за мяжой творчасці Віктара Дашука і глухое маўчанне вакол гэтых імёнаў тут, у Беларусі.

Усплывалі і шматлікія (на жаль, рахунак пайшоў ужо на дзесяткі) праявы "клопату": збітыя невядомымі (увесь час невядомымі!) акадэмікі, пісьменнікі, рэжысёры, спевакі, артысты. Журналісты, якім няма месца ў краіне. Выдатныя рэжысёры, такія як Валерый Мазынскі, якому "знайшлося месца"...вартаўніка.

Пра пісьменнікаў (выключыўшы хіба якія дзесяць імёнаў тых, хто ўжыўся ў сённяшні час і адчувае сябе ў ім камфортна) казаць увогуле не даводзіцца. Яны, паколькі ніяк не могуць пагадзіцца з тым, што нішчыцца і знікае аснова беларускай нацыі - мова, амаль што выключаная з культурнага ўжытку. Іх няма на Днях культуры, якія калі-нікалі здараюцца ў іншых краінах, бо Слова, на думку нашых чыноўнікаў, гэта - не культура. Калі ў нашай краіне, напрыклад, кагосьці ўзнагароджваюць ордэнам Скарыны, то яго ўручаюць не Уладзіміру Конану, напрыклад, якога Васіль Быкаў называў "беларускім Скарынам", і не Кастусю Цвірку, які арганізаваў надзвычай патрэбную для нацыянальнай свядомасці серыю "Беларускі кнігазбор", і не Адаму Мальдзісу, які нясе ў цывілізаваны свет веды пра культуру Беларусі, - а старшыні аднаго з самых адыёзных пісьменніцкіх саюзаў Масквы, які не грэбаваў пісаць на наш творчы саюз даносы ў Адміністрацыю прэзідэнта яшчэ ў 1999 годзе. Альбо чыноўніку, які хваліць Беларусь - вядома ж, у кантэксце "агульнай дзяржавы". Калі глядзіш часам, каму даюць гэты ордэн, што носіць дарагое для нас усіх імя, міжволі думаеш - Скарына, мабыць, чарговы раз перавярнуўся б у труне, калі б даведаўся, што яго выява ўпрыгожвае пінжак чарговага "інтэграста", які на дух не пераносіць усяго беларускага...

Пісьменнікам, за рэдкім выняткам, няма месца і на саміх нібыта беларускіх Днях пісьменнасці - у Полацку, напрыклад, не далі слова нават старшыні нашага Саюза, адно дазволілі пастаяць на сцэне. І тут мне хочацца спыніцца менавіта на Днях пісьменства як яркім паказчыку таго фальшывага, пацёмкінскага фасаду, за якім хаваецца абыякавасць, а то і халодная варожасць да той пісьменнасці, якую нібыта прапагандуюць гэтыя Дні.

Каторы раз гляджу тэлевізійныя рэпартажы з Дзён пісьменства і кожны раз думаю: гэта ж як трэба не любіць уласных пісьменнікаў, каб умудрыцца не назваць аніводнага прозвішча прысутных на свяце, нават угодных кіраўніцтву краіны! Мінулым разам на імгненне паказалі, здаецца, траіх з іх - але толькі Ніне Загорскай у тым рэпартажы далі слова, і то па прычыне таго, што яна каторы год арганізуе "Шлях да святыняў." Не гучалі па ТБ ні беларускія вершы (нават класікаў), нічога не казалася ні пра напісаныя пісьменнікамі за гэты час кнігі, ні пра іх саміх, ды і беларускіх кніг на самім свяце было надзвычай мала. Нічога дзіўнага, што высокія чыноўнікі не ведаюць, што ж з сучаснай беларускай літаратуры "даць хоць пажаваць" таму, хто адзіны вызначае яе смак і прыгоднасць для "жавання". Здаецца, яны не ведаюць ужо і таго, ці існуе яшчэ ўвогуле гэтая літаратура, прадстаўнікам якой працягваюць даваць літаратурныя прэміі (недзе там, у замежжы), друкуюць іх там, (далёка за гарызонтам) і перакладаюць на іншыя мовы. Некалькі фактаў: у Нямеччыну запрашаюць на выступленні і нашых паэтаў, і нашых маладых драматургаў (пра што нядаўна пісала "Народная воля"). У "Літаратурнай майстэрні" ў Берліне рыхтуецца праект, па якім дзесяць беларускіх паэтаў чытаюць па дзесяць вершаў, якія будуць перакладзены на нямецкую мову. Нашым не залежным ад холдынгу часопісам "Дзеяслоў" цікавяцца ў Польшчы, у Літве, у некаторых іншых краінах і шукаюць магчымасці выпісваць яго. Можна было б узгадаць нямала іншых прыкладаў, якія красамоўна сведчаць аб тым, што беларускае літаратурнае меню не горшае ў свеце, ды толькі сёння горка даводзіцца тым, хто гатуе стравы для гэтага стала. І прычын таму шмат.

Па-першае, у нас даўно існуе палітычная літаратурная цэнзура. Пра яе ўжо не раз пісалі, яна стала амаль звычайнай для нашага сённяшняга жыцця.

Але дасюль асабліва балюча звыкнуцца з тым, што "не пушчаюць" не толькі творы, але і прозвішчы пэўных пісьменнікаў не куды-небудзь, а ў былыя нашы выданні. Закладнікамі гэтай сітуацыі сталі тыя, хто там яшчэ працуе, - а гэта тыя ж самыя пісьменнікі, сябры пакуль што адной арганізацыі. Па сваёй ахвоце, вядома, адсякаюць "непатрэбных" адзінкі, але ж астатнія вымушаны моўчкі згаджацца з указаннямі і дырэктывамі зверху. А яны, гэтыя дырэктывы, папросту настолькі дзікія, якіх не было і ў застойныя савецкія часы.

Сашлюся на ўласны досвед: доктар філалогіі Уладзімір Конан, які напісаў рэцэнзію на маю трылогію "Альгердава дзіда", ніяк не мог паверыць, што гэтую рэцэнзію затрымліваюць па меркаваннях палітычнай цэнзуры. Ён вырашыў зрабіць ёю своеасаблівы тэст на далейшае супрацоўніцтва з "ЛІМ"ам, ад якога яму вельмі не хацелася адмаўляцца. "Я надта прывык да газеты, - гаварыў Уладзімір Міхайлавіч. - Не можа быць, каб яны адрынулі свайго шматгадовага аўтара". Адрынулі, не пасаромеліся і таго, што гэты ганебны факт назаўжды застанецца ў гісторыі газеты як чорная пляма, бо супрацоўніцтвам з У. Конанам можа ганарыцца любое выданне, тым болей у той час, калі ад гэтага супрацоўніцтва адмовіліся многія і многія лепшыя нашы пісьменнікі. Тыя ж, хто друкуецца ў выданнях холдынгу, няхай бяруць гэта, як кажуць, на сваю душу, бо асабіста мне хочацца дачакацца часу, калі я магу несці свой твор да тых, каго паважаю, хто не сеў, як штрэйкбрэхер, на месца гвалтоўна звольненага калегі і не падтрымаў гвалт, зрабіўшыся цэнзарам уласных калег.

Канешне, апраўдацца ў тым, што ты хоцькі ці няхоцькі, але быў цэнзарам, можна шмат чым: "Трэба карміць сям"ю, а што паробіш, мне загадалі...". Неяк у гаворцы са мной пра гэтую, немагчымую, здавалася б, у нашыя гады акалічнасць Васіль Сёмуха сказаў, што ён на свае вочы бачыць, як мог зарадзіцца ў Германіі нацызм... А я дадам - нацызм як расправа з іншадумцамі нараджаўся як прызнаная душою неабходнасць згаджацца з тым, з чым згадзіцца нельга.

Да слова сказаць, калі я праходжу каля самага любімага некалі мною месца, дзе месціліся тыя ранейшыя "ЛІМ", "Полымя", "Беларусь" і дзе заўсёды можна было даведацца пра самае новае з літаратуры, пагаварыць з аднадумцамі, - адчуваю настальгію і горыч. Там і сёння ёсць добрыя і таленавітыя пісьменнікі - але нас раздзяліла мяжа. Мы сапраўды вызначыліся ва ўсім - у поглядах, меркаваннях, каштоўнасцях - да самага, як кажуць, донца. Выбар вымушаны былі зрабіць усе. І тады адкрылася, што сярод нас, аказваецца, ёсць заўзятыя прыхільнікі Сталіна, што яны мараць пра магчымасць зноў фізічна расправіцца з тымі, хто думае інакш, што кроў мільёнаў нявінных людзей для пісьменніка (пісьменніка!) можа быць толькі "досадной ошибкой", што даўняя гісторыя роднай зямлі з яе культурай, з яе дзяржаўным сцягам для творцы можа быць толькі гісторыяй суседняй краіны, дзе нам адводзіцца месца "белой полосы" (глядзі стара-новую інтэрпрэ-тацыю іхніх высноваў у артыкуле Н. Сяргеева "Стяг Белой Руси", газета "Семья" ад 4 мая г.г. Прывяду толькі адну цытату адтуль - на мове арыгінала: "...трехцветное бело-сине-красное знамя, символизирующее восстановление Руси. Красный цвет в российском триколоре (цвет герба Москвы) означал Великую Русь, синий, а точнее лазоревый (цвет герба Киева) - символизировал Малую, то есть изначальную Русь, ну, а белая полоса в данном случае - это Белая Русь").

Як жа ім карціць яшчэ і яшчэ прызнаваць сябе непаўнавартаснымі, як ім хочацца прымусіць замаўчаць тых, хто адычвае засмечаныя крыніцы народнай памяці! На шчасце, большасць пісьменнікаў добра разумее гэта - таму і створаны для Саюза пісьменнікаў рэжым "найменшага спрыяння"...

Ёсць і яшчэ амаль непераадольныя для многіх пісьменнікаў акалічнасці, праз якія праходзяць бадай што ўсе, хто пускаецца ў "вольнае плаванне". Вось толькі адна з іх. Выдадзеная за ўласны кошт кніжка можа быць здадзена для продажу ў "Саюздрук" ці "Белкнігу" толькі прыватным прадпрымальнікам. Таму пісьменнік, які хоча вярнуць хоць частку ўласных грошай, павінен запісацца ў падатковай інспекцыі як гэты самы "прадпрымальнік" з усімі наступствамі яго нялёгкага жыцця - праверкамі, запаўненнем шматлікіх паперак, кансультацыямі па юрыдычных і фінансавых пытаннях. І хаця кніжка можа прадавацца па сабекошце і нават ніжэй за яго - патрабаванні тыя самыя, як ён гандляваў бы памперсамі ці накрыўкамі на слоікі... Не раз ужо ўздымалася гэтая праблема, вырашаная ва ўсіх краінах, апроч нашай, дзе напісаная ўласным творцам кніга ўвогуле не прыроўненая да нацыянальнай каштоўнасці. А калі яна не вырашаецца, а, наадварот, пісьменніка заганяюць у кут, каб сілы свае ён траціў не на культуру, не на напісанне твораў і прапаганду беларускага слова, а на поўзанне па-пластунску - дык што гэта тады, калі не знарочыстая стратэгія выкаранення?!

Не раз я пісала пра вопыт прапаганды кнігі ў Расіі, Літве і ва Украіне, дзе таксама ёсць цяжкасці, але няма такога жорсткага "адштурхоўвання" ад дзяржавы тых, хто піша мастацкія творы. Хаця б невялікае разуменне патрэб творчага саюза (а ў нас - трохі болей за 500 сяброў Саюза, з якіх каля сотні жыве за межамі Беларусі) не падарвала б эканоміку краіны. (Дарэчы, я ў свой час пісала пра гэта сённяшнім дэпутатам, прапануючы правесці парламенцкія чытанні пра стан беларускай літаратуры, але яны палахліва адмаўчаліся. Таму, калі чытаю, якія яны храбрыя ды колькі законаў правялі ў жыццё, горка смяюся.

Сапраўды, няўжо гэта непасільна для краіны: калі гадамі не выдае яго кнігі дзяржаўнае выдавецтва, дайце магчымасць пісьменніку без аніякіх ліцэнзій прадаваць кнігі, выдадзеныя на ўласныя грошы альбо грошы спонсараў! Цану ім паставіць сам рынак. Я ўжо не кажу пра тое, што палітыка дзяржавы па дэнацыяналізацыі Беларусі, закрыццё беларускіх школ, зняважлівае стаўленне да нацыянальнай адукацыі і да мовы карэннага насельніцтва, апроч збяднення інтэлігенцыі, перакрывае і тыя дэклараваныя сцяжынкі да чытача, якія маглі б хаця неяк паспрыяць нацыянальнаму творцу - уключаючы і шырока разрэкламаваныя Дні пісьменства.

Не хачу ганіць арганізацыю гэтых планавых што-гадовых мерапрыемстваў - яны заўсёды праходзяць на нібыта дастаткова добрым узроўні. Але раз за разам у іх, на маю (і не толькі маю) думку, усе больш знікае галоўнае, дзеля чаго яны некалі задумваліся, а менавіта: прапаганда перш за ўсе беларускага слова, беларускай культуры, беларускай пісьменнасці, ды і ўвогуле самой пісьменнасці. Ці толькі для таго, каб добра паесці, смачна папіць лідскага піва і накупляць забавак, арганізуецца такое свята? І чым яно адрозніваецца ад усіх іншых - свята горада, "Дажынак"? Хіба тым, што на пачатку ўсё ж кажацца колькі там слоў пра гісторыю і культуру?

І зноў мне хочацца вярнуцца да словаў, якія, як луска, сыплюцца штодзень на нашы вушы...

У тым жа самым выпуску навін, з якога я пачала гаворку, як на тое, нехта з эканамістаў захлынаўся ад радасці, паведамляючы нам, слухачам, што бюджэт Беларусі ну такі "празрысты", што па сваёй празрыстасці ў гэтым плане мы ўваходзім у першую дзесятку краін свету. Радасць зноў ледзь не ахапіла мяне - але тут я ўзгадала бюджэт адной толькі ўстановы - "адміністрацыйнага будынка Фрунзе, 5", які па звычцы называюць Домам літаратара - і радасць мая зноў жа згасла. За сем гадоў "выкачкі" з гэтага Дома вельмі і вельмі немалых грошай ніхто ні з кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, ні тым больш з саміх пісьменнікаў, у якіх рэгулярна адбіраюць прыналежныя ім сумы, не змог нічога даведацца пра гэты самы "празрысты бюджэт." "Качаюць грошы" і з нашай былой паліклінікі, дзе цяпер у адным крыле размясціўся камп'ютэрны клуб, а на другім вісіць знамянальны надпіс "Милиция. Вход запрещен". Ці не на гэты "ясак" запросяць у Мінск даўганогую балерыну? Ці не на іх (уключаючы, вядома, і многія іншыя адабраныя ў розных устаноў прыналежныя ім дамы і маёмасць, накшталт відэа- і кінатэхнікі) ужо неадноўчы запрашалі і шчодра адорвалі іншых гасцей з Белакаменнай? Ці не на іх гледачы даведваліся, як "Любить по-русски"?

Пра каханне "па-беларуску" расказваецца чамусьці зусім не на гэтыя вялізныя сродкі, а на грошы, якія выдзяляюць з маленькай пенсіі ці заробку самі нашы грамадзяне і за чый кошт выдаецца газета "Наша Слова", орган Таварыства беларускай мовы. Менавіта гэтая грамадская арганізацыя разам з Саюзам пісьменнікаў і з'яўляецца апошнім фарпостам беларускасці ў краіне, менавіта яны бяруць на сябе многае, што павінна была б рабіць дзяржава: умацоўваць карані нацыі. Але пастаўлены нашы грамадскія арганізацыі ва ўмовы, дзе галоўная задача сёння - выжыванне. Выжыванне ад бясконцых праверак, прыдзірак, патрабаванняў. Куды лягчэй скласці рукі і сысці - але мы не маем на гэта права. Бо тут справа ідзе аб выжыванні нашай гістарычнай праўды, нашай нацыянальнай мовы. Гэта - справа сэрца кожнага, у кім засталося жывое, трапяткое, не знішчанае пастаянным здзекам неадукаваных (і што найбольш балюча, нібыта адукаваных) робатаў, цвёрдае перакананне: мы не павінны аддаць нашу мову і нашу літаратуру на гвалт і знішчэнне, якое ёй рэальна пагражае. Услед за імі як духоўныя каштоўнасцямі непазбежна знікне і тая энергія, якую назапасілі нашы продкі і ад якой яшчэ нешта застаецца і нам, сённяшнім. Нездарма яе называюць часам "ахоўнай коўдрай народа". А без яе, ахоўнай энергіі продкаў, мы будзем, як пад чорнай азонавай дзіркай, з яе жорсткім ультрафіялетавым абпраменьваннем - безабаронныя і роспачныя.

І няхай крычаць сёння невукі, што, маўляў, ад мовы не залежыць мараль.

Думаю, што той загадчык аддзела культуры, які ў ледзь не самай забруджанай радыяцыяй зоне Беларусі выганяе са службовай кватэры цяжарную настаўніцу музыкі (пра гэта паведамляла Радыё Свабода) і звальняе з працы, каб не плаціць належныя ёй дэкрэтныя, не думае пра тое, пра што думаў бы кожны нармальны грамадзянін: што ён фактычна тым замахваецца на будучае сваёй краіны, што ягоным дзецям ці ўнукам стаў бы, магчыма, зарабляць на пенсію чалавек, якога народзіць падпарадкаваная яму зараз па волі лёсу маладая жанчына. Што дзіця гэтае, калі народзіцца, можа стаць гонарам краіны, у якой жыве ён і будуць жыць яго дзеці. Што, нарэшце, нацыя сёння вымірае і ёй так патрэбны кожны! Я не кажу пра тое, што у гэтага чалавека зусім не спрацоўваюць і даўнія, народам правераныя і замацаваныя традыцыі: цяжарную жанчыну нельга крыўдзіць, ёй патрэбна заўсёды дапамагаць.

Чаму ж адбылося адваротнае? Таму што гэты начальнік - манкурт (якіх, на жаль, не так і мала), для якога існуе толькі Сёння і існуе толькі матэрыяльная абалонка жыцця, а не яго сакральная сутнасць. У гэтай абалонцы ён фактычна адзін - ну хіба што са свай

сям'ёй, але не са сваім Родам (які нездарма для даўніх язычнікаў быў богам, настолькі яны шанавалі род), не са сваім Народам, часцінкай якога ёсць гэтая настаўніца, што нясе ў сабе працяг і рода, і народа...

Адчуванне роднаснасці з людзьмі навокал і акаляючым асяроддзем часта існуе на падсвядомым узроўні, тлумачыць гэтае пачуццё, усе роўна што гаварыць з глухім, - яго трэба чуць у сваёй душы. Адсутнасць яго адчуваецца як няшчасце, ды здагадацца, што з ім здарылася, чалавек часам проста не можа.

Са многімі з нас даўно нешта здарылася - інакш, гаворачы пра галадоўкі вядомых палітыкаў, не мог бы нармальны чалавек жадаць ім смерці (што таксама чулі мы па Радыё Свабода). Я думаю, што ў ім, тым, на шчасце, адзіным, хто гэтак адгукнуўся на ахвярную акцыю мужных людзей, зноў жа падсвядома гаварыла віна - віна за тое, што іншыя ахвяруюць сабою, а ён на гэта не здольны. І не толькі не здольны, але нават баіцца пра тое падумаць, бо даўно адвучыўся па-сапраўднаму думаць. Не дзіва - яму ў гэтым актыўна дапамагаюць магутныя сродкі прапаганды: друк і тэлебачанне.

Не паднімаецца рука напісаць - нацыянальныя: яны колькі гадоў не абнаўляюць свае старыя транты расійскай правінцыі. Калі сышоў Я.Рыбакоў, якога афіцыйна абвінавацілі ў тым, што ён зрабіў з ТБ нешта "дыск-жакейскае", думалася з нейкай тужлівай надзеяй: а раптам усё ж будзе ўлічаны яго "вопыт" і на тэлебачанні з'явіцца сур'ёзныя праграмы хаця б па культуры? (І з вядучых газет Беларусі ў так званых гістарычных рубрыках знікнуць пастаянныя згадкі пра тое, што рабіў у гэты дзень Пётр Першы, нібыта ўся наша гісторыя пачыналася і заканчвалася гэтым царом іншае дзяржавы).

Не! Тыя ж бадзёрыя хлопцы-тусовачнікі, якія і з рэдкімі беларускамоўнымі выступоўцамі не могуць двух слоўцаў звязаць на сапраўды нацыянальнай мове. Тыя ж дзевачкі, якія раніцай гадзінамі будуць расказваць, якую парфуму трэба ўжываць школьніцам і сабачкам. Тыя ж злосныя, нібы нацкаваныя ўмелым паляўнічым ганчакі, якія ганяць апазіцыю... Прычым увесь час нам не паказваюць, а толькі ўсё "талкуюць" самі, як, напрыклад, пра акцыю 21 ліпеня - пра п'яных, якіх мы не бачым, пра буйствы, якіх няма, пра дабрыню да рускіх журналістаў, якім не заламалі рукі ды не вывезлі іх, як беларускую моладзь, да могілак за Мінскам, а проста забаранілі тут працаваць. І альтэрнатыўны погляд у правінцыі ўбачыць немагчыма - тут даўно ўсе заблакіравана.

У правінцыі працуюць толькі тры тэндэнцыйныя, нецікавыя, у палітычных адносінах амаль заўсёды агрэсіўныя праграмы, так што практычна вёска і мястэчкі глядзяць толькі іх. І яны робяць высновы. Нават тыя, хто падтрымлівае апазіцыю, баяцца ўзняць голас. Нават тыя, хто ведае мову, баяцца гаварыць па-беларуску! Бо ўжо дзесяць гадоў у нашай краіне амаль усё беларускае - гэта сінонім апазіцыйнага. І нашы парламентарыі таксама ні разу не ўзнялі свой голас у абарону мовы, якую год за годам душаць і знішчаюць...

Дзяўчаткі і хлопчыкі з БТ ганяць шэры, правінцыйны прадукт, дзе культурай амаль што не пахне, дзе няма літаратуры. І іх можна зразумець: яны таксама мала чытаюць, бо чытанне патрабуе думання. А навошта думаць, калі "за нас з табою думаюць правадыры"? Вось і адлюстроўвае наша тэлебачанне правінцыйнае захапленне "вярхоў" чарговай залётнай птушкай, якая забярэ з якога-небудзь раёна чвэртку ўсяго іхняга бюджэту на культуру і якую запрашаюць у асноўным усё ж дзеля таго, каб яна пасля праспявала чарговую падзяку і захапленне цудоўным беларускім жыццём.

Але "патайных спружын" усяго гэтага наш абывацель не ведае. Ён прапусціў міма вушэй мудры тэзіс, што рускім у нас павінна быць лепей, чым у Расіі. Вось толькі не зразумела, як жа быць беларусу ў Беларусі, ці ёсць яму месца тут, калі ён сапраўдны беларус, а не тутэйшы?

І зноў жа замучанаму соткамі абывацелю няма часу і сіл задумацца, што ордэн Скарыны мог бы атрымаць Адам Мальдзіс, а ганаровым грамадзянінам Полацка стаць таксама і Уладзімір Арлоў, які напісаў менавіта пра гэты горад мноства выдатных кніг, у тым ліку і унікальную - "Таямніцы полацкай гісторыі"...І пра многае іншае, у тым ліку і пра будучае нацыі.

Але інтэлігенцыя думаць павінна, у гэтым яе гістарычная задача, дзеля гэтага яе заклікаў час. Думаць і будзіць у народзе годнасць і гонар, сілы змагацца за свае правы - правы Чалавека, Грамадзяніна, сына сваёй зямлі...

*************************************

## Цынізм вышэйшай пробы

### Руская праваслаўная царква ўзнагародзіла чалавека,які падазраецца ў палітычных забойствах

Камандзір брыгады Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Зміцер Паўлічэнка, які, як вядома, узгадваецца ў спецыяльным дакладзе Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) як чалавек, які мог мець дачыненне да палітычных забойстваў лідэраў апазіцыі, атрымаў днямі ад Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ) ордэн Святога роўнаапостальскага князя Уладзіміра. Прычым, як сцвярджаюць некаторыя расійскія СМІ, мітрапаліт Філарэт, кіраўнік Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы, персанальна хадайнічаў перад Патрыярхам маскоўскім і Усяе Русі Алексіем Другім, каб ордэн далі менавіта Паўлічэнку. Удастоены высокай царкоўнай узнагароды палкоўнік Паўлічэнка, як паведамляюць у РПЦ, за "асабісты ўклад у будаўніцтва храма на тэрыторыі падначаленай палкоўніку вайсковай часці".

Нагадаем, што Зміцер Паўлічэнка фігуруе ў спецыяльнай справаздачы Хрыстаса Пургурыдэса як "падазроны арганізатар і кіраўнік крымінальнай структуры, якая мае дачыненне да выкрадання і фізічнага знішчэння людзей". Менавіта на падставе справаздачы Пургурыдэса камітэт ПАСЕ прыняў не так даўно жорсткую рэзалюцыю, патрабуючы ад беларускіх улад арганізацыі незалежнага даследавання фактаў знікнення тэлеапаратара ГРТ Зміцера Завадскага, палітыкаў Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, бізнесмена Анатоля Красоўскага. Вынікам гэтай рэзалюцыі стала нядаўняя адмова грэчаскіх улад пусціць на тэрыторыю сваёй краіны міністра спорту і турызму Беларусі Юрыя Сівакова, які таксама фігуруе ў рэзалюцыі ПАСЕ. Дадамо, што вета на візіт Сівакова ў Грэцыю і ўзнагароджанне Паўлічэнкі прайшлі амаль адначасова, з інтэрвалам у некалькі дзён.

На пытанне Радыё Свабода, ці ведалі прадстаўнікі праваслаўнай царквы, перш чым узнагароджваць Зміцера Паўлічэнку, пра ўсе яго папярэднія "подзвігі", два святары РПЦ адказалі наступным чынам. Айцец АЛЯКСАНДР сказаў: "Я абсалютна нічога не ведаю; ні царква, ні наш прыход не прымаюць удзелу ні ў якіх палітычных акцыях, нічога агульнага мы з гэтым не маем і не ведаем нічога". Сакратар Мінскай епархіі Мікалай КОРЖЫЧ пайшоў яшчэ далей: "Інфармацыі мы не маем, і наколькі яна праўдзівая - гэта не наша кампетэнцыя. Мы жывем сваім царкоўным жыццём, і царква знаходзіцца па-за палітыкай".

"Ці павінны святары заставацца па-за палітыкай?" - такое пытанне я задаў ксяндзу аднаго з каталіцкіх прыходаў, які прасіў не называць яго імя. "Каталіцкі касцёл, - адказаў ксёндз, - перад тым як даваць камусьці ўзнагароды, заўсёды цікавіцца маральнымі паводзінамі чалавека. Як гэта можна даваць ордэн, калі маральныя паводзіны чалавека дрэнныя? Як гэта можна даваць ордэн чалавеку, які не дае іншым людзям прыкладу хрысціянскага жыцця?"

"Цынізмам вышэйшай пробы" назвала ўзнагароджанне праваслаўнай царквой Зміцера Паўлічэнкі жонка зніклага ў 1999 годзе Віктара Ганчара Зінаіда ГАНЧАР. "Калі я атрымала інфармацыю пра гэта, - распавядае З. Ганчар у інтэрв'ю "Народнай волі", - я доўгі час знаходзілася ў стане шоку. Увесь свет гаворыць пра тое, што здарылася з маім мужам і іншымі зніклымі, асуджае тых, хто падазраецца ў крадзяжы людзей, а Філарэт гэтага ўсяго нібы не заўважае. Я знаёма з ім, хадзіла да яго, размаўляла з ім, ён асабіста ведае Віктара і цудоўна разумее, што з ім адбылося, і пасля гэтага робіць такое... Чуць пра тое, што праваслаўная царква па-за палітыкай, проста невыносна: яны, мусіць, не проста па-за палітыкай, яны - па-за жыццём".

"Нягледзячы на тое, што, згодна з Канстытуцыяй, царква ў нас аддзелена ад дзяржавы, - каменціруе ўзнагароджанне Зміцера Паўлічэнкі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, - тое, што адбылося, - гэта відавочная палітычная акцыя. Напэўна, мітрапаліт Філарэт чытае прэсу, глядзіць праграмы тэлебачання, ведае пра рэакцыю міжнародных арганізацый на факты зніненняў людзей у Беларусі. У рэшце рэшт, і ў Рускай праваслаўнай царкве, і ў Беларускім экзархаце ёсць міжнародныя сектары, якія павінны інфармаваць кіраўніцтва царквы пра рэакцыю міжнародная супольніцтва на факты крадзяжу ў Беларусі апанентаў правячай улады і ролю ў гэтай справе афіцэра Паўлічэнкі".

Калі згадзіцца з кіраўніком АГП, то палітыкай Руская праваслаўная царква ў Беларусі ўсё ж такі займаецца. Але гэта "правільная" палітыка...

Алесь СІЛІЧ. /НВ/

*************************************

## Нам Пішуць...

"The Sunday Times" за 8. 8. 2004 апублікаваў артыкул карэспандэнта Justina Sparks'а пра тое, як Расея выклікала чарнабыльскі дождж. Аб гэтым расказаў брытанскі навуковец. Нядаўна Беларускі ўрад дэпартаваў гэтага навукоўца за тое, што ён публічна сказаў пра свой досьлед, як Расея ўжыла "тэхналёгію дажджу", каб радыёактыўны пыл з чарнобыльскай аварыі спаў на тэрыторыю Беларусі.

Dr. Alan Flowers, якому Беларускі ўрад загадаў пакінуць Беларусь у працягу 48 гадзін за тое, што ён выказаў, што 400 кв. міляў Беларусі былі ахвяраваныя таму, каб радыяцыя не дайшла да Масквы.

Dr. Flowers даказвае, што дзякуючы тэхналёгіі халоднай вайны Расея змагла хмару радыёактыўнага пылу замяніць на забруджаны дождж і гэтым выратаваць Маскву ад радыяцыі. Чарнабыльская аварыя сталася, калі ў 1986 г. рэактар №4 у чарнабыльскай ядзернай станцыі выбухнуў. Аварыя забіла 31 чалавек, гэта паводле слоў Dr. Flowers была не вялікая страта ў параўнаньні да мільёнаў людзей, якіх ахапіла радыяцыя.

У некаторых месцах Беларусі рак шчытападобнай залозы горла павысіўся на 1925%. Паводле даных Сусьветнай арганізацыі здароўя больш беларускіх дзяцей будуць хварэць на розныя хваробы. Пасьля аварыі тоны радыёактыўнага пылу вецер расьсеяў на поўнач у напрамку Гомеля, які ляжыць 26 міляў ад рускай граніцы і прыблізна 300 міляў ад Масквы.

Паводле слоў Dr. Flowers, калі гэтая хмара праходзіла над Гомелям, раптоўна пачаў падаць чорны дождж і пыл апынуўся на Беларусі, а Масква была выратаваная. Савецкія паветраныя сілы выкарысталі сваю тэхналёгію "стварэньня дажджу". Заходнія вучоныя ведалі, што савецкія вучоныя вывучалі так званую "кліматычную вайну".

Крэмль марыў, каб сваёй тэхналёгіяй зьнішчыць амэрыканскія збажовыя нівы. Хэмікаты, як silver iodide, solid carbon dioxide ведамыя тым, што калі іх пасыпаць на хмару то хмара замяніцца на дождж. Паводле слоў сьветкі, які ў тую ноч вяртаўся з вясельля дамоў, ён пабачыў як транспартныя самалёты лягалі з адкрытымі дзьвярамі над Гомелям у розных напрамках і што хутка пасьля гэтага пачаў падаць дождж. Другі замежны вучоны сказаў, што савецкі пілёт прызнаўся, што сеяньнем хмары быў створаны чорны дождж. Вядома таксама, што забруджаная тэрыторыя Беларусі будзе забруджаная радыяцыяй наступныя 150 гадоў. Dr. Flowers, прафэсар Кінгстон Унівэрсіты ў Лёндане, моцна верыць, што многа больш людзей ведаюць праўду пра чарнабыльскую аварыю, але баяцца публічна выказацца.

У 1999 г. праф. Ю. Бандажэўскі быў арыштаваны за тое, што апублікаваў факты хваробы тысячаў дзяцей зьвязаных з чарнабыльскай аварыяй.

У працягу апошніх 12 гадоў Dr. Flowers без ніякай перашкоды вёў досьледы ў забруджанай зоне. 1-га мая гэтага году Доктар публічна прачытаў лекцыю пра "сеяны дождж". Па якімсь часе ён быў выкліканы ў паліцэйскую ўстанову, дзе афіцэр КГБ уручыў яму наказ пакінуць тэрыторыю Беларусі ў працягу 48 гадзін.

Сыльвэстр Б. /Англія/

*************************************

## Мова -- гэта галоўнае, што ёсць у народа.

Народная мова гэта тая мова, якой гаворыць увесь народ. Кажны народ мае сваю родную мову і ёй усюды гаворыць. Родная мова - вялікае народнае багацьце, якое народ павінен высака цаніць і шанаваць, бо як кажа Алесь Гарун:

Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце, гэта скарб нам адзін
захаваўся, у сялянскай аграбленай хаце толькі ён
незабраным застаўся.

А цапер паслухайце, што я думаю на гэтую тэму.

Калі ты беларус, жывеш у Беларусі, ходзіш па гэтай зямлі, ясі яе хлеб, то ты проста абавязаны аддзячыць сваёму краю. Як? Хаця б паважай сябе! Калі паважаеш сябе, то ніколі не станеш гаварыць на мове тых чужынцаў, якія усю нашу гісторыю хацелі знішчыць тваіх продкаў, а значыць і цябе! А я кажу менавіта пра рускіх.

Апрач таго, хто вам сказаў, што вы павінны гаварыць на нейкай іншай мове, тым больш расейскай?

Наш паэта Францішак Багушэвіч (Мацей Бурачок) у прадмове да "Беларускай Дудкі" кажа:

"Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш сваю мову, так як той чалавек перад сканаsucces, катораму мову займае, пасьля і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня умерлі! Пазнаюць людзі людзей па абліччу ці па адзежы, якую хто носіць. Вось-жа мова - гэта ёсьць абліччa і адзежа душы людзкой".

А ўсё ж такі, чаму большасць насельніцтва размаўляе на мове чужынцаў?

Па-першае таму, што рускія ўсялякімі сродкамі дамагаліся знішчэння нашай мовы ў час іхняй акупацыі.

Па-другое, большасць з нас людзі цемныя, і не ведаюць, што мова беларуская значна больш багацейшая і прыгыжэйшая за русінскаю, што першыя кнігі і пісменнасць з'явіліся ў нас, а не ў іх. Ды і русіны тыя яшчэ доўга пасля Францыска Скарыны думалі як жа гэта і ім кніжкі навучыцца друкаваць.

Ну а па-трэццяе наш "паважаны ..." падае народу "добры прыклад"...

*************************************

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў АЎСТРАЛІ

У нядзелю 27 чэрвеня 2004 году Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі адзначыў выдатнейшую падзею ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі - 60-я ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу.

Старшыня БЦКВ Алег Шнэк прывітаў прысутных і папрасіў хвілінаю цішы ўшанаваць памяць Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага, сяброў ураду БЦР, афіцэраў і жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны, юнакоў і юначак Саюзу Беларускай Моладзі, усіх змагароў за вольную Беларусь.



Потым сп. А. Шнэк прачытаў прывітаньне ад Краёвага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту. Затым сп. Янка Барысевіч прачытаў зьмястоўны даклад на тэму дня. Наступна прысутныя выказалі свае погляды на сытуацыю ў сёньняшняй Беларусі.

Мастацкая частка складалася з дэклямацыі вершаў спн. Вераю Шайпак і сп. Аўгенам Грушам.

На заканчэньне прысутныя пад музычны акампанэмэнт прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі",

Пасьля афіцыйнай часткі ўдзельнікі сьвяткаваньня ў таварыскай бяседзе з пачастункам, прыгатаваным сябрамі БЦК, правялі рэшту дня.

***Алег ШНЭК, Аўстралія***

Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!

 



# Беларусь павінна рыхтавацца да росту захворвальнасьці й сьмяротнасьці на рак

За апошнія 30 год колькасьць выпадкаў захворваньня на рак павялічылася ў Беларусі ў 3-3,5 разы. Гэтую лічбу прэзэнтавалі спэцыялісты Навукова-дасьледчага інстытуту анкалёгіі й мэдычнай радыялёгіі Беларусі, якія стварылі электронны атляс анкалягічных захворваньняў. Асновай атлясу сталі зьвесткі пра ўсе выпадкі раку ў краіне з 1965 г.

Калі колькасьць ракавых захворваньняў павялічваецца апошнія 30 год – справа, выходзіць, ня толькі ў Чарнобылі. Хварэюць людзі па ўсёй краіне, нейкай геаграфічнай залежнасьці не прасочваецца. Укладальнікі анкалягічнага атлясу сьцьвердзяць, што ЧАЭС павялічыла толькі колькасьць раку шчытападобнай залозы. А вось рост астатніх відаў хваробы некаторыя ўкладальнікі атлясу тлумачаць урбанізацыяй краіны.

Атляс удае сабой зборнік інфармацыі аб геаграфічнай і сацыяльнай лякалізацыі анкалягічных паталёгіяў. Гэтак, на рак хварэюць найчасьцей гарадзкія жыхары й пажылыя людзі, а таксама прадстаўнікі стрэсавых прафэсіяў. Найбольш хуткімі тэмпамі ў мужчын расьце захворвальнасьць ракам лёгкіх і прастаты, у жанчын – ракам малочнай залозы. Людзі абодвух палоў сталі часьцей хварэць на рак скуры й страўніка. Галоўная выснова: Беларусь павінна рыхтавацца да росту захворвальнасьці й сьмяротнасьці ад раку.

Але ці ёсьць нейкае выйсьце з сытуацыі, на думку спэцыялістаў? Тут ёсьць розныя меркаваньні. Юры Аверкін, адзін з аўтараў атлясу, загадчык аддзелу эпідэміялёгіі раку НДІ анкалёгіі, кажа, што атляс неабходны для навуковай і практычнай работы з анказахворваньнямі, але прарыву ў лячэньні раку не прадбачыцца.

Аверкін: "Застой у гэтым ня толькі ў нас, але і ва ўсім сьвеце. Відавочна, што тыя мэтодыкі дасьледаваньня, якімі мы карыстаемся, не даюць прарыву. Ракам хварэе ўсё жывое на зямлі. Я лічу, гэтая хвароба нясе нейкую біялягічную нагрузку. Ня можа такое распаўсюджаная зьява быць бессэнсоўнай".

Сярод мэдыкаў нават існуе думка, што рак – асобная форма жыцьця, якая выконвае пэўную функцыю ў жывой прыродзе. З гэтай бясстраснай тэорыяй, аднак, цяжка пагадзіцца хворым.

А вось кандыдатка мэдычных навук, мамоляггінэколяг Натальля Путырская, якая шмат год займаецца практычным лекаваньнем і прафіляктыкай раку, лічыць, што папярэдзіць рак можна гамэапатыяй. Путырская: "Гэта хвароба цывілізацыі, як і стрэс – хвароба цывілізацыі. Рэкамэндую прыём гамэапатычных прэпаратаў у якасьці прафіляктычных сродкаў, асабліва пасьля стрэсу, зьмены клімату, хваробы, працяглага прыёму антыбіётыкаў і хіміяпрэпаратаў".

Гэта што тычыцца прафіляктыкі. А лячэньне прапануецца старое – хіміятэрапія, апэрацыя. На думку анколягаў, альтэрнатыўная мэдыцына рак усё-ткі не лечыць. Але і альтэрнатыўная, і афіцыйная мэдыцына сьцьвердзяць адно: людзі з філязофскім стаўленьнем да жыцьця, лёгкім норавам і сьветлым сьветаўспрыманьнем хварэюць радзей. Рак, збольшага – хвароба нэрвовазалежная й стрэсазалежная…

************************************************

# ЗАЎСЁДЫ БЫЛО ЦЯЖКА, СКЛАДАНА, ЯК І ЦЯПЕР

Час збіраць камяні. Ніхто з самых вялікіх аўтарытэтаў у нашай краіне не хоча проста і адкрыта адказаць на пытаньне: быць ці не быць калгасам у Беларусі? Зьмяніліся шыльды на калгасных канторах і… больш нічога. Сучасны просты калгасны люд не ведае і не ўяўляе нічога іншага. На працягу амаль сарака гадоў — ад арганізацыі калгасаў у пачатку 30-ых гадоў да ўвядзення грашовай платы за працу ў 1965 годзе — калгаснікі жылі і працавалі на правах нявольнікаў, працавалі ў калгасах амаль без аплаты, каб не палічылі дармаедам і не саслалі ў Сібір. А жылі дзякуючы сваім прысядзібным надзелам і гаспадаркам. Калгаснікі фактычна не мелі маёмасці, пастаяннага заробку (за невялікім выключэннем), пашпартоў, а таксама не мелі права пакінуць калгас, не было нават гаворкі пра калгасныя пенсіі і г.д. Можа, і добра, што кепскае, цяжкае, што засталося ў маладосці, — забываецца, а больш памятаецца энтузіязм, калі спявалі "В колхозах хлеба полные амбары", глядзелі кінафільмы "Кубанские казаки", "Щедрое лето", "Поднятую целину" і верылі ў лепшую будучыню. Нават у гады адноснага ўздыму сельскай гаспадаркі (1970–1980), калі дзяржава ўзяла на сябе вялізныя выдаткі на меліярацыю, землеўпарадкаванне, ачыстку калгасных зямель ад камянёў, хмызнякоў, на нарыхтоўку і вываз торфу на калгасныя палі, калі дзейнічалі зусім нізкія цэны на сельскагаспадарчую тэхніку, паліва і электраэнергію і калі былі даволі высокія нарыхтоўчыя цэны на калгасную прадукцыю (асабліва на жывёлу) — пры ўсіх гэтых і іншых прэферэнцыях сельскагаспадарчая краіна не ўзнялася з каленяў. Выключэннем у гэтым выпадку можна лічыць Прыбалтыку, заходнія вобласці БССР і некаторыя лічаныя рэгіёны Расіі і Украіны. Дзяржава вымушана была імпартаваць штогод 30 і больш мільёнаў тон зерня, мільёны тон цукру-сырцу, вялікую колькасць мясных, малочных, садова-агародных прадуктаў, воўны і бавоўны. У краінах СЭУ закуплялася вялікая колькасць адзення і абутку, бо не хапала сыравіны для іх вытворчасці. На абсалютна большай частцы тэрыторыі СССР у дзяржаўным гандлі не было нават мінімальнага дастатку мясных і малочных прадуктаў. На вялікіх прамысловых прадпрыемствах дзейнічалі так званыя "сталы заказаў", дзе рабочы мог два разы ў год купіць 1,5–2 кілаграмы мясных прадуктаў. Уся цэнтральная Расія "атаварвалася" мяснымі прадуктамі ў Маскве. Не ажыццявіліся вялікія планы Харчовай праграмы СССР. Усё сказанае сведчыць пра тое, што калгасны лад — не самая лепшая форма гаспадарання на зямлі, што эканамічны закон сацыялізму аб планавасці і прапарцыянальным развіцці народнай гаспадаркі ніколі не спрацоўваў. На працягу ўсёй гісторыі калгаснага ладу заставаліся і дзейнічалі тыя самыя законы — неабходнасць прымусу, надзвычайнасці, барацьбы, мабілізацыі, кадравых разборак. Паступова, але пастаянна пагаршаўся маральна-псіхалагічны стан калгаснага грамадства і назіралася агульная маральная дэградацыя значнай часткі сялян (п'янства, абыякавасць, безадказнасць, дармаедства і да т.п.). Як у 40-ых гадах мінулага стагоддзя, так і цяпер калгасы не могуць правесці ўборку ўраджаю без дапамогі шэфаў з горада, студэнтаў і нават вучняў, салдатаў. Пасля гэтых агульных разважанняў хачу нагадаць некаторыя факты і жыццёвыя эпізоды — як уласныя, так і з дзейнасці калег — кіраўнікоў гаспадарак Слонімскага раёна на працягу апошніх пяцідзесяці гадоў, каб наша змена ведала, што ўсё, што мы маем, дасягнута надзвычайнымі высілкамі, вельмі цяжкай працай і… што трэба шукаць новыя шляхі да лепшага жыцця. Можа, не трэба адкладваць канструктыўныя рэформы, баяцца сапраўдных рынкавых адносін ("как бы чего не вышло"). Можа, трэба больш энергічна рэалізаваць напрацоўкі айчыннай навукі, вывучаць вопыт вырашэння аграрных праблем у блізкім і далёкім замежжы — ад Расіі, Польшчы і Літвы да Заходняй Еўропы, ЗША, Ізраіля і Кітая. У адрозненне ад прамысловасці, прадукцыя якой не заўсёды і не ўсім трэба, сяляне забяспечваюць увесь народ хлебам, прадуктамі, працуюць у сімбіёзе з прыродай. Яны найлепшым чынам павінны выкарыстаць цяпло і холад, сонца і дождж, дзень і ноч, працаваць у самых розных грамадска-палітычных умовах. Гэта цяжка, складана, але магчыма, калі людзі працуюць для сябе, без прымусу, паводле сваёй задумы…

************************************************

# Бэрлін застаўся далёкім ад Варшавы

*1 жніўня Польшча ўрачыста адзначыла 60-ю гадавіну Варшаўскага паўстаньня.*

*Прамова канцлера Шродэра на ўрачыстасьцях расчаравала палякаў. Для халоднага стаўленьня да Бэрліна Варшава мае і больш прагматычныя прычыны.*

1 жніўня 1944 г. польская Армія Краёва распачала ў Варшаве ўзброенае выступленьне супраць нямецкай акупацыі, спадзеючыся яшчэ да прыходу Савецкае Арміі ўсталяваць у Польшчы незалежнае кіраваньне і тым самым ўратаваць краіну ад сталінскага панаваньня. Аднак спадзевы палякаў на дапамогу Захаду ня спраўдзіліся, а Сталін адмовіў у выкарыстаньні савецкіх аэрадромаў дзеля падтрымкі Варшавы. Паўстаньне было задушана.

Савецкія дывізіі ў бязьдзеяньні пазіралі з правага берагу Віслы, як нямецкія танкавыя брыгады, падтрыманыя антыбальшавіцкімі расейскімі і ўкраінскімі злучэньнямі, жорстка распраўляліся з паўстанцамі і цывільнымі ды ператварылі Варшаву ў попел. У выніку задушэньня паўстаньня загінула, паводле некаторых падлікаў, каля 200 000 чалавек. Успрынятае палякамі як адна з самых гераічных і трагічных старонак польскае гісторыі, Паўстаньне зьяўляецца сымбалем прагі Польшчаю незалежнасьці.

Падчас сёлетняга ўшанаваньня памяці паўстанцаў у цэнтры ўвагі знаходзіўся візыт у Польшчу нямецкага канцлера Шродэра, а таксама праблемныя аспэкты польска-нямецкіх адносінаў. Яшчэ нядаўна цёплыя і даверлівыя, узаемадачыненьні дзьвюх краін пераважаюць ня лепшы пэрыяд. Прычын таму некалькі.

Незадавальненьне польскага боку выклікае дзейнасьць у Нямеччыне так званага «Зьвязу выгнанцаў» (Bund der Vertiebenen), які імкнецца прадстаўляць інтарэсы немцаў, дэпартаваных з далучаных да Польшчы нямецкіх тэрыторый. Кіруе Зьвязам дэпутатка нямецкага Бундэстагу ад партыі ХДС (хрысьціянскія дэмакраты) Эрыка Штэйнбах, чыя (адмоўная) папулярнасьць у Польшчы значна пераўвышае вядомасьць самога канцлера Шродэра. /Паводле Н. Нівы/

# Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2004 годзе.

| | | |
|---|---|---|
| Мікола Сьнежка | | $50.oo |
| Уладзімір Бельмач | (Канада) | $50.oo |
| Міхась Бахар | | $40.oo |
| Др. Мікола Еўдасюк | | $50.oo |
| Уладзімір Ракуць | | $50.oo |
| Вольга Яськевіч | | $50.oo |
| Алесь Вакуліч | | $50.oo |
| Міхась Скіба | (Бельгія) | $30.oo |
| Сыльвэстар Будкевіч | (Англія) | $20.oo |
| П. Шыркоўскі | (Англія) | $176.oo |
| Аўген Груша | (Аўстралія) | $150.oo |
| Фэдэральная Рада | (Аўстралія) | $100.oo |
| Беларускі Цэтр. Кам. | (Аўстралія) | $100.oo |
| Алег Шнэк | (Аўстралія) | $50.oo |
| Т. Лашук | (Аўстралія) | $50.oo |
| І. Шайпак | (Аўстралія) | $10.oo |
| Ф. Корбут | (Аўстралія) | $50.oo |
| Я. Яшчанка | (Аўстралія) | $20.oo |
| Я. Барысевіч | (Аўстралія) | $40.oo |
| Ж. Сідлярэвіч | (Аўстралія) | $10.oo |
| Юзэфа Найдзюк | | $60.oo |

Усім шчырае ДЗЯКУЙ!

************************************************

# Minsk Bans Four U.S. Senators From Travel To Belarus

**Authorities in Belarus said they have refused to issue visas to four U.S. senators, including former presidential candidate Senator John McCain (Republican, Arizona).**

Belarusian Foreign Ministry spokesman Andrei Savinykh said the senators were advised to delay their visit, scheduled for later this month, until "after the end of election campaigns in Belarus and the United States."

Belarusian parliamentary elections are scheduled for October and U.S. presidential and national elections take place in November.

In a statement distributed by the U.S. Embassy in Minsk, McCain said he is disappointed but not surprised by the move of a country ruled by "a dictator so insecure that he views as a threat mere visits by elected officials."

McCain said that under the leadership of President Ayaksandr Lukashenka, the Belarusian government "has routinely harassed, arrested, and attacked democracy advocates."

************************************************

# Экспэдыцыя да Беларусі

## 50 гадоў Алегу Трусаву

Алег Трусаў падараваў мне Беларусь, гэтаксама як і сотням іншых студэнтаў менскіх ВНУ ў канцы 70-х і ў 80-х гадах мінулага стагодзьдзя. Ня ўсе зь іх прынялі гэты дар, нехта, вярнуўшыся з трусаўскіх экспэдыцый, ізноў звыкла занырваў у вычышчаную ад беларускасьці атмасфэру беларускай сталіцы. Але шмат хто зноў і зноў прасіўся на наступнае лета ў чарговы археалягічны выезд куды-небудзь у Мір ці Чачэрск… А той-сёй прыбіваўся да экспэдыцыі надаўжэй, часам на ўсё жыцьцё — вось як Ігар Чарняўскі, мы зь Нінай Здановіч, Алесь Кушнярэвіч, Генадзь Сагановіч, Ірэна Ганецкая, Ала Сташкевіч. Хоць даўно ўжо не існуе таго аддзелу архітэктурнай археалёгіі Беларускага рэстаўрацыйнапраектнага інстытуту і няма экспэдыцыі, якой кіраваў Алег Трусаў, але мы працягваем жыць у ёй і зь ёй…

Алег Трусаў пачаў ствараць сваю Экспэдыцыю з 1976 г., адразу пасьля таго як бліскуча закончыў гістарычны факультэт БДУ і выбраў месца працы — археолягам у Навукова-рэстаўрацыйных праектных майстэрнях. Хлопец сьвядома і мэтанакіравана пачаў фармаваць уласную навуковую школу, вышукваючы і спраўджваючы ў «полі» студэнтаў-гісторыкаў.

А летам падчас археалягічных вандровак да нас далучаліся студэнты-архітэктары, мастакі, матэматыкі, фізікі, тэхнолягі. Адмыслова з Гомелю прыязджалі Алесь Бяляцкі з Эдзікам Акуліным. На раскопках Мірскага замку спраўджваўся Вінцук Вячорка. Паглядзеўшы, як гэты гарадзкі хлапец, нягледзячы на крывавыя мазалі на руках, дзень за днём апантана рваў рыдлёўкай мацерыковую гліну на замкавым падворку, я паверыў у яго канчаткова і беспаваротна.

Трусаўская Экспэдыцыя была выспай беларускасьці, маленькай краінай, дзе ўсё было па-беларуску: і гаворка, і песьні, і палявая дакумэнтацыя. Там мы ратаваліся ад гнятлівай шэрасьці «разьвітога сацыялізму». Там была свабода і чысьціня духу, мы ня проста здабывалі зь зямлі археалягічныя артэфакты, але працавалі на Беларусь, выяўляючы, апрацоўваючы і публікуючы атрыбуты сярэднявечнай і навачаснай беларускай матэрыяльнай культуры.

 

# Вядомыя палякі стварылі рух "Польшча за дэмакратычныя перамены ў Беларусі"

Шэраг выбітных польскіх палітыкаў, навукоўцаў, інтэлектуалаў заявілі аб стварэньні руху "Польшча за дэмакратычныя перамены ў Беларусі" ды зьвярнуліся да палякаў з заклікам дапамагчы беларусам "пазбавіцца ад кайданоў апошняй дыктатуры ў Эўропе".

Шырокавядомыя ў Польшчы асобы, сярод якіх рэжысэр Анджэй Вайда, палітык і навуковец Уладзіслаў Барташэўскі, сэнатар і сусьветнавядомы хірург Зьбігнеў Рэліга – ініцыятары стварэньня руху – распаўсюдзілі сёньня ў прэсе заяву, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца:

"Зьвяртаемся да ўсіх палякаў з просьбай дапамагчы народу Беларусі, дэмакратычным сілам гэтай краіны, якія церпяць ад уціску апошняй дыктатуры ў Эўропе. Мы пераканаными, што толькі незалежная і дэмакратычная Беларусь можа быць бясьпечным і надзейным партнэрам Польшчы... Відавочна, што рэжым дыктатара Лукашэнкі знаходзіцца ў пэрманэнтным крызысе і рана ці позна будзе вымушаны пагадзіцца ператварыць Беларусь у частку імпэрскай Расеі... Мы супраць гэтага і ня хочам асыміляцыі беларусаў. Трэба памятаць пра сумесную гісторыю – Грунвальд ці Люблінскую вунію", канец цытаваньня.

Далей аўтары заявы заклікаюць усіх палякаў далучацца да руху "Польшча за дэмакратычныя перамены ў Беларусі" ды ўсімі спосабамі дапамагаць дэмакратычным сілам у Беларусі, перадае радыё Свабода.

"Трэба падтрымліваць імкненьне беларускага народу да інтэграцыі зь іншымі народамі Эўропы ды далучэньня да вялікай эўрапейскай сям'і – Эўразьвязу", гаворыцца ў заяве.

Ідэю стварэньня руху падтрымаў таксама адзін з найбольш папулярных польскіх палітыкаў і рэальны кандыдат на пасаду прэм'ер-міністра пасьля наступных выбараў – Ян Ракіта. Варта адзначыць, што ў суседняй Польшчы ўсё больш актыўна ўздымаецца "беларускае пытаньне". Прыкладам, нагадаю, што напярэдадні акцыю пратэсту супраць парушэньня палітычных правоў беларусаў каля амбасады Беларусі ў Варшаве правялі разам аж 50 дэпутатаў польскага парлямэнту.

# Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 ліпеня гэтага года склала амаль 9 мільёнаў 822 тысячы чалавек

Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 ліпеня гэтага года склала 9 мільёнаў 821,7 тысячы чалавек. У параўнанні з пачаткам года яна зменшылася на 27,4 тысячы чалавек, паведамілі карэспандэнту ў міністэрстве статыстыкі і аналізу.

Паводле даных Мінстата, за студзень—чэрвень у рэспубліцы нарадзіліся 43 тысячы 553 дзіцяці. Гэта на 171 больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

Як і ў папярэднія перыяды, скарачэнне колькасці жыхароў абумоўлена перавышэннем на 28,6 тысячы чалавек колькасці памёршых над народжанымі пры адначасовым зніжэнні міграцыйнага прыросту. Дадатнае сальда міграцыі за студзень—чэрвень 2004 года знізіла натуральнае змяншэнне насельніцтва на 4,3 працэнта, за аналагічны мінулагодні перыяд — на 10,3 працэнта.

Найбольшае значэнне натуральнага змяншэння насельніцтва было ў Віцебскай вобласці (8,9 чалавека на 1000 жыхароў), у Мінскай (8,1), у Магілёўскай (7,8), а найменшае — у сталіцы (0,7).

За першае паўгоддзе ў параўнанні з аналагічным мінулагоднім перыядам колькасць памёршых па рэспубліцы знізілася на 1,8 працэнта. У тым ліку ў Брэсцкай вобласці — на 5,1 працэнта, у Гомельскай — на 4,4 працэнта, у Мінскай — на 2,1 працэнта, у Магілёўскай — на 1 працэнт і ў Гродзенскай вобласці — на 0,8 працэнта. Павялічылася колькасць памёршых у Мінску (на 2,2 працэнта) і ў Віцебскай вобласці (на 0,1 працэнта), адзначылі ў міністэрстве статыстыкі і аналізу. БЕЛТА.

*************************************************************

# Самая хуткая жанчына плянэты жыве ў Беларусі

Залаты мэдаль у бегу на 100 мэтраў Юліі Несьцярэнкі зь Берасьця стаўся адной з найвялікшых сэнсацыяў Алімпійскіх гульняў у Афінах. Спрынт -- самая кароткая дыстанцыя для лёгкаатлетаў -- заўжды знаходзіўся ў невялікім сьпісе самых прэстыжных відаў. Так павялося, што пераможца менавіта на гэтай дыстанцыі лічыцца самым хуткім чалавекам у сьвеце. І таму сёньня можна сьмела сьцьвярджаць: самая хуткая жанчына плянэты жыве ў Беларусі…

# Дэлегацыя Сэнату ЗША на чале з Джонам Маккэйнам абмеркавала ў Рызе сытуацыю ў Беларусі

Злучаныя Штаты й суседняя Латвія пацьвердзілі, што гатовыя падтрымаць барацьбу за дэмакратыю ў Беларусі. Амэрыканскі сэнатар Джон Маккэйн, якому афіцыйны Менск адмовіўся выдаць візу для паездкі ў Беларусь у жніўні, у суботу сустрэўся ў Рызе з кіраўніцтвам Латвіі ды абмеркаваў зь ім сытуацыю ў суседняй Беларусі.

У Рызе другі дзень знаходзіцца дэлегацыя Сэнату ЗША на чале з Джонам Маккэйнам, мэта візыту якой – абмеркаваць умацаваньне дэмакратыі ў рэгіёне. Гэта тая самая дэлегацыя 4 сэнатараў, якую ў гэтым месяцы не пусьцілі ў Беларусь. Апрача спадара Маккэйна, у яе склад уваходзяць сэнатары Сьюзэн Колінз, Ліндсэй Грэм і Джон Сунуну.

Новы міністар замежных справаў Латвіі Артыс Пабрыкс, які ўжо раней заяўляў пра намер латыскага ўраду дапамагаць справе дэмакратызацыі Беларусі, зноў пацьвердзіў гэтую пазыцыю падчас суботніх перамоваў з сэнатарам Маккэйнам – адным з аўтараў праекту "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі".

На прэсавай канфэрэнцыі ў Рызе, якая адбылася пасьля гэтай сустрэчы, сэнатар Маккэйн сказаў, што ЗША падтрымліваюць намаганьні Беларусі як мага хутчэй стаць свабоднай і дэмакратычнай дзяржавай. А кіраўнік МЗС Латвіі Артыс Пабрыкс дадаў: "Мы гатовыя разам змагацца за дэмакратыю. Латвія зычыць Беларусі ўсяго найлепшага, і мы спадзяемся, што ў кастрычніку выбары беларускага парлямэнту могуць прывесьці да істотных зьменаў у гэтай дзяржаве" .

Джон Маккэйн выказаў спадзяваньне, што тыя зьмены, якія хутка адбыліся ў Балтыі, маглі б натхніць таксама жыхароў Беларусі змагацца за дэмакратыю ў сваёй дзяржаве. Спадар Маккэйн назваў Латвію адным з найлепшых сяброў ЗША ў сьвеце й дадаў, што ў Латвіі адбываецца адна з найвялікшых у сьвеце гісторыяў посьпеху. Што да Беларусі, дык сэнатар Маккэйн выказаў сваю заклапочанасьць тамтэйшымі падзеямі й заявіў: "Лукашэнка маніпулюе канстытуцыяй дзяржавы, каб кантраляваць тое, што адбываецца ў краіне. Ён кіруе Беларусьсю як Савецкім Саюзам, выклікаючы ў людзей боязь і адчуваньне прыгнечанасьці. Там зьнікаюць журналісты ды актыўныя барацьбіты за дэмакратыю, арыштоўваюць тых, хто выступае супраць дыктатуры".

Джон Маккэйн нагадаў, што былы амбасадар Беларусі ў Латвіі Міхаіл Марыніч з 26 красавіка знаходзіцца за кратамі беларускай турмы, бо ён хацеў быць у апазыцыі. "Але", сказаў спадар Маккэйн, "ёсьць падставы для надзеі, бо ў Беларусі шмат людзей, якія змагаюцца за яе свабоду й дэмакратыю – напрыклад, дэпутат парлямэнту Валеры Фралоў, лідэр беларускай Партыі працы Аляксандар Бухвостаў і кіраўнік Беларускага Народнага фронту Вінцук Вячорка". Сэнатар падкрэсьліў: "Беларусі трэба ведаць, што дэмакратычныя сілы падтрымліваюць яе намаганьні здабыць свабоду. Мы захапляемся вашай мужнасьцю ды ўнутранай сілай".

У сваю чаргу, Валеры Фралоў выказаў шкадаваньне з тае нагоды, што беларускія органы ўлады адмовіліся выдаць візу дэлегацыі сэнату ЗША, але станоўча ацаніў амэрыканскую ды латвійскую падтрымку змагароў за дэмакратыю ў Беларусі. Спадар Фралоў сказаў, што ў Беларусі ствараюць ілюзію, быццам бы ўсё ў парадку: "Мы змагаемся за ўрадкай, хаця ў сьвеце гучаць выбухі бомбаў і людзі хварэюць на рак. У Беларусі пра гэта ня кажуць, ствараючы ўражаньне, што гэтага няма, што мы жывем у абароненым раі". Дэпутат Фралоў таксама не пагадзіўся з заявай Джона Маккэйна пра тое, што Лукашэнка кіруе Беларусьсю як Савецкім Саюзам, аднак дадаў: "Дакладней было б сказаць, што ён кіруе дзяржавай як калгасам. Ён лічыць, што ўся краіна – як калгас, якім ён раней кіраваў". Pavodle: Radio Svaboda

# ЭМІГРАНТЫ З БЕЛАРУСІ

*муз. Зм. ЯЎТУХОВІЧА, словы С. ПАНІЗНІКА*

**I**

*Адляцелі ў вырай гусі —*
*Эмігранты з Беларусі.*
*Як жывеце — разрастаеце*
*ў камлі?*
*Не развеяліся ў скрусе,*
*Вы жывеце з Беларусяй,*
*Разам з намі вы жывеце на зямлі.*

**Прыпеў:**
*А дзіцё чакае бусю*
*І сустрэчу з Беларусяй,*
*Дзе адвечныя*
*найменні — карані.*
*Разам з вамі не журуся,*
*Родным братам назавуся,*
*Стане болей і любові і радні!*

**II**

*Прылятуць дадому гусі —*
*Пасвятлее ў Беларусі,*
*Пашчасліве вялікая сям'я.*
*На Айчыну памалюся,*
*Да святыняў дакрануся*
*І адразу падужэю ўдвая.*
**Прыпеў**

**III**

*Эмігранты з Беларусі,*
*Прызнаюся, ганаруся:*
*Беларусамі застацца вы змаглі.*
*Вочы ў вочы — абдымуся,*
*Сэрца ў сэрца — прытулюся,*
*Толькі б жыць усім не ў скрусе*
*на Зямлі.*
**Прыпеў**




## СУСТРЭЧА Ў РЫЗЕ

Рыга, 21 жніўня. Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, старшыня зьліквідаванай уладамі Партыі працы Аляксандар Бухвостаў і член Палаты прадстаўнікоў Валеры Фралоў сустрэліся з дэлегацыяй Сэнату ЗША на чале з Джонам МакКейнам. У сустрэчы ўдзельнічаў міністар замежных справаў Латвіі Артыс Пабрыкс, які таксама правёў супольную прэс-канфэрэнцыю.

Сэнатары Джон МакКейн (John McCain), Ліндсэй Ґрэгэм (Lindsey Graham), Сьюзан Колінс (Susan Collins) і Джон Сунуну (John Sununu), якія пасьля візыту ва Украіну планавалі наведаць Беларусь, не атрымалі ўязных візаў ад афіцыйнага Менску. Яны вырашылі сустрэцца з прадстаўнікамі дэмакратычных сілаў Беларусі ў сталіцы Латвіі. У перамовах узялі ўдзел міністар замежных справаў Латвіі Артыс Пабрыкс (Artis Pabriks) ды іншыя прадстаўнікі латвійскага МЗС.

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка паінфармаваў суразмоўцаў пра ход выбарчай кампаніі, падкрэсьліўшы, што ўжо цяпер хапае сьведчаньняў яе заведамай недэмакратычнасьці з боку ўладаў. Са свайго боку, Дж. МакКейн падкрэсьліў гатоўнасьць амэрыканскіх заканадаўцаў і надалей спрыяць справе свабоды й дэмакратыі ў Беларусі. Ён пералічыў апошнія абуральныя факты, якія сьведчаць пра дыктатарскі характар лукашэнкаўскага рэжыму: фізычныя напады на актывістаў, арышты, закрыцьцё партыяў, атрыманае ад міністэрства юстыцыі папярэджаньне ў адрас Партыі БНФ і іншых за ўдзел у "Пяцёрцы плюс". Сэнатар выказаў упэўненасьць, што "годны беларускі народ будзе мець такі самы посьпех, як і выдатны народ Латвіі, у сваім імкненьні да свабоды".

Асобную сустрэчу зь беларускімі дэмакратычнымі лідэрамі правёў міністар замежных справаў Латвіі Артыс Пабрыкс.

## Польская паэзія па-беларуску

Сяджу з Алегам Лойкам на канапе і трымаю ў руках два тамы польскай паэзіі па-беларуску. — А дзе вы так выдатна навучыліся польскай мове? — пытаюся ў земляка. — Як дзе? — здзіўляецца ґрафесар. — Дома ў Слоніме. — І ці моцная польская паэзія? — О-о-о! Польская паэзія — самая моцная паэзія ў свеце! А на другім месцы — нашая, беларуская! — А расейская? — У расейскіх паэтаў кволая і нецікавая паэзія. Яна ўся савецкая, — разважае Алег Лойка. — А калі і ёсць добрыя паэты ў Расеі, дык усе яны сваімі каранямі звязаныя з Беларуссю. Прыйшлося з доктарам навук пагадзіцца, тым больш што, гартаючы двухтомнік ягоных перакладаў, трапіў на радкі майго любімага польскага паэта Тадэвуша Ружэвіча: "Паэт — гэта той, каторы адыходзіць, і той, каторы адысці не можа". Такое грунтоўнае выданне польскай паэзіі XX стагоддзя пабеларуску выдаецца ў нас упершыню. Упершыню ў Беларусі друкуецца большая частка з яе 180 аўтараў, творчасць якіх ярка выявіла асаблівасці эстэтычных пошукаў польскай паэзіі мінулага стагоддзя. Пачынаючы ад найстарэйшага паэта XX стагоддзя Цыпрыяна Норвіда і знаёмячы беларускага чытача з самым маладым польскім паэтам Марцінам Гаcésам, перакладчык зрабіў вялікую літаратурна-перакладчыцкую працу. Тым больш што і сама польская паэзія гэтага стагоддзя даволі глабальная...